**ПАТРАБУЙЦЕ**

ва ўсіх кнігарнях Белдзяржвыдавецтва, у коопэрацыйн. крамах Белкоопсаюзу, ва ўсіх газэтных кіёсках

**І ЧЫТАЙЦЕ**

**„МАЛАДНЯК“**

Цана асобн. нумару **40** кап.

# ПРЫМАЕЦЦА ПАДПІСКА

НА ШТОМЕСЯЧНУЮ ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКУЮ, ГРАМАДЗКА-ПОЛІТЫЧНУЮ ЧАСОПІСЬ

# „МАЛАДНЯК“

СЁМЫ ГОД ВЫДАНЬНЯ

Орган Беларускай Асоцыяцыі Пролетарскіх Пісьменьнікаў

## У часопісі супрацоўнічаюць:

А. Александровіч, М. Аляхновіч, З. Бандарына, Іл. Барашка, С. Баранаў, Я. Бобрык, П. Броўка, проф. П. Бузук, С. Баркоўскі, З. Бядуля, М. Быкавец (Харкаў), А. Вечар, Д. Васілеўскі, Н. Вішнеўская, Я. Відук, П. Галавач, М. Гарэцкі, К. Губарэвіч, А. Гурло, Ю. Гаўрук, А. Гародня, Я. Дыла, А. Дудар, проф. Н. Ефімаў (Смаленск), З. Жылуновіч (Ц. Гартны), М. Зарэцкі, С. Замбржыцкі, А. Звонак, Я. Івашын, проф. У. Ігнатоўскі, Я. Колас, Я. Купала, В. Каваль, М. Касьпяровіч, Б. Коваленко (Кіеў), Я. Ліманоўскі, Ю. Лявонны, М. Лынькоў, А. Моркаўка, Р. Мурашка, В. Маракоў, Б. Мікуліч, Т. Масэнко (Харкаў), Я. Мазуркевіч, М. Нікановіч, Е. Пфляумбаум, А. Бр. Пранукас (Масква), проф. У. І Пічэта, І. Плаўнік, Ал. Салагуб, А. Селіваноўскі (Масква), В. Сэрбэнта, В. Сутырын (Масква), А. Сянькевіч, В. Сташэўскі, П. Трус, Я. Туміловіч, А. Траецкі, Ю. Таўбін, С. Фамін, Ул. Хадыка, С. Хурсік, М. Хведаровіч, Т. Хадкевіч, Л. Цьвяткоў, Ал. Чарвякоў, М. Чарот, А. Шлюбскі, М. Шчакаціхін, С. Шушкевіч, А. Якімовіч і інш.

**Рэдакцыя „Маладняка“** лічыць сваёй задачай даць чытачу мастацкія творы з новым, сучасным зьместам, адпавядаючым эпосе нашага соцыялістычнага будаўніцтва, эпосе нараджэньня і формаваньня новага чалавека.

**Як орган Беларускай Асоцыяцыі Пролетарскіх Пісьменьнікаў,** часопісь „Маладняк“ на сваіх старонках будзе праводзіць цьвёрдую пролетарскую лінію, будзе змагацца з хістаньнямі і ўхіламі ў галіне нашага культурнага будаўніцтва.

**Дасягненьні пролетарскіх літаратур** братніх нацыянальнасьцяй займуць пэўнае месца на старонках нашай часопісі.

**У 1929 годзе будзе зьмешчаны** шэраг артыкулаў аб творчых шляхох пролетарскай літаратуры, аб мастацтве, тэатры, кіно і музыцы.

**Новы аддзел** гумару і сатыры—шаржы, пародыі, літаратурныя гумарэскі і фэльетоны.

**Водгукі на новыя кніжкі.**—Хроніка літаратурнага і культурнага жыцьця.

**У кожнай клюбнай бібліотэцы, у чырвоным кутку фабрыкі і заводу, у нардоме, у літгуртку, у хаце-чытальні, у школе, у партыйнай і комсамольскай ячэйцы павінен быць выпісаны „Маладняк“—штомесячнік літаратуры, мастацтва і грамадзка-політычнага жыцьця. Рабочы, селянін, настаўнік, студэнт, кожны працоўны, хто цікавіцца культурным будаўніцтвам і літаратурай, — выпісвайце і чытайце „Маладняк“! Організуйце колектыўную выпіску „Маладняка“! Праводзьце голасныя чыткі літаратурнага матар'ялу ў школах і комсамольскіх ячэйках!**

**Пасылайце падпіску непасрэдна**

*НА АДРАС РЭДАКЦЫІ:*

*Менск, Савецкая, 68. ДОМ ПІСЬМЕНЬНІКА, тэл. № 877.*

**УМОВЫ ПАДПІСКІ:**

| | | |
|---|---|---|
| На 1 год | . | 3 р. |
| „ 6 м-цаў. | | 1 р. 60 к. |
| „ 3 м-цы. | — | 90 к. |
| „ 1 м-ц. | — | 30 к. |

Пры выпісцы заграніцу падпісная плата падвойваецца

**ПАДПІСКА ПРЫМАЕЦЦА**

ва ўсіх паштовых аддзяленьнях і агенцтвах, ва ўсіх магазынах Белдзяржвыдавецтва, усімі аддзялен. „Известия“ і „Правда“ і спэцыяльнымі ўпаўнаважан. Выдавецтва „Чырвоная Зьмена“

Пралетары ўсіх краёў, злучайцеся!

# БАЛЬШАВІК БЕЛАРУСІ

ЧАСОПІСЬ ПАЛІТЫКІ І ПРАКТЫКІ
ПАРТЫЙНАЙ ПРАЦЫ
ОРГАН ЦК КП(б)Б



№ 5
МАЙ

МЕНСК — 1929



# Да вынікаў аб‘яднанага Пленуму ЦК і ЦКК УсеКП(б) і XVI партыйнай канфэрэнцыі.

Аб‘яднаны пленум ЦК і ЦКК і XVI партыйная канфэрэнцыя УсеКП(б) адбыліся ў той гістарычны момант, калі комуністычная партыя і рабочая кляса пераходзіць да разгорнутага соцыялістычнага наступу на капіталістычная элемэнты гораду і вёскі. XV зьезд Комуністычнай партыі ў жыцьці краіны, у жыцьці партыі і рабочае клясы меў значэньне этапу, значэньне пералому.

Асноўнымі лёзунгамі XV зьезду зьяўляліся: хуткая соцыялістычная індустрыялізацыя краіны і колектывізацыя сельскае гаспадаркі. Вось тыя рашучыя зьвеньні, за якія трэба было рабочай клясе і ўсім працоўным ухапіцца, каб далей цягнуць увесь ланцуг соцыялістычнага будаўніцтва.

Рашучае правядзеньне генэральнай лініі, намечанай XV зьездам, значныя посьпехі, якія мы зрабілі за гэты час у галіне індустрыялізацыі краіны і колектывізацыі вёскі, рашучае выкарчоўваньне рэштак капіталізму актывізавалі капіталістычныя элемэнты і спрыялі абвастрэньню клясавай барацьбы. Наяўнасьць абвостранай клясавай барацьбы поруч з тымі цяжкасьцямі, якія спадарожнічаюць нашаму росту, выклікалі хістаньні ў некаторай найбольш адсталай частцы рабочае клясы, а таксама сярод некаторых элемэнтаў нашае партыі. Гэтыя хістаньні характарызуюцца панікёрствам, капітулянствам перад труднасьцямі, яны выявіліся ў яўным апортуністычным правым ухіле.

Правыя ўхілісты дэманстравалі сваю няздольнасьць рашуча ўзяцца разам з партыяй і рабочай клясай за перамогу цяжкасьцяй, зьвязаных з соцыялістычным будаўніцтвам; выявілася іх няверʻе ў сілы рабочае клясы перамагчы гэтыя цяжкасьці, выявілася іх няверʻе весьці за сабою асноўныя масы сялянства па шляху соцыялістычнай перабудовы вёскі.

Выхад з гэтых цяжкасьцяй правыя шукаюць не па шляху перамогі цяжкасьцяй праз найбольш узмоцнены тэмп індустрыялізацыі краіны— яны пайшлі па лініі „найменшага супраціўленьня“, па лініі адбою ад генэральнай лініі, намечанай XV зьездам партыі, бо яны лічаць, што менавіта ўзмоцнены тэмп індустрыялізацыі паглыбляе і замацоўвае нашы цяжкасьці.

Зразумела, што ў адпаведнасьці з такою ўстаноўкай яны адмаўляюцца падтрымліваць і конкрэтныя пляны нашага будаўніцтва, займаюць іншую позіцыю ў пытаньнях нашае работы сярод сялянства.

Намечаны партыяй плян пяцігадовага будаўніцтва яны імкнуліся замяніць наметкай на бліжэйшыя пару гадоў з упорам не на індустрыялізацыю, а на сельскую гаспадарку, галоўным чынам, на больш шпаркае разьвіцьцё прыватна-ўласьніцкага сэктару апошняй.

Правыя не разумеюць таго, што мы далёка пайшлі ўперад ад тэй гаспадарчай змычкі з сялянствам, якая мела месца ў пачатку нэпу і якая насіла, галоўным чынам, спажывецкі характар.

Сёньня партыя лічыць рашаючымі формамі змычкі новыя вытворчыя формы—даць для вёскі ня толькі паркаль, але і машыну, трактар і г. д., што дапаможа сапраўднай соцыялістычнай рэконструкцыі вёскі. Змычка з асноўнымі масамі сялянства на даным этапе робіцца праз колектывізацыю сельскае гаспадаркі, праз вытворчае коопэраваньне, контрактацыю і ўздым ураджайнасьці.

Не разумеючы Ленінскай дыалектычнай пастаноўкі аб формах змычкі на новым этапе, стоячы на старых позіцыях спажывецкіх форм гэтай змычкі, правыя няўнікнёна ідуць па шляху разьвязваньня капіталістычных элемэнтаў вёскі (а таксама і гораду), тут карэньні тэорыі правых мірнага ўрастаньня кулака ў соцыялізм, тэорыя неперарыўных уступак сялянству.

Не разумеючы новых клясавых зрушэньняў у краіне, стоячы на позіцыі, што паскораны тэмп індустрыялізацыі паглыбляе і замацоўвае нашы труднасьці, закрываючы вочы на факт нашага соцыялістычнага наступленьня, правыя імкнуцца ня бачыць вострых праблем клясавай барацьбы. Больш таго, яны нават дагаварыліся да таго, што гэтая абвостраная барацьба—кулацкія падпалы, руйнаваньне зернаачышчальных прылад, зрыў вясеньняй пасеўнай кампаніі кулацкімі элемэнтамі, выступленьні кулака з абрэзам—зьяўляюцца вынікам нашае „чрэзвычайшчыны“, адсутнасьцю рэволюцыйнай законнасьці, неадпаведнаю работаю нашае адміністрацыйнае машыны.

Вось да якіх гэркулесавых слупоў могуць дайсьці людзі, якія зьбіліся з верных ленінскіх позіцый.

Правыя закрываюць вочы на той факт, што за часы нэпу капіталістычная верхавіна нэпа вырасла і распараджаецца ў сучасны момант большымі магчымасьцямі для гаспадарчага манэўраваньня, чым у першыя гады нэпу. Гэтыя магчымасьці яна імкнецца выкарыстаць у мэтах зрыву дзяржаўнага рэгуляваньня рынку і палітыкі цэн савецкае дзяржавы.

Замест таго, каб дапамагчы партыі і рабочай клясе мобілізаваць супроць кулацкага контр-наступу бядняцка-серадняцкія масы вёскі, правыя даюць у рукі кулаку новы лёзунг для барацьбы супроць пролетарскай дыктатуры сваім агідным абвінавачваньнем партыі аб ваенна-фэодальным эксплёатаваньні сялянства, яны гэтым хочуць давесьці, што нібы партыя дакацілася да троцкісцкіх позіцый.

Гэты лёзунг на даным этапе абвостранай клясавай барацьбы, калі кулак адмаўляецца даць нам хлеб, калі без барацьбы гэтага хлеба ад кулака ўзяць нельга, калі ён сабатуе ўсе мерапрыемствы савецкае ўлады, зьяўляецца асабліва небясьпечным.

Таму, яшчэ з большай энэргіяй мы павінны ўзяцца за організацыю сялянскай беднаты, за ўмацаваньне блёку з серадняком, каб, абапіраючыся на вясковую грамадзкасьць—бедняка і серадняка, даць рашучы адпор кулацкаму саботажу, асабліва ў хлебазагатоўках.

Мы таксама маем сувязь правага ўхілу, які ёсьць унутры нашай партыі, з правым ухілам у шэрагах Комінтэрну. Яна выражаецца ў тым, што правыя ўхілісты не згаджаюцца з ацэнкаю трэцяга пэрыоду імпэрыялізму, якая дана VI Кангрэсам Комінтэрна, і не дапамагаюць, а, наадварот, тармозяць барацьбу з правымі ўхілістамі і прымірэнцамі ў шэрагах братніх камуністычных партый.

Правыя не разумеюць, што ў сучасных умовах клясавай барацьбы на Захадзе, непасрэднай падрыхтоўкі да новых боек, соцыял-дэмократыя з яе левым крылом грае ролю агента буржуазіі, і адгэтуль яны не даацэньваюць неабходнасьці змаганьня з соцыял-дэмократычнымі тэндэнцыямі ў шэрагах нашых братніх компартый.

Правыя, як бачым, выступілі з яснай плятформай, выступілі з адпаведнай тэорыяй і тактыкай.

Іх платформа—згортваньне тэмпу індустрыялізацыі краіны і соцыялістычнае рэконструкцыі вёскі, тэорыя мірнага ўрастаньня кулака ў соцыялізм, курс на разьвязваньне капіталістычных элемэнтаў, адмаўленьне кіруючай ролі пролетарыяту ў адносінах да сялянства—зразумела выклікае і адпаведнае тактыкі. Перад наяўнасьцю абвостранай клясавай барацьбы яны імкнуцца абяззброіць рабочую клясу і перадаць ініцыятыву барацьбы ў рукі кулацтву. Гэта ёсьць шлях буржуазнае рэстаўрацыі.

Каб аслабіць шэрагі нашае партыі, правыя не дарма выцягнулі з троцкісцкага арсэналу абвінавачваньні аб бюрократызьме, аб зажыме ў партыі.

Запазычаючы ў троцкістых баявыя прылады, накіраваныя супроць організацыйных прынцыпаў бальшавізма, правыя маюць яшчэ нагласьць абвінавачваць партыю, што яна нібы стала на троцкісцкія позіцыі, успрыняла лёзунг троцкізму аб „ваенна-фэадальнай эксплёатацыі сялянства“.

Уся партыя з найвялікшай агідаю адхіліла нячуваныя паклёпы на партыю. Уся партыя на конфэрэнцыях дала рашучы аднадушны адпор праваму, яўна опортуністычнаму ўхілу. Такі сама рашучы адпор новым ідэолёгам дробнай буржуазіі далі красавіковы пленум і XVI-я партконфэрэнцыя.

Перад наяўнасьцю бальшавіцкага адпору правыя заявілі, што яны ня пойдуць па шляху афармленьня опозіцыі.

Партыя ведае цану такім заявам. Партыі нельга змануць абяцанкамі. Перад усёй партыяй правыя павінны былі шчыра прызнаць свае памылкі, сваё адступленьне ад ленінскіх позіцый, адмовіцца ад сваіх дробна-буржуазных опортуністычных тэорый, рашуча стаць на абарону лініі і палітыкі партыі.

XVI-я партконфэрэнцыя заклікала ўсю партыю пільна сачыць за ўсякімі праявамі правага ўхілу, даваць ім самы рашучы, бальшавіцкі адпор. Партыя не дапусьціць фракцыйнага афармленьня правых ухілістаў. Тых, хто зьбіраецца ісьці гэтым шляхам, чакае лёс троцкістых.

XVI-я партконфэрэнцыя паставіла перад партыяй, перад рабочай клясай і працоўным сялянствам кардынальныя задачы—задачы далейшай узмоцненай індустрыялізацыі краіны, задачы соцыялістычнай рэконструкцыі сельскае гаспадаркі. Выкананьне колёсальных задач, якія стаяць перад намі, зацьверджаны XVI партконфэрэнцыяй 5-цігадовы плян, задач рэконструкцыйнага пэрыяду, перамога цяжкасьцяй пры наяўнасьці абвостранай клясавай барацьбы ў краіне патрабуюць перабудовы відаў і мэтадаў работы ўсіх органаў пролетарскай дыктатуры і ўсіх організацый рабочае клясы.

Прыняты XVI партконфэрэнцыяй і зацьверджаны пленумам ЦК 5-цігадовы плян набывае вялізарнае гістарычнае значэньне. Ён намячае ня проста рост продукцыйных сіл народнае гаспадаркі, але такі рост, як пераводзіць савецкую краіну з аграрна-індустрыяльнай у індустрыяльна-аграрную.

Гэты плян згодна пастановы XVI партконфэрэнцыі цалкам забясьпечвае:

а) Максімальнае разьвіцьцё вытворчасьці сродкаў вытворчасьці, як асновы індустрыялізацыі краіны;

б) Рашучае ўзмацненьне соцыялістычнага сэктару ў горадзе і вёсцы за кошт капіталістычных элемэнтаў у народнай гаспадарцы, уцягненьне мільёнаў мас сялянства ў соцыялістычнае будаўніцтва на базе

коопэраванай грамадзкасьці і колектыўнай працы і ўсямерную дапамогу бядняцка-серадняцкім індывідуальным гаспадаркам у іх барацьбе супроць кулацкай эксплёатацыі;

в) Зжываньне нязьмернай адсталасьці сельскае гаспадаркі і вырашэньне ў асноўным зернавое проблемы;

г) Значны ўздым матар'яльнага і культурнага ўзроўню рабочае клясы і працоўных мас вёскі;

д) Замацаваньне кіруючай ролі рабочае клясы на базе разьвіцьця новых форм змычкі з асноўнымі масамі сялянства;

е) Замацаваньне экономічных і палітычных позіцый пролетарскае дыктатуры ў яе барацьбе з клясавымі ворагамі як унутры краіны, так і па-за краінай;

ж) Гаспадарчы і культурны ўздым нацыянальных рэспублік і адсталых раёнаў і абласьцей;

з) Значнае ўзмацненьне абароназдольнасьці краіны;

і) Буйны крок уперад у справе ажыцьцяўленьня лёзунгу партыі: дагнаць і выперадзіць у тэхнічна-экономічных адносінах перадавыя капіталістычныя краіны.

Вялізарнае значэньне пяцігадовага пляну і ў тым, што ён будзе дапамагаць у організацыі рабочых і асноўных мас сялянства навакол задач соцыялістычнага будаўніцтва, бо гэты плян навочна паказвае рабочаму і бядняцка-серадняцкім масам сялянства, што будуць яны мець у выніку сваіх намаганьняў на наступны год або праз 4-5 год.

Пяцігадовы плян, а таксама пастановы аб шляхох уздыму сельскае гаспадаркі яшчэ ў большай меры дапамогуць нам падняць у пралетарскіх масах энтузыязм будаўнікоў соцыялізму, мобілізаваць і павялічыць актыўнасьць пролетарскіх і полупролетарскіх мас. На аснове далейшага разгортваньня самакрытыкі, разгортваньня сацыялістычнага спаборніцтва, на аснове далейшага замацаваньня саюзу пролетарыяту з серадняцкімі масамі сялянства пры апоры на беднату мы забясьпечым кіруючую ролю пролетарыяту ў соцыялістычным будаўніцтве, забясьпечым належны і пасьлядоўны адпор дробна-буржуазнай стыхіі.

Сталёвае ленінскае адзінства, монолітнасьць радоў партыі зьяўляецца і надалей асноўным залогам нашага пасьпяховага прасоўваньня ўперад. Перамога ўсякіх праяў і наяўнага і замаскаванага правага ўхілу, бальшавіцкая пільнасьць, няшчадная барацьба супроць усякіх праяў правага ўхілу, усякага адыходу ад ленінскай тэорыі палітыкі ў штодзённай практычнай рабоце—зьяўляецца першачарговай задачай кожнага члена партыі.

У мінулым мы перамаглі большыя цяжкасьці, ідучы пад ленінскім неперāможным сьцягам. З такою-ж рашучасьцю рабочая кляса на чале з партыяй будзе перамагаць труднасьці соцыялістычнага будаўніцтва, зьмятаючы з ленінскае дарогі ўсіх тых, хто будзе чапляцца за ногі і перашкаджаць нашаму пераможнаму прасоўваньню ўперад па шляху соцыялізму.

---

**Фэйгельсон.**

# Дзесяць год Камуністычнага Інтэрнацыяналу *).

*(1919—1929 г.).*

## V.

*Першы кангрэс* Камінтэрну (сакавік 1919 году) не характарызаваўся колькі-небудзь значнай барацьбой плыняў. Рэвалюцыйны рух імпэтна разьвінаўся, зьвязаныя з гэтым задачы барацьбы ўяўляліся яснымі і само сабой зразумелымі; камуністычныя арганізацыі толькі-толькі разгортвалі сваю работу і не пасьпелі яшчэ ва ўсёй сваёй канкрэтнасьці ахапіць злучнасьць стаячых перад імі вялізарных практычных праблем. З другога боку, першы кангрэс, па самому свайму характару ўстаноўчага кангрэсу, натуральна заняўся фармуляваньнем элемэнтарных прынцыповых палажэньняў праграмы і тактыкі, навокал якіх лёгка маглі зьяднацца дэлегаты і якія адчынялі параўнальна мала прастору для дыскусый і разнагалосьсяў. Зразумела, што „нараджаўшаяся“ на 1-м кангрэсе міжнародная рэвалюцыйная арганізацыя ўсю сілу свае крытыкі накіравала супроць правых, супроць апартуністычнага 2-га Інтэрнацыяналу. „Кангрэс Камуністычнага Інтэрнацыяналу лічыць той „Інтэрнацыянал“, які імкнецца адрадзіць Бэрнская канфэрэнцыя, жоўтым Інтэрнацыяналам штрэйкбрэхэраў, бо ён зьяўляецца толькі зброяй у руках буржуазіі.

Кангрэс заклікае рабочых усіх краін пачаць самую рашучую барацьбу супроць жоўтага Інтэрнацыяналу і засьцерагае шырокія масы народу ад гэтага „Інтэрнацыяналу“ маны і ашуканства“. Гэтымі словамі маніфэсту можна сьцісла выразіць тую асноўную ідэю, пад знакам якой праходзілі работы 1-га кангрэсу.

К моманту *2-га кангрэсу* (ліпень 1920 году) палажэньне ў Камінтэрне істотна зьмянілася. Ужо ў канцы 1919 году Ленін з поўнай падставай мог напісаць: „III-ці Інтэрнацыянал дасягнуў шэрагу бліскучых нябачаных дасюль перамог за некалькі месяцаў. Хуткасьць яго росту зьдзіўляе“. Сапраўды, у прамежку паміж 1-м і 2-м кангрэсамі да Камінтэрну далучыўся шэраг сацыялістычных партый (Італьянская, левае крыло Швэдзкай, Нарвэжская рабочая, Паўднёва-Слаўская, Баўгарскія цесьнякі, Брытанская і інш.), а таксама шэраг арганізацый рэвалюцыйнага сындыкалізму. Адначасна хутка прагрэсаваў развал 2-га Інтэрнацыяналу, што ярка выявілася на яго кангрэсе, скліканым у Люцэрне ў жніўні 1919 году і наступным уцёкам з складу 2-га Інтэрнацыяналу буйнейшых партый (Нямецкая незалежная, Францускія сацыялістыя, Ангельская незалежная рабочая партыя, расійскія меншавікі і г. д.). Рэвалюцыйны рабочы рух наяўна ўздымаўся на больш высокую ступень і нездарма ВККІ у сваім цыркулярным лісьце „Аб скліканьні 2-га сусьветнага кангрэсу“ пісаў: „1-ы кангрэс Камуністычнага Інтэрнацыяналу ўзьняў сьцяг камунізму. Цяпер пад гэтым сьця-

---

*) Працяг, глядзі „Бальшавік Беларусі“ № 4—1929 г.

гам стаяць ужо мільёны і мільёны сьвядомых рабочых ва ўсім сьвеце. Цяпер справа ідзе ўжо ня толькі аб прапагандзе ідэй камунізму. Цяпер надыходзіць эпоха арганізацыі камуністычнага пралетарыяту і непасрэднай барацьбы за камуністычную рэвалюцыю"[1]). Масы стыхыйна рваліся да рэвалюцыі і з энтузіазмам станавілся пад сьцяг Камінтэрну. Аднак, працэс арганізацыйнага афармленьня гэтай стыхійнай цягі праходзіў з цяжкасьцямі і ня досыць хутка. Ён адбываўся ў кансэрватыўных арганізацыйных рамках старых сацыялістычных партый, у выглядзе жорсткай барацьбы плыняў у сярэдзіне іх з паступовым паслабленьнем уплыву правага крыла на карысьць больш радыкальных левых элемэнтаў. Большасьць старых правадыроў, выкарыстоўваючы ўсе сродкі, якія меліся ў іх распараджэньні, усяляк супрацівіліся пераходу іх партый на пляцформу Камінтэрну. Адны з гэтых правадыроў насіліся з ідэяй утварэньня „новага ўблюдачнага Інтэрнацыяналу, які стаіць паміж 2-м і 3-м Інтэрнацыяналамі". Другія, падкрэсьліваючы „безнадзейнасьць" становішча Савецкай Расіі, сьціснутай ворагамі, паказвалі сваім партыям (як гэта, напрыклад, зрабіў на Лейпцыгскай канфэрэнцыі Нямецкіх Незалежных Гільфэрдынг), што „па пытаньню аб зьліцьці з Маскоўскім Інтэрнацыяналам мы павінны ўлічыць тую абставіну, што можа мы прычэпліваем наш чаўнок да гінучага карабля"[2]). Нарэшце, трэція, якія больш цьвяроза ацэньвалі сапраўднае становішча рэчаў, не адмаўляліся „пакакетаваць" з Камінтэрнам, нават увайсьці ў яго склад, але нічым ня зьвязваючы сябе з такой аўтаноміяй, якая-б дазваляла ім прыцягваць дзейнічаць так, як яны дзейнічалі дагэтуль"[3]). Асабліва ярка гэтыя настроі выявіў прайдзі-сьветны дзяляк апартунізму Італьянец Модзільяні, які наступным чынам упэўніваў Лонге ўвайсьці ў Камінтэрн: „Чаму не ўвайсьці ў 3-ці Інтэрнацыянал? Гэта ні да чаго нас не абавязвае. Досыць пасылаць раз у 2 тыдні адкрыты ліст у Выканаўчы Камітэт. Больш нічога. Чаму-б нам гэтага не зрабіць?"[4]). Другі выдатны апартуніст, таксама італьянец Турацьці, на пытаньне аб тым, чаму ён, зьяўляючыся рэфармістам, зьяўляецца членам Камінтэрну, бяссорамна адказаў: „Таму, што такім чынам я магу ўплываўваць на рабочую клясу". Гэта разуменьне неабходнасьці часова „прыхінуцца да моцнеючага Камуністычнага Інтэрнацыяналу" ўсё больш ахапляла (раўналежна з працэсам рэвалюцыянізаваньня мас) цэнтрысцкія і апартуністычныя элемэнты рабочага руху. Адгэтуль, паколькі 1-ы Кангрэс КІ ня выпрацаваў дакладных умоў прыёму ў 3-ці Інтэрнацыянал, перад апошнім паўстала ва ўвесь узрост небясьпека, „разжыжэньня яго хісткімі палавінчатымі групамі", а таксама проста наяўна апартуністычнымі элемэнтамі. З другога боку вопыт даказаў, што „ў некаторых буйных партыях (Італія, Швэцыя, Нарвэгія, Паўднёвая Славія і інш.), большасьць якіх стаіць на глебе камунізму, дагэтуль застаецца значнае рэфармісцкае і сацыял-пацыфісцкае крыло, якое толькі чакае моманту, каб зноў падняць галаву, пачаць актыўны сабатаж пралетарскай рэвалюцыі і тым дапамагчы буржуазіі і 2-му Інтэрнацыяналу"[5]). Такія былі тыя ўмовы, якія прымусілі 2-і Кангрэс асноўную моц агню накіраваць на-права, супроць апартуністаў і цэнтрыстаў. Другі Кангрэс з усёй рэзкасьцю заявіў, што Камінтэрн зусім ня „добрая гасьцініца, дзе,

[1]) Стэнаграфічная справаздача 2-га Кангрэсу КІ. 1921 г., стар. 7.
[2]) 2-гі кангрэс. Стэнагр. справаздача, стар. 213,
[3]) 2-гі кангрэс. Стэнаграфічная справаздача, стар. 195.
[4]) Там-жа, старонка 196.
[5]) Рэзалюцыя 2-га Кангрэсу Камінтэрну „Аб умовах прыёму ў КІ". Стэнагр. справаздача, стар. 561.

прадстаўнікі розных краін сьпяюць Інтэрнацыянал і абмяняюцца прывітаньнямі, а потым разьедуцца і будуць працягваць свой ранейшы чын дзеяньня“ [1]). Фактычна, усёй злучнасьцю прынятых рашэньняў 2-гі Кангрэс канкрэтна адказаў на пытаньне: што-ж уяўляе сабой Камуністычны Інтэрнацыянал? *Чым ён хоча быць?* Усім вядомы славутыя „21 умова“—гэты 21 шэраг драцяных загародак, якімі атачыў сябе Камінтэрн супроць наплыву чужародных элемэнтаў, вызначыўшы „зусім дакладныя ўмовы прыёму новых партый“ і паказаўшы „тым партыям, якія ўжо прыняты ў Камінтэрн, тыя абавязкі, якія ляжаць на іх“ [2]). Далей, 2-гі Кангрэс, грунтуючыся на дакладзе тав. Леніна „Аб асноўных задачах Камуністычнага Інтэрнацыяналу“: 1) паставіў і вырашыў праблему аб ролі Камуністычнае партыі ў пралетарскай рэвалюцыі, 2) канкрэтызаваў сваёй рэзалюцыяй, калі і пры якіх умовах можна ўтвараць Саветы Рабочых Дэпутатаў“, лёзунг дыктатуры Пралетарыяту, абвешчаны 1-м Кангрэсам, 3) даў разгарнутае фармуляваньне сваёй пазыцыі ў аграрным, калёніяльным і нац. пытаньнях, прынцыпова і практычна распрацаваўшы тую думку, што „прамысловыя рабочыя ня могуць выканаць сваёй сусьветнай гістарычнай місіі вызваленьня чалавецтва“, калі яны не „выступаюць і паступаюць, як авангард усіх працоўных эксплёатаваных, як правадыр іхны ў барацьбе за зьвяржэньне эксплёататараў“ [3]), 4) ахарактарызаваў адносіны Камінтэрну да прафсаюзаў і парлямэнтарызму і, нарэшце, 5) прыняў статут, які грунтуецца на тым, што „Камуністычны Інтэрнацыянал павінен сапраўды і фактычна ўяўляць сабою адзіную сусьветную камуністычную партыю, асобнымі сэкцыямі якой зьяўляюцца партыі, дзейнічаючыя ў кожнай краіне“ [4]).

Калі 2-гі Кангрэс галоўную сваю ўвагу прызначыў барацьбе з правымі, то ён ня мог прайсьці і паўз левыя ўхілы, якія далі сябе адчуць у шэрагу краін к моманту кангрэсу. Пажыўным асяродзьдзем гэтага тыпу ўхілаў зьявіліся рэвалюцыйныя анарха-сындыкалісцкія элемэнты, якія аформіліся яшчэ ў давайсковы час у барацьбе супроць апартунізму сацыялістычных партый, а таксама паказанае намі вышэй [5]) новае пакаленьне рабочых, якое вырасла ў час і пасьля сусьветнай вайны. Камінтэрн поўнасьцю аддаваў сабе справаздачу ў ідэолёгічнай нявытрыманасьці гэтых груповак („Камітэт фабрычна-заводзкіх старастаў“ у Англіі; Амэрыканскія „Індустрыяльныя Рабочыя Сусьвету“; рэвалюцыйныя сындыкалістыя Нямеччыны, Францыі, Італіі, Гішпаніі), аднак, у адрозьніваньне ад сваіх адносін да правых і цэнтрысцкіх элемэнтаў, ён „лічыў магчымым і пажаданым іх безадкладнае далучэньне да Камінтэрну“, лічачы, што мае тут справу „з рухам, які ў аснове стаіць фактычна на глебе карэнных прынцыпаў Камінтэрну“ і „левыя“ захапленьні якога ў асноўным тлумачацца „палітычнай нявопытнасьцю цалкам рэвалюцыйных і зьвязаных з масай пралетарыяў“. Таму 2-гі Кангрэс палічыў мэтазгоднай „палітыку найбольш прыязных адносін да гэтых арганізацый, зближэньне з імі і з спачуваючай ім масай, прыяцельскага растлумачэньня ім, з пункту погляду вопыту ўсіх рэвалюцый“, памылковасьці іх „левізны“. Такім прыяцельскім растлумачэньнем „левым“ ухілістам іхных памылак Ленін цярпліва займаўся ў сваёй „Дзіцячай Хваробе“; гэтую-ж „пэдагогічную“ работу працягнуў 2-гі Кангрэс, які аддаў на дакладны кры-

[1]) 2-гі Кангрэс. Стэнаграф. справаздача, стар. 200.
[2]) 2-гі Кангрэс. Стэнагр. справаздача, ст. 561.
[3]) Там-жа, стар. 607 (Рэз. па аграрнаму пытаньню).
[4]) Там-жа, стар. 621 (Статут Камінтэрну).
[5]) Гл. „Бальшавік Беларусі“, № 4—1929 год.

тычны разгляд памылкі левых і, прызнаўшы ў выніку „няправільнымі іхныя погляды на адносіны партыі да клясы і да масы, на неабавязковасьць удзелу Камуністычных партый у буржуазных парлямантах і ў рэакцыйных прафсаюзах“.

## VI.

У прамежку паміж 2-м і 3-м Кангрэсам Камінтэрну (ліпень 1920 г.—чэрвень 1921 году) адбыліся падзеі, якія значылі сабой *надыход „новага этапу“* ў разьвіцьці пралетарскае рэвалюцыі. З аднаго боку, шэраг баёў рабочае клясы (у Італіі, Англіі, Нямеччыне, Чэха-Славакіі) скончыўся яго паражэньнямі; з другога боку, хоць Савецкай Расіі і ўдалося пры падтрыманьні міжнароднага пралетарыяту выйсьці пераможніцай з грамадзянскай вайны, але яна апынулася ў стадыі цяжкага ўнутранага гаспадарчага і палітычнага крызісу, выхад з якога краіна пралетарскай дыктатуры стала шукаць на шляхох новай эканамічнай палітыкі. У той-жа час, як вынік няўдачы першай хвалі рабочай рэвалюцыі, наяўна вызначыўся пераход буржуазіі ў наступ супроць пралетарыяту, як на эканамічным, так і на палітычным фронце. У выніку абставіны, якія склаліся к моманту 3-га Кангрэсу, можна ахарактарызаваць наступным чынам: „Элемэнт арганізаванасьці ў рабочым руху за 2 гады існаваньня Камінтэрну, бязумоўна, узрос надзвычайна. Камуністычныя партыі ўяўляюць у 1921 г., бязумоўна, большую арганізаваную сілу, чым у 1919 г. Але элемэнт спонтантэйнасьці ў барацьбе мас, элемэнт стыхыйнасьці ўздыму ў працягу гэтых двух год стаў слабей; супраціўнік за гэтыя 2 гады ўзмацніўся, буржуазія кансалідавался, з‘арганізавалася, аправілася ад першага замяшаньня пасьля вайны, перабудавала свае шэрагі і стаіць перад намі зноў, як сур‘ёзны, мясьцінамі грозны, супраціўнік“ [1]). 3-му Кангрэсу і прышлося даць адказ на хворыя пытаньні рабочага руху прыстасоўна да вышэй акрэсьленых новых умоў яго. Раней за ўсё Кангрэс пацьвердзіў правільнасьць агульна-прынцыповай установкі Камінтэрну, якая выходзіць з ацэнкі сучаснай эпохі, як эпохі пралетарскай рэвалюцыі, падкрэсьліўшы, што „застаецца бясспрэчным, што ў перажываемую эпоху крывая капіталістычнага разьвіцьця ў агульным ідзе—цераз часовыя ўздымы—уніз; крывая рэвалюцыі—цераз усе хістаньні—ідзе ўверх“ [2]). Аднак, гэтую непарушанасьць асноўнай стратэгічнай лініі Камуністычнага Інтэрнацыяналу 3-ці кангрэс спалучыў з паказаньнем на неабходнасьць ужываньня *новай тактыкі*. Мы сталі мацней, але і вораг узмацніўся, паправіўшыся пасьля першых удараў. Новыя моцныя рэвалюцыйныя баі няўхільны, але яны будуць адбывацца ў больш цяжкіх умовах узросшага супраціўленьня ворага. Улічваючы гэта, а таксама памятаючы вурокі здарэньняў 1918—1921 г.г., на долю Камуністычнага авангарду выпадае адказьнейшая работа па больш плянамернай падрыхтоўцы і арганізацыі наступных баёў. Уліцца ў самую гушчу пралетарыяту і масу працоўных, завяваць большасьць рабочае клясы на бок камунізму. Разгарнуць шырокую барацьбу за „частковыя вымаганьні“ па палепшаньню становішча мас з тым, каб, бяручы гэтую барацьбу за выходны пункт нашай штодзеннай агітацыйнай і арганізацыйнай работы, падвесьці масу ў канцы канцоў да барацьбы за пралетарскую дыктатуру. Упарта, не пакладаючы рук, працаваць ва ўсіх рабочых арганізацыях (Саветах, Прафсаюзах, Каапэрацыі,

---

[1]) „Камуністычны Інтэрнацыянал“ № 18, арт. „Тактыка Кам-ну“, стар. 4461.
[2]) З Рэзалюцыі 3-га Кангрэсу „Сусьветнае становішча і нашы задачы“.

і г. д.). Здольна палучаць легальную і нелегальную работу. Такія былі асноўныя тактычныя дырэктывы, дадзеныя 3-ім Кангрэсам сэкцыям Камінтэрну.

Ужо да кангрэсу выявілася, што правядзеньне такой тактычнай лініі спаткае досыць моцнае супраціўленьне з сярэдзіны. Баі 1920-21 г.г. паказалі наяўнасьць як правых, так і левых ухілаў у кампартыях, ухілаў, якія зрабілі цяжкую шкоду рэвалюцыйнай барацьбе. (Успомнім цэнтрысцкую паражэнчую лінію Італьянскай партыі ў верасьнёвы дні 1920 году і ультра левыя захапленьні кіраўніцтва нямецкай кампартыі ў Сакавіковых здарэньнях 1921 г.!). Бязумоўна, што няўдачы 1920-1921 г.г. павінны былі ўзмацніць пазыцыі ўхілістаў у Камінтэрне. З аднаго боку, правыя ўхілісты, адбіваючы расчараваньне часткі масы ў рэвалюцыйнай барацьбе, выходзячы з пэсымістычнай ацэнкі далейшых пэрспэктыў, ступілі фактычна на шлях адмаўленьня ад рэвалюцыйнай барацьбы і на шлях згодніцтва з рэфармісцкімі элемэнтамі рабочага руху. Камінтэрн з усёй моцай свае ідэёвай крытыкі і свайго арганізацыйнага ўплыву наваліўся на гэтыя правыя элемэнты. Яшчэ да 3-га кангрэсу адбывалася чыстка камуністычных шэрагаў ад „сьвядомых цэнтрыстаў, скончаных згоднікаў і напалову згоднікаў“, пры раўналежным цьвёрдым кіруючым уплыве на „няпэўныя поўцэнтрысцкія настроі“. Так, напрыклад, была пастаўлена па-за Камінтэрнам кіруемая Сэраці Італьянская Сацыялістычная партыя; быў выключаны з Нямецкай Кампартыі яе былы правадыр Леві і г. д. 3-ці кангрэс цалкам і поўнасьцю ўхваліў гэтую лінію няўхільнай барацьбы на права, мысьлячы, што правы ўхіл „зьяўляецца асноўным галоўным ворагам“. Але ў той-жа час 3-ці кангрэс завастрыў барацьбу і супроць „левых“ ухілістаў, якія па існасьці (справы), „самі таго ня ведаючы, дапамагаюць праваму ўхілу, перашкаджаюць перамагчы яго“. На 3-м кангрэсе ў спрэчках па тактыцы, наяўна вызначыўся ня толькі ўльтралевы ўхіл, але і прымірэнчая да яго тэндэнцыя. Так, Тэрачыні ад імя Нямецкай, Аўстрыйскай і Італьянскай дэлегацыі казаў: „мы ня думаем, што ўсе левыя тэндэнцыі павінны быць так рашуча адкінуты, мы мысьлім, што ў тэзысах т. Радэка ёсьць надзвычайна моцныя выразы супроць левых плыняў... трэба ня толькі змагацца супроць іх, колькі супроць правых... трэба з тэзісаў выключыць усё тое, што надзвычайна рэзка накіравана супроць тэндэцый, названых „нецярплівымі і палітычна нявопытнымі рэвалюцыйнымі элемэнтамі“, і замяніць іх сказамі, у якіх зьмяшчаліся-б толькі парады левым элемэнтам“ [1]). Суровы адказ „левым“ і іхным „прымірэнцам“ даў т. Ленін, які заявіў: „калі кангрэс ня будзе весьці рашучага наступу... супроць „левых“ глупстваў, то ўвесь рух засуджаны на пагібель“ [2]). Такая рэзкасьць у вуснах Леніна зьяўляецца зусім зразумелай, калі ўлічыць характар прапаноў, высунутых левымі ўхілістамі. Яны насіліся з гэтак званай „тэорыяй наступу“, якая абвяшчала рэвалюцыйны наступ тактыкай, здатнай пры любой сытуацыі. Яны лічылі правільным, што „партыя, выступаючы на барацьбу, ня пыталася сябе аб тым, пойдзе ці ня пойдзе за ёю рабочая кляса“ (Словы Маслава), мяркуючы, што аднэй рэвалюцыйнай актыўнасьці камуністычнага авангарду досыць, каб захапіць на рашучую рэвалюцыйную барацьбу рабочую масу. Зразумела, што пры такой устаноўцы ў „левых“ атрымался вялізарная недаацэнка ўсяе важнасьці папярэдняй работы па падрыхтоўцы мас да пераможнай рэвалюцыі, атрымалася неразуменьне ролі дробнай што-

[1]) 3-ці кангрэс. Матар'ялы. Кіеў, 1921 г., стар. 91-92.
[2]) Там-жа, стар. 95.

дзённай драбязговай работы камуністаў сярод адсталых пластоў пралетарыяту. Усе абставіны, што склаліся да моманту 3-га кангрэсу, дыктавалі вытрыманасьць, халаднакроўе, дакладны разьлік. Замест-жа гэтага, левыя па існасьці раілі палітыку путчызму, палітыку авантур, палітыку ў выпадку свае рэалізацыі, нязьбежна гразіўшую Камінтэрну цяжкімі паражэньнямі... 3-ці кангрэс ня мог таму не асудзіць рашуча ультра-левыя захапленьні.

Па існасьці справы, тактычная лінія, вызначаная 3-ім кангрэсам, сьведчыла сабой пераход да разгорнутай *тактыкі адзінага фронту*. Як раз гэта меў на ўвазе пашыраны пленум ВККІ, які адбыўся ў сьнежні 1921 году, калі ў прынятай ім рэзалюцыі ён пісаў аб тым, „што лёзунг 3-га Сусьветнага Кангрэсу Камінтэрну „Да мас!“ і агульныя інтарэсы камуністычнага руху наогул патрабуюць ад камуністычных партый і ад Камінтэрну ў цэлым *падтрыманьня лёзунгу адзінага рабочага фронту* і ўзяцьця ў гэтым пытаньні ініцыятывы ў свае рукі“ [1]. Гэтым рашэньнем Пашыраны Пленум паказаў правільны падлік утвораных у міжнародным рабочым руху абставін. Наступ капіталу інтэнсыўна працягваўся. Эканамічныя абарончыя баі, якія вёў пралетарыят, праігрываліся ім адзін за другім. У выніку жыцьцёвы ўзровень рабочае клясы зазнаў рэзкае зьніжэньне. Пры такой сытуацыі нядзіўна, што ў некаторых пластох пралетарыяту, асабліва ў палітычна мала спакушанай частцы яго, выявілася „стыхійнае, літаральна нястрымнае, імкненьне да адзінства“. Узьніклі мары „дабіцца аб'яднаньня ўсіх рабочых партый, і нават усіх рабочых арганізацый наогул, спадзяючыся такім чынам павялічыць сілу супраціўленьня паходу капіталістаў“ [2]. Сярод другіх элемэнтаў пралетарыяту, такую цягу да адзінства жывілі, апрача таго, лекцыі рэвалюцыйных баёў 1918—21 г.г., праіграных, як яны думалі, ня столькі дзякуючы здрадзе рэфармістаў, колькі за раскол у рабочых шэрагах, які меў мейсца. Як-бы тое ня было, але ні адна сур'ёзная арганізацыя, якая прэтэндавала на кіраўніцтва пралетарскім рухам, не магла ігнараваць стыхыйныя працэсы, якія адбываліся ў нетрах рабочае клясы, бяз рызыкі згубіць сувязь з масай, адарвацца ад яе. У выніку лёзунг адзінага фронту аказаўся ў 1921-22 г.г. лёзунгам, напісаным як на сьцягу 3-га, так і 2-га Інтэрнацыяналу. Абставіны для кампартый утварыліся надзвычайна цяжкія і адказныя. Хто выкарыстае цягу пралетарыяту да адзінства: рэвалюцыйны камунізм ці здрадніцкі рэфармізм? так стаяла пытаньне. „Як вопытныя дзяльцы, не пазбаўленыя пэўнага руху, правадыры Амстэрдаму і 2-га Інтэрнацыяналу не апошнімі падмецілі новыя малекулярныя працэсы, якія пачаліся сярод рабочых мас і выявіліся ў формуле: „адзіны рабочы фронт“. Пачуўшы небясьпеку, правадыры Амстэрдаму і 2-га Інтэрнацыяналу паспрабавалі „раззброіць“ паказаны лёзунг тым, што рашылі яго монапалізаваць і самым стаць на чале новага руху; сапраўднае адзінства мільёнаў рабочых, якія аб'ядноўваюцца ў барацьбе супроць наступаючага капіталу, яны спрабуюць падмяніць „адзінствам“ між правадырамі другога, другога з паловай і Амстэрдамскага Інтэрнацыяналаў. Задачай правадыроў і дыплёматаў Амстэрдаму і 2-га Інтэрнацыяналу зьяўляецца выняць рэвалюцыйнае джала з лёзунгу „адзіны рабочы фронт“... [3]. А як стаяла праблема адзінага фронту для Камуністычнага Інтэрнацыяналу? Надзвычайна добрая характарыстыка

[1] Гл. Тэзісы „Аб адзіным рабочым фронце“... у зб. „Дзейнасьць ВККІ за час: 13-га жніўня 1921 г.—1-га лютага 1922 г., стар. 390.

[2] Там-жа, стар. 388.

[3] „Камун. Інтэрнацыянал“, № 19, артыкул Зіноўева „Старыя мэты, новыя шляхі“, стар. 4788—4789.

перадумоў рэвалюцыйнай тактыкі адзінага фронту была дадзена ў палітычнай справаздачы на V-м Кангрэсе Камінтэрну. Гэтая тактыка, казалася там, „зьявілася выяўленьнем нашага сузнаньня таго, што, папершае, мы ня маем большасьці ў рабочай клясе, па-другое, што сацыялдэмакратыя яшчэ надта моцная, па-трэцяе, што мы займаем абарончыя пазыцыі, а вораг наступае, па-чацьвертае, што рашаючыя бойкі яшчэ не стаяць непасрэдна на парадку дню. Адгэтуль мы прышлі да лёзунгу: „к масам і далей—да тактыкі адзінага фронту“[1]). І далей: „мы разумелі тактыку адзінага фронту, як рэвалюцыйную тактыку ў эпоху пацішанага тэмпу нарастаньня рэвалюцыі“[2]). Такім чынам, ганебнай „дыплёматычнай, часам проста ашуканскай, гульні навокала лёзунгу адзінства“ апартуністычных правадыроў камуністы павінны былі супроцьставіць сваю акрэсьленую лінію на *рэвалюцыйнае выкарыстоўваньне* цягі мас да адзінства. Раней за ўсё павінен быць высунуты лёзунг „адзінства зьнізу“, інакш кажучы, адзінства саміх рабочых мас у практычнай барацьбе за рэвалюцыйныя патрабаваньні рабочых супроць капіталістаў“[3]). Адначасна павінен практыкавацца і лёзунг „адзінства зьверху“, з дапушчэньнем паходжаньняў „асобных сэкцый Камінтэрну з партыямі і саюзамі 2-га і другога з паловаю Інтэрнацыяналаў, не адмаўляючыся ад такіх-жа пагоджаньняў і ў Міжнародным масштабе“. У гэтым апошнім выпадку Камінтэрн, само сабой зразумела, менш усяго разьлічваў на сапраўдную гатоўнасьць апартуністычных арганізацый прыняць рэальны ўдзел у клясавай барацьбе рабочае клясы. Не! Тут Камуністычны Інтэрнацыянал меркаваў выкарыстаць практыку „адзінства зьверху“, у якасьці новага мэтаду раззбройваньня двудушнасьці і здарадніцкай існасьці апартуністычных правадыроў, мэтаду, які цьвяроза ўлічвае свае асаблівыя абставіны, якія ўтварыліся ў рабочым руху. „У тых выпадках, казалася ў тэзісах Пашыранага Пленуму, калі прапанова аб сумеснай барацьбе адкідаецца нашымі супраціўнікамі, трэба, каб масы аб гэтым даведаліся і такім чынам улічылі, хто сапраўдны парушыцель адзінага рабочага фронту. У тых выпадках, калі прапанова супраціўнікам прынята, трэба імкнуцца паступова паглыбляць барацьбу і ўздымаць яе на вышэйшую ступень[4]).

Зразумела, што ў працэсе такога „паглыбленьня барацьбы“ няўхільна паўстане момант, калі апартуністы пачнуць сабатаваць, зрываць барацьбу, даючы, такім чынам, у рукі камуністаў зброю, каб раззброіць іх.

Канкрэтная практыка правядзеньня „адзінага фронту“ дала сэкцыям Камуністычнага Інтэрнацыяналу зусім дастаткова матар'ялу для тлумачэньня „самым шырокім колам рабочых двудушніцтва правадыроў другога, другога з паловай і Амстэрдамскага Інтэрнацыяналаў, якія ўважаюць адзінства з буржуазіяй адзінству з рэвалюцыйнымі рабочымі“.

Досыць напомніць гісторыю з пытаньнямі: аб дапамозе галадаўшым у Расіі, аб пратэсьце супроць белага тэрору ў Гішпаніі і Паўднёвай Славіі, аб Вашынгтонскай канфэрэнцыі, аб канфэрэнцыі „Трох Інтэрнацыяналаў“, аб сьвяткаваньні 1-га мая 1922 г. і г. д. Аднак, далёка ня ўсё і далёка не заўсёды нашы братэрскія кампартыі аказваліся пры правядзеньні тактыкі адзінага фронту на вышыні становішча. У сувязі з гэтай тактыкай Камінтэрну прышлося зноў разгарнуць

[1]) V Кангрэс Камінтэрну—прамова Зіноўева, стар. 67—68.
[2]) Там-жа, стар. 68.
[3]) „Тэзісы аб адзіным рабочым фронце“, стар. 396.
[4]) Там-жа, стар. 397.

упартае змаганьне з хістаньнямі, з ваганьнямі ў сваіх шэрагах, якія выявіліся ў ухілах ад правільнай лініі тактыкі адзінага фронту. Ужо ў неаднакраць цытаваных намі тэзісах Пашыранага Пленуму аб „Адзіным рабочым фронце“, ВККІ настойліва папярэджваў ад небясьпек, з „якімі пры пэўных умовах можа быць зьвязаны...“ „Вызначаны плян“ тактыкі адзінага фронту. Наступны вопыт цалкам даказаў правільнасьць гэтых перасьцярог.

Правыя і левыя ўхілы ў Камінтэрне зноў далі сябе надзвычайна балюча адчуць. З аднаго боку, у шэрагу партый (Італьянскай, Нарвэскай, Францускай) сталі гучэць настойліва „левыя“ галасы з пярэчаньнямі супроць мэтазгоднасьці прынятай тактыкі, пры чым ВККІ абвінавачваўся часамі ня больш і ня менш, як у спаданьні да сапраўднага апартунізму. У вышэйшым стопню характэрна, што ў ліку ультралевых, якія пайшлі супроць тактыкі адзінага фронту, знаходзіліся такія будучыя правыя рэнэгаты камунізму, як Фросар, Транмэль і інш. Тут сказаўся, што неаднокраць меў месца ў гісторыі Камінтэрну, факт: сапраўды правыя элемэнты прыкрывалі крыклівай „левізной сваю сапраўдную правую капітулянцкую існасьць. Напрыклад, у разглядаемым намі выпадку, „левізна“ прыкрывала фактычную пасыўнасьць Фрасараў і Транмэляў, іх нежаданьне практычна, на справе паставіць і вырашыць праблему аб масавай рэвалюцыйнай барацьбе пралетарыяту.

Аднатаваная толькі што намі левая апазыцыя адзінаму фронту была досыць хутка зламана Камінтэрнам, які апіраўся на рэальны вопыт бягучай клясавай барацьбы. Адначасна, аднак, высунулася ў сувязі з тактыкай адзінага фронту другая, больш грозная небясьпека—небясьпека адкрытага апартуністычнага правага скажэньня гэтай тактыкі. Карэньні гэтай небясьпекі хаваліся ў наяўнасьці ў Кампартыях моцных перажыткаў сацыял-дэмакратычнай ідэолёгіі, на што нам неаднокраць ужо прыходзілася паказваць.

*(Канец будзе).*

М. Канаплін.

# Міжнародны соцыял-опортунізм на рабоце.

## I.

### „Ленінізм“ у выданьні генсэка II Інтэрнацыяналу ці як Фрыдрых Адлер „ратуе“ пролетарскую рэволюцыю.

У лютаўскім нумары штомесячніка аўстрыйскай соцыял-дэмократыі зьмешчан артыкул генэральнага сэкратара II Інтэрнацыяналу Фрыдрыха Адлера пад загалоўкам: „Што зрабіў-бы сёньня Ленін, каб выратаваць рускую рэволюцыю?“ [1]).

Уваскросіўшы т. Леніна, аўтар укладае ў вучэньне вялікага правадыра міжнароднага пролетарыяту пажаданы соцыял-рэнегату зьмест і наперад прыходзіць да вываду, што Уладзімір Ільліч, калі-б ён жыў у цяперашні час, расцэньваў-бы Кастрычніцкую рэволюцыю зусім інакш. У выабражэньні шаноўнага тэорэтыка згодніцкага інтэрнацыяналу т. Ленін,—нязломны рэволюцыянэр, геніяльны стратэг пролетарскай рэволюцыі, пасьлядоўны дыялектык, найглыбейшы тэорэтык і практык сусьветнага рэволюцыйнага руху, організатар першай у сьвеце краіны дыктатуры пролетарыяту,— абарачаецца ў расслабленага нікчэмнянькага опортуністага і мізэрнага, трусьлівага, страціўшага ўсякія рэволюцыйныя пэрспэктывы соцыял-згодніка. Наогул, Ленін у выданьні II Інтэрнацыяналу паразьліва падобны на портрэт яго новых творцаў з соцыялістычнай кухні. І гэта зусім зразумела. Разумеючы ўсё значэньне ленінскай рэволюцыйнай тэорыі для сусьветнага пролетарыяту, які ўсё больш адыходзіць з-пад уплыву соцыял-дэмократыі, апошняя прымае ўсе захады і карыстаецца ўсімі сродкамі для таго, каб адцягнуць надыходзячую навальніцу сусьветнай рэволюцыі. Для гэтага патрэбна дыскрэдытаваць перамогу першай у сьвеце савецкай дзяржавы, давесьці памылковасьць гістарычнага разьвіцьця ленінізму. Сучасная соцыял-дэмократыя ўсялякіх адценьняў, выконваючы ролю здрадніка інтарэсаў рабочае клясы, абарачаючыся ўсё больш у праваднiка ўсякай контр-рэволюцыйнай політыкі, ня можа не ненавідзець перамогу Кастрычніка і яго правадыра. На гэтай перамозе працоўныя масы ўсяе земнае кулі вучацца, рыхтаваліся і рыхтуюцца да будучых рашучых клясавых боек. Пры аднэй мысьлі аб тым, што гэта перамога „няўнікнёна становіцца базай сусьветнага руху ўсіх прыгнечаных кляс, вогнішчам міжнароднай рэволюцыі“ [2]), штрэйкбрэхеры рэволюцыі ўпадаюць у ліхаманкавы стан, што таўхае іх на вельмі двухсэнсоўную гульню з кропленымі картамі. Шулерскія спосабы соцыял-дэмократычных правадыроў—рэч даўно вядомая, але чарговы выпад супроцьсоцыялістычнай рэволюцыі варты таго, каб на ім спыніцца.

Рэволюцыйная фраза „левага“ крыла соцыял-дэмократыі покуль што яшчэ трымае ў сваіх кляшчотках даволі значныя кадры працоў-

---

[1]) „Der Kampf“ № 2—1929 г., стар. 57.

[2]) Програма Комінтэрну, ГИЗ. 1928, стар. 90.

ных, якіх яна вельмі тонка абманвае сваеасаблівым „марксызмам“. „Левая“ фраза—гэта новая тактыка рэволюцыянізаваньня мас; яна—асёлак, на якім можна дасьледваць чыстапробнасьць здрады інтарэсаў рабочае клясы. „Левай“ фразай можна опэраваць двояка. Папершае, з яе дапамогай социял-дэмократыя можа паказаць, што яна ўсімі спосабамі падтрымлівае рэволюцыю, што яна ў самых варожых адносінах з буржуазіяй, што ёю (социял-дэмократыяй) праводзіцца сыстэматычная работа ў справе рэволюцыянізаваньня мас і падрыхтоўкі іх да захвату палітычнай улады. Падругое, гэтая-ж „левая“ фраза дапамагае ёй рабіць вывад, што мэтады і шляхі змаганьня за перамогу рабочае клясы павінны быць зусім іншыя, чым гэта ўжывалася ў СССР. Мяняюцца часы, мяняецца тактыка, таму патрэбна давесьці, што пролетарыят іншых краін паіншаму, застаючыся ў рамках буржуазнай дзяржавы, прыдзе да ўлады. Больш таго, вельмі важна дыскрэдытаваць рэволюцыйную тэорыю і практыку ленінізму і паказаць, што нават у першай савецкай дзяржаве сам правадыр, калі-б яму цяпер прышлося ўсё прарабляць спачатку, дык ён і партыя солідарызаваліся-б з імі, панамі социял-пацыфістымі і социял-імпэрыялістымі. Прыстасоўваючыся ўсё больш да ролі служак капіталізму, правадыры социял-дэмократыі часта пападаюць у прыкрае і нявыгоднае палітычнае становішча. Радавыя социял-дэмократычныя рабочыя масы ўсё часьцей і часьцей не згаджаюцца са сваімі лідэрамі, як, напрыклад, у Германіі ў пытаньнях пабудовы броненосца „А“, коаліцыйнай палітыкі, тактыкі раззбраеньня і г. д. Прыходзіцца вымушана манэўраваць паміж фашызмам і левай фразай. Тут, вядома, няўнікнёны „памылкі“. Таму социял-дэмократыя паблажліва адносіцца да свайго пераходу ў лягер буржуазнай палітыкі і лічыць, што і рабочая кляса СССР, якая ажыцьцяўляе сваю дыктатуру, таксама магла і можа памыляцца і што галоўнай памылкай пролетарыяту Расіі ў 1917 г. было абвяшчэньне прынцыпаў дыктаруры пролетарыяту. Такім спосабам, забясьпечыўшы сябе *„права на памылкі“*, социял-дэмократыя з хворай галавы пераносіць гэта права на здаровую галаву перамогшае рабочае клясы і яе прызнанага гісторыяй правадыра.

Гэтае „права памыляцца“ Адлерам надаецца і Леніну. Ён сьцьвярджае, што „Леніну эпохі Кастрычніка 1917 г., як і ўсякаму іншаму палітыку, уласьціва было памыляцца ў адносінах будучага гістарычнага разьвіцьця“. Але Ленін эпохі 1929 г., падышоўшы да аналізу сучасных умоў і рэзультатаў пройдзенага этапу і падвёўшы іх пад *„самакрытыку“*, прышоў-бы да выніку, што ў адносінах пэрспэктыў разьвіцьця міжнароднай рэволюцыі ён памыляўся. „За бальшавіцкай рэволюцыяй ў Расіі не адбылася міжнародная бальшавіцкая рэволюцыя. Хто і што ў гэтых адносінах вінаваты—гэта ўсёроўна“ [1]). Але ў час спахапіўшыся, Адлер папраўляецца і пераносіць усю віну на т. Леніна, які зьяўляецца *„фактарам і віной рэзультатаў, заснаваных на няправільных разьліках“*. (Курсыў мой. М. К.).

Звычайны прыём злодзея, які, калі за ім гоняцца—крычыць: „лаві злодзея“, а сам у гэты час стараецца шмыгнуць у бліжэйшую падваротню.

Калі-б разьлікі тав. Леніна былі больш гістарычна правільнымі, дык, на думку Адлера, рэволюцыйны рух у 1929 годзе меў-бы значна большы посьпех, чым гэта ёсьць цяпер. Значыцца, замацаваньне дыктатуры пролетарыяту разглядаецца гэтым рэнегатам ад марксызму, як найістотнейшы тормаз сусьветнай рэволюцыі. Нязвычайная подласьць

---

[1]) „Kampf“, № 2—1929 г., стар. 58.

такой пастаноўкі пытаньня для кожнага рэволюцыйнага рабочага відавочна. Прыходзіцца толькі дзівіцца, як гэтыя пражаглыя лідэры соцыял-дэмократыі не разумеюць таго, з якім цынізмам яны самі сабе плююць у твар.

Адлер канчаткова заблытаўся ў пэрспэктыве частковай і часовай стабілізацыі капіталізму. Заблытаўся і спалохаўся. Ён пабачыў толькі адзін бок гэтай стабілізацыі—некаторае тэхнічна-экономічнае ўмацаваньне загніваючага капіталізму. Рост супярэчнасьцяй, абвастрэньня клясавага змаганьня і іншыя праявы крызісу і заняпаду капіталізму, што паглыбляюцца, засталіся па-за полем зроку апостала імпэрыялізму. Аматар рабіць соцыялістычную рэволюцыю ў белых пальчатках і ва ўмовах „чыстай дэмократыі", ня можа зразумець, што, „завяршаючы процэс стварэньня матэрыяльных прадпасылак соцыялізму, імпэрыялістычная эпоха абвастрае супярэчнасьці паміж „вялікімі дзяржавамі" і параджае войны, якія прыводзяць да распаду адзінай сусьветнай гаспадаркі" [1]). Больш таго, соцыял-дэмократыя, у тым ліку і аўстра-марксыстыя, ня толькі ня хоча згаджацца з тым, што *імпэрыялізм ёсьць апошні этап капіталістычнага разьвіцьця наогул,* што міжнародная рэволюцыя разьвіваецца і што справа міжнароднага пролетарыяту разьвязваць усе сілы гэтае рэволюцыі, але яна раскол- вае рабочы рух, паралiжуе і аслабляе яго. Яна ня менш за буржуазію заклапочана будучыняй расхістанага капіталістычнага панаваньня. Усякімі спосабамі імкнецца ўтрымаць рабочую клясу ад актыўных выступленьняў супраць свайго клясавага ворага. На прыкладах Вэнгрыі, Баварыі, Аўстрыі, Італіі, Англіі, Кітаю і іншых краін Адлер хоча пака- заць ілюзорнасьць надзей на міжнародную рэволюцыю. Упэўнены ў працяглась ці і ўстойлівасьці стабілізацыі капіталізму, ён думае, што „паасобныя праявы крызісу капіталістычнай гаспадаркі нічога агульнага з разьвіцьцём сусьветнай рэволюцыі ня маюць і што ўсякія надзеі на апошнюю раўназначны надзеям расчараванага чалавека, які ставіць апошнюю стаўку на выйгрыш у лётарэі" [2]).

Гэтым самым адмаўляецца, па істоце, марксыцка-ленінская дыялектыка разьвіцьця буржуазнага грамадзтва на пэўнай стадыі разьвіцьця і прымаецца поўная адмова ад рэволюцыйнага змаганьня. Страціўшы ўсякую надзею на разлажэньне капіталістычнага грамадзтва, для Адлера і для ўсіх яго кумпаняў нічога больш не застаецца, як злажыць пацыфістычна ў адносінах да буржуазіі рукі і „чакаць ля мора пагоды". Застаючыся толькі часамі ў ролі „опозыцыі яго вялікасьці", соцыял-дэмократыя вельмі актыўна падтрымлівае палітыку існуючага ладу, таму што ў адваротным выпадку дзяржаве могуць пагражаць дзьве небясьпекі. Першая з іх—гэта небясьпека фашысцкая, супраць якой можна выступіць з ленінскай фразай на вуснах і са зброяй крытыкі ў руках, і другая небясьпека—бальшавіцкая. Паводле довадаў соцыял-дэмократаў, апошняя небясьпека зьяўляецца куды сур'ёзьней для рабочае клясы, дзеля таго што бальшавізм разлагае адзіны фронт працоўных, уносіць раскол сярод пролетарыяту, зьніштажае палітычную дэмократыю, што прысьпяшае ўзмацненьне рэакцыі і ўзмацняе ўсякія рэстаўрацыйныя настроі. Вось чаму Адлер прапануе ўваскрошанаму ім Леніну, а па істоце Комінтэрну, пераглядзець сваю тактыку ў адносінах пытаньня аб разьвіцьці сусьветнай рэволюцыі. Адлер перакананы, што калі-б Ленін жыў у цяперашні час, дык ён меў-бы „*мужнасьць адступіць*", як у свой час ён гэту мужнасьць паказаў у

[1]) Програма Комінтэрну, ст. 22.
[2]) „Катрf" № 2—1929 г., стар. 58.





пытаньнях пераходу да нэпу. Ленін павінен быў-бы прызнаць, што ў цяперашні час „расійская рэволюцыя знаходзіцца не ў становішчы стараны, якая нападае, а якая абараняецца“.

Выхалошчваючы ўсякі рэволюцыйны зьмест і значэньне экономічнай політыкі пролетарскай дзяржавы, рэнегат ад марксызму бачыць у ёй толькі адступленьне, бачыць у беспарадку расстроеныя рады пролетарыяту, не разумее значэньня індустрыялізацыі краіны. Ажыўленьне на фронце клясавага змаганьня ў краіне саветаў і наша рашучае наступленьне на кулака ў вёсцы і нэпмана ў горадзе, а таксама і на ўсякія іншыя сілы, варожыя дыктатуры пролетарыяту, Адлерам расцэньваецца, як наступленьне клясавага ворага на рабочую дзяржаву і пераход пролетарыяту на абарончыя позыцыі. Усё навыварат. Ці не здаюцца ў даным выпадку гэтыя рэзонэрскія разважаньні добрага бюргера аб рэволюцыі паразьліва падобнымі на некаторыя формулёўкі тых, хто ў нас спалохаўся некаторых часовых труднасьцяў нашага росту і ў сувязі з гэтым таксама прапануе *адступіць* па ўсім фронце, рэвізуючы ў гэтых адносінах ленінскае вучэньне. Ня шкодзіла-б так панічна настроеным таварышам у нашай партыі больш уважліва прыслухацца да таго, аб чым гаворыць вораг соцыялістычнай рэволюцыі. Ня шкодзіць часамі правяраць, як адбіваецца тая ці іншая ўстаноўка політыкі партыі ў варожым лягеры, бо вельмі часта наш клясавы вораг сваімі-ж вуснамі гаворыць клясавую праўду. Сапраўды,— чым адрозьніваецца, у асноўным, пастаноўка прынцыпіяльных пытаньняў правымі опортуністымі ў нашай партыі ад устаноўкі, якую прапануе Адлер аб уступках і далейшым адступленьні да лютаўскай рэволюцыі. Таксама, як гэты соцыял-рэнегат—правыя капітулююць перад труднасьцямі, робяць спробы пераканаць і партыю ў канечнасьці капітуляцыі, у адваротным выпадку—пагібель і іншыя жудасьці нямінучы. Праўда, няма простага заклiку да ліквідацыі сыстэмы Кастрычніка, але аб'ектыўны вынік гэтай капітуляцыі відавочны. Адлер можа ў мысьлях моцна ўсьціснуць руку правых элемэнтаў, што прабуюць атакаваць і зьбіць партыю Леніна з яе генэральнай лініі.

Ня гледзячы, аднак, на ўсе прыкрасьці, якія, паводле Адлера, „бальшавіцкая рэволюцыя“ зрабіла міжнароднаму руху, СССР усё-ж прызнаецца фактарам станоўчым у тым сэнсе, што ён „паставіў проблему зьніштажэньня капіталістычнай сыстэмы“.

Для соцень тысяч,—кажа шаноўны аракул з лягеру соцыял-рэнегатаў,—бальшавіцкая дыктатура зьявілася штуршком для разуменьня соцыялізму не як чужой рэчаіснасьці тэорыі ці фантастычнай казкі, а для яго ўсваеньня, як магчымай рэальнасьці“ [1]). Дзякуй і за гэта! Але, зразумела, гэта ні больш ні менш як чарговы фокус „левага“ соцыялістага. Ніякага цуду абарачэньня не адбылося—проста пэўны спрыт рук: нельга не прызнацца, але і нельга не сазнацца. У чым-жа, аднак, нельга не сазнацца? Нельга не сазнацца ў тым, што „гэта станоўчае не дазваляе забываць аб адмоўных рэзультатах дыктатуры пролетарыяту, да якіх яна прывяла краіну“ [2]). Вы з нецярплівасьцю чакаеце новага адкрыцьця гэтага соцыял-прэстыдыгітатара. Вы хочаце ўчуць, у чым-жа выражаюцца гэтыя „адмоўныя рэзультаты“. Калі ласка. Перш за ўсё „ў разлажэньні сьвядомасьці і рэволюцыйнай волі сусьветнага пролетарыяту“. Яго, аказваецца, „распрапагандавалі і раскрылі прад ім шырокія магчымасьці (які жах! МК).

¹) „Kampf“ № 2—1929 г., стар. 58.
²) Там-жа, стар. 58.

Але соцыялістычная дзейнасьць і актыўнасьць яго сустрэлася з вялікімі труднасьцямі. У гэтых мас ня было належнага разуменьня гістарычных прадпасылак іх патрабаваньняў, яны рабілі, таму, вельмі необдуманыя ўчынкі і выстаўлялі утопічныя патрабаваньні і мэты. Наткнуўшыся на немагчымасьць ажыцьцяўленьня сваіх патрабаваньняў, масы расчаравана адступілі" [1]). І ва ўсім гэтым вінаваты т. Ленін. Тэрмінова патрэбен новы Ленін, які папраўляе свае „памылкі" 1917 г. Замест таго, каб выхоўваць рэволюцыйную сьвядомасьць рабочае клясы, выяўляць прад ёю пэрспэктывы клясавых боек і канечнасьць рэволюцыйнай перамогі пролетарыяту над буржуазіяй, гэтыя палітычныя імпонтэнты соцыял-дэмократыі займаюцца сьлязьлівымі прычытаньнямі з поваду паасобных няўдач рэволюцыйнага руху і палохаюць рабочых і працоўныя масы буржуазных дзяржаў прывідам дыктатуры. Відаць, сапраўды, прывід комунізму, што цяжкай ступою бродзіць па Эўропе, не на жарты напалохаў буржуазію, калі ад яго ў такі панічны жах упадаюць нават соцыял-дэмократы, якія лічаць сябе афіцыяльнымі прадстаўнікамі працоўных мас. Адлеру куды прыемней прызнаць паражэньне рабочае клясы, бачыць расстройваньне яе радоў, пакідаць яе ў расчараваньні, чым організоўваць масы для непасрэднага змаганьня з капіталізмам і яго палітычнай сыстэмай. Банкротная і здрадніцкая соцыял-дэмократыя вельмі часта здаецца надта „рэволюцыйнай". Яна вельмі часта крычыць аб фашысцкай небясьпецы і патрэбнасьці змагацца супроць надыходзячай рэакцыі, „крытыкуе" тыя ці іншыя буржуазныя ўрады, спрачаецца па пытаньні аб уступленьні ў коаліцыю з буржуазіяй. Але, калі прыходзіцца конкрэтна ставіць пытаньне аб тым, каб зрабіць рэальны націск на буржуазію, каб *сапраўды*, не на словах, абараняць інтарэсы рабочае клясы, калі ставіцца конкрэтна пытаньне аб уладзе ў дзяржаве, тады нашыя малайцы з лягеру левафразэрствуючых у бясьсільлі разводзяць рукамі і прызнаюцца ў сваёй часовай слабасьці. Тады рабочай клясе раяць пачакаць, псыхолёгічна абурацца, пратэставаць. Звычайна ў такіх выпадках абмяжоўваюцца ўсякімі плятонічнымі сродкамі. Ролю заліхвацкага наезьніка, які імкнецца закілзаць каня сусьветнай рэволюцыі, Адлер і іншыя „правадыры" выконваюць з гонарам. Гэтыя ездакі гатовы нават, калі гэта патрэбна, згаджацца з пагібельлю занадта перабраўшага меру каня. Як іначай, як не далакопамі міжнароднай рэволюцыі і Савецкага Саюзу, можна назваць наступнае заключэньне Адлера: „сёньня інтэрнацыянальны пролетарыят пасунуўся-б значна далей па шляху сваёй гістарычнай місіі, калі-б у Расіі не адбыўся захват улады бальшавікамі" [2]). Тут зусім адкрыта выражана мысьль аб рэакцыйнай ролі нашага Саюзу, аб яго тармозячым уплыве на ход разьвіцьця капіталістычнага сьвету. Гэта, нясумненна, адкрыты заклік да адмовы ў падтрыманьні ў адпаведных выпадках дзяржавы дыктатуры пролетарыяту, заклік да зьвяржэньня савецкага ладу. Вось чаму зусім зразумела, што нават фашыстыя розных краін кажуць аб тым, што ў соцыял-дэмократыі „наступіла значная і прыемная перамена," што яна, „соцыял-дэмократыя", бароніць свае інтарэсы, згодна пэўных соцыялістычных прынцыпаў, але яна робіць гэта лёяльна, парляманцкім спосабам. Якая... розьніца ў параўнаньні з 1918 годам, калі рабочая кляса была ворагам буржуазнага грамадзтва" [3]). Сапраўды: якая розьніца

[1]) „Kampf" № 2—1929 г., стар. 58.

[2]) Там-жа. стар. 58.

[3]) Стенографический отчет VI-го конгресса Коминтерна. Вып. 1-й. ГИЗ, 1929 год, стр. 357.

з тым, што было раней, калі соцыял-дэмократыя яшчэ ня здрадзіла прынцыпам рэволюцыйнага марксызму.

Як-бы для таго, каб давесьці сваю ролю пасьлядоўнага ліквідатара рэволюцыйных прынцыпаў да канца, Адлер кідае дакор перамогшаму ў краіне Саветаў пролетарыяту ў тым, што ен... *„напалохаў буржуазію“* сусьветнай рэволюцыяй“. У выніку гэтага „перапалоху“ міжнародны капітал стаў энэргічна рыхтавацца да адпору, даволі быстра ўзбройваўся і сям-там перашоў да фашысцкіх мэтадаў кіраваньня.

Значыць, паводле Адлера, адным з асноўных фактараў фашызму зьяўляецца Савецкі Саюз. Трэба было, бачыце, замест таго, каб браць уладу ў свае рукі, пролетарыяту былой царскай Расіі спытаць дазволу на вядзеньне клясавага змаганьня, трэба было падыйсьці да яе з поўным каханьня сэрцам здрадніка і соцыял-дэмократычнага згодніка і патаргавацца аб суадносінах сіл у будучым буржуазным урадзе. Што за невуцтва такое палохаць буржуазію рэволюцыяй? Няхай сабе жыве на здароўе—месца пад месяцам бо хопіць. Бярэце, моў, прыклад з нас—„культурных“ краін, „культурных“ соцыялістых. Вось да чаго можна дакаціцца, адмовіўшыся ад рэволюцыйнай тэорыі марксызму—ленінізму. Наколькі блытанымі, нелёгічнымі, бездапаможнымі і контр-рэволюцыйнымі зьяўляюцца разважаньні Адлера, могуць паказаць яго разважаньні аб намерах „бальшавіцкіх дыктатараў“ у адносінах буржуазнай дэмократыі. Аказваецца, „што існаваньне пролетарскай дзяржавы пайшло на карысьць дэмократыі. Гэтая карысьць стваралася *на-перакор* жаданьням бальшавікоў“, і каб аб'ясьніць гэту тэзу, Адлер прыводзіць прыклад з дзяржаўным пераваротам у Паўднёвай Славіі, але тут ужо пачынаецца нешта нязвычайнае. Прыходзіцца проста сумнявацца ў здольнасьцях пана правадыра больш або менш здарова разважаць. Паслухайце толькі, да якіх нязвычайных вывадаў дашоў гэты чалавек, апанаваны страсьцю „легальных магчымасьцяй змаганьня“. „Якраз па пытаньню аб Паўднёвай Славіі, можна было зноў пераканацца ў тым, як, аддаючы на словах пракляцьцем сыстэму абсолютызму, *у сапраўднасьці бальшавіцкі друк выявіў захаваную радасьць утварэньню новай дыктатуры* (курсыў мой. М. К.), якая павінна яшчэ раз пацьвердзіць мысьль аб няўстойлівасьці дэмократычнай сыстэмы“ [1]). Што буржуазна-дэмократычная сыстэма няўстойліва, што ў цяперашні час буйная буржуазія ў паасобны выпадках пераходзіць да канчатковага скасаваньня парлямантарызму, у гэтым сумнявацца, пэўна, ня прыходзіцца, таксама як ня прыходзіцца сумнявацца і ў тым, што мы перажываем эпоху ўсеагульнага крызісу капіталістычнай сыстэмы, яе апошнюю стадыю.

Але, каб сьцьвярджаць, што працоўныя масы савецкай дзяржавы і партыя рабочае клясы былі-б зацікаўлены ва ўтварэньні нават рэакцыйнай дыктатуры, да гэтага-ж трэба было дадумацца. Без далейшых комэнтараў кожнаму ясна, што так можа гаварыць толькі той, хто займаецца адпуджваньнем ад сыстэмы дыктатуры пролетарыяту і перапоўнены яркай нянавісьцю да ўлады рабочае клясы. Контр-рэволюцыйная пастаноўка гэтага пытаньня таксама відавочна. І таму з першага погляду зусім незразумела, чаму-ж, ня гледзячы на тое, што „Савецкая дзяржава не зьяўляецца прытулкам ні да соцыялізму, ні, тым больш, для дэмократыі, прызнаецца Адлерам „магутнай крэпасьцю супроць капіталістычнай рэакцыі“ [2]). Але ўжо праз радок высьняецца сэнс гэтага сьцьверджэньня. Аказваецца, у праграму ратаваньня міжнарод-

[1]) „Kampf“ № 2—1929 г., ст. 59.
[2]) „Kampf“ там-жа, стар. 59.

най рэволюцыі, паводле социял-пацыфісцкіх прынцыпаў, уваходзіць і савецкая дзяржава, але толькі яна мысьліцца, як дзяржава, якая не займаецца... газардам дыктатуры". Адлер лічыць патрэбным заняцца ратаваньнем у расійскай рэволюцыі таго, што ў ёй выратаваць яшчэ можна" [1]).

Ён перакананы, што і тав. Ленін у цяперашні час адмовіўся-б разглядаць савецкую дзяржаву, як „якарную стаянку соцыялізму... Быць можа ён імкнуўся-б да *новай рэволюцыі*, але, у кожным разе, *ён адмовіўся-б ад рэзультатаў гістарычнага 1917 году"* [2]). (Курсыў мой. М. К.). На думку Адлера, Ленін зразумеў-бы, што Савецкі Саюз ідзе назад да капіталізму і гэтым самым набліжае трыумф рэакцыі. І таму што „цяперашняе кіраўніцтва дзяржавай гэтага не разумее", дык ён, Адлер, анёл-збаўца соцыялістычнай рэволюцыі павінен паказаць шляхі да ратунку. Гэты шлях ратунку нам ужо давалі вядомы, — „выратаваць хаця-б сакавік (буржуазна-дэмократычную дзяржаву. М. К.), калі кастрычніка ўжо выратаваць нельга" [3]). У сувязі з гэтым прынцыпам можна нават гаварыць аб абароне савецкай дзяржавы.

„Абарона Савецкага Саюзу азначае перш за ўсё заключэньне *чэснага міру*, заснаванага *на ўзаемным разуменьні* інтэрнацыянальнай соцыял-дэмократыі... *Да таго часу, покуль бальшавікі разглядаюць соцыял-дэмократыю, як свайго ворага, гэта прызнаньне на поўную абарону савецкай краіны ад капіталістычнай інтэрвэнцыі заўсёды будзе знаходзіцца ў затрудненьні* [4]). (Курсыў мой. *М. К.*).

Адлер ставіць пытаньне ультыматыўна і, — у гэтым увесь сэнс сучаснай соцыял-дэмократыі, — выгароджвае сабе права нацкоўваць міжнародны пролетарыят і, пэўна, буржуазію супроць ядынай у сьвеце савецкай краіны. Цаной „чэснага міру з соцыял-дэмократыяй" ён абяцае аказаць дапамогу. Цаной адмовы ад Кастрычніка і пераходу да буржуазнага лютага пролетарыят Саюзу і іншых краін павінен купіць сабе права на літасьць з боку разгневаных і „занепакоеных" за лёс соцыялістычнай рэволюцыі правадыроў - здраднікаў інтарэсаў соцыялізму. Бясконцы ланцуг уступак кулаку і нэпману, прызнаньне буржуазнай дэмократыі, легалізацыя соцыял-дэмократыі ў рамках савецкага ладу і адмова ад змаганьня з ёй наогул—вось програма-мінімум для компартыі і савецкай улады паводле падручніку політграматы ў выданьні аднаго з „левых" правадыроў соцыял- дэмократыі. Жадаючы быць неабвержаным у сваіх патрабаваньнях і вывадах, Адлер ня можа не спасылацца на прыдуманага ім меншавіцкага Леніна і сьцьвярджае, што Уладзімір Ільліч напэўна меў-бы грамадзянскую мужнасьць прызнаць правільнасьць Адлераўскіх прадпасылак. Што-ж, пакінем Адлеру і яго сінкліту рэнегатаў варажыць на гушчы ад кавы і спадзявацца на рэстаўрацыю капіталізму ў савецкай дзяржаве. А тым часам рэволюцыйныя сілы ўсяго сьвету будуць яшчэ грунтоўней організоўваць сваю згуртаванасьць і рыхтавацца да рашучых боек з капіталістычным сьветам. Рабочая кляса і працоўная маса Саюзу ў выстарчальнай меры разумеюць ролю соцыял-дэмократыі, як душыцеля соцыялістычнай рэволюцыі таму, зусім натуральна, што пролетарыят перамогшай рэволюцыі кліча і будзе клікаць працоўныя масы ўсіх краін да самага бязьлітаснага і няпрымірлівага змаганьня з фразэрствуючымі лёкаямі капіталістычнага ладу.

[1]) „Kampf" № 2—1929 г., ст. 59.
[2]) Там-жа, ст. 59.
[3]) Там-жа, ст. 59.
[4]) Там-жа, ст. 59.

## II.

## Дан у ролі адвоката Троцкага.

Пра апошнія выступленьні Троцкага гаварылася ўжо даволі многа як у нас, так і ў міжнародным комуністычным друку. Рэволюцыйны пролетарыят як мае быць ацаніў гэтага найноўшага рэнэгата. Шмат хто з тых рабочых, якія раней яшчэ сумняваліся ў мэтазгоднасьці выдаленьня Троцкага з межаў Савецкага Саюзу, пасьля яго так адкрытага яднаньня з контр-рэволюцыйнымі сіламі і яўнага пераходу ў лягер адкрытых клясавых ворагаў міжнароднага пролетарыяту, цяпер з абурэньнем адзываюцца аб былым „правадыры“. Паток рэзолюцый рабочых сходаў ва ўсім сьвеце пасьля выступленьня Троцкага зьяўляецца лепшым довадам таго, што сьвядомыя і рэволюцыйныя элемэнты рабочае клясы адгарадзілі сябе непраходнай сьцяной ад трацкісцкай контр-рэволюцыі.

Парваўшы з дыктатурай пролетарыяту і з асновамі рэволюцыйнага марксызму-ленінізму, Троцкі, абмінуўшы нават меншавіцкі лягер, адразу папаў у абыймы акул буйнога капіталу. Быць можа гэта фігурны гэст, які нібы падкрэсьлівае нежаданьне Троцкага якшацца з меншавікамі і рознымі там социял-дэмократамі? Магчыма, ён хоча „абяліцца“ ў вачох „запалоханых“ рабочых Савецкага Саюзу, а заграпічным таварышам паказаць, што ён быў „прымушаны“ так зрабіць? Або, быць можа, Троцкі думае, што чужаземныя сэкцыі Комінтэрну запатрабуюць ад яго апраўданьня і тады ён зможа давесьці сваю „праваты“? Няхай сабе думае, як ён хоча—нас гэта менш за ўсё цікавіць, ніякай справаздачы ад яго мы не патрабуем. Прыдзе час, калі яму прыдзецца даваць справаздачу перад самым об'ектыўным судзьдзёй — гісторыяй, якая яго за здраду справе рабочае клясы па галоўцы, мабыць, не пагладзіць, і чым больш здрадніцкіх спраў будзе на яго рахунку, тым больш жорстка гэты судзьдзя вынясе свой бязьлітасны прысуд. Рэволюцыйны пролетарыят па Троцкім ліць сьлёзы ня зьбіраецца.

Але іначай думае і робіць адзін з правадыроў расійскіх меншавікоў—Дан. Ён аплаквае, шкадуе, навучае Троцкага, часамі недаўмявае, але рашуча падае яму таварыскую руку дапамогі.

У двух артыкулах, надрукаваных у сакавіцкіх выпусках аўстрамарксыцкага журналу „Змаганьне“[1]) і органу нямецкіх „левых“ с.-д. „Клясавае змаганьне“[2]), Дан вельмі энэргічна апраўдвае політыку Троцкага, лічыць яе ядына правільнай у сучасных умовах Савецкага Саюзу, ухваляе яго змаганьне за „дэмократыю“ і супроць „тэрору бальшавіцкай дыктатуры“. Адначасова намацваецца глеба для канчатковага вылячэньня Троцкага ад „ваенна-комуністычных“ традыцый, што засталіся яшчэ ў яго, і вядзецца падрыхтоўчая работа за выратаваньне „ахвяры тэрору“ і зваранэньня яго на шлях „яднаньня социялістычных і комуністычных сіл рабочага руху“.

*
* *

„Здарэньне“ з Троцкім для Дана зьяўляецца толькі паасобным эпізодам або этапам, які паказвае „слабасьць“ Савецкай улады і пераход яе да мэтадаў „бонапартыцка-фашысцкай дыктатуры“. На гэтай падзеі меншавікі імкнуцца апраўдаць сваю тэорыю і тактыку змаганьня за буржуазна-дэмократычныя прынцыпы. Выпадак з Троцкім, яго рэне-

[1]) „Der Kampf“ № 3. „Das Grundproblem Sowjetrusslands“.
[2]) „Der Klassenkampf“ № 6. „Trozkys Schicksal“.

гацтва, на думку меншавіцкага прарока, скрывае „няўнікнёнасьць разлажэньня бальшавіцкай дыктатуры“, якая паступова праходзіць „усе этапы францускае рэволюцыі“.

„Праўда,—адзначае Дан,—гэта разлажэньне можа цягнуцца вельмі доўга і быць надта зыгзагаватым. *Але ясна адно: гэта дыктатура ўступіла ў сваю апошнюю, ліквідацыйную фазу.* Разам з гэтым, няўнікнёна ставіцца пытаньне аб „наступным дні“ далейшага лёсу рускай рэволюцыі і рускае рабочае клясы“ [1]. Тут, нясумненна, узьнікае пытаньне аб „насьледніках“ гэтай, „што ліквідуецца“, дыктатуры. Яго і бярэцца вырашыць п-н Дан. Перш за ўсё трэба давесьці, што практыка і політыка бальшавізму з самага пачатку не адпавядала і не адпавядае гістарычным умовам разьвіцьця гаспадаркі Савецкага Саюзу і што савецкая экономіка, ня гледзячы на яе соцыялістычны сэктар, зьяўляецца ў істоце „дзяржаўна-капіталістычнай, якая нічым не адрозьніваецца ў сваіх гаспадарчых, соцыяльных і політычных імкненьнях і патрабаваньнях ад прыватна-капіталістычнай прамысловасьці, дзе непасрэдны продуктар-рабочы знаходзіцца ў такім-жа становішчы, як у сучаснай савецкай экономіцы“ [2]. Меншавіцкая кляча яшчэ раз брыкнула ў бок савецкай дзяржаве, пасьля чаго кажа, што політыка пераходу буйнай індустрыі ў рукі дзяржавы зьяўляецца „найвялікшай памылкай рэволюцыі“. Прамысловасьць трэба было не нацыяналізаваць, а проста контроляваць яе політычнымі сродкамі. Няхай разьвіваліся-б вытворчыя сілы краіны. Ад гэтага павялічыўся-б дабрабыт краіны, узмацнілася-б рабочая кляса, расла-б яе клясавая самасьвядомасьць. Адначасова з гэтым зжываліся-б тэндэнцыі капіталістычнага разьвіцьця вёскі [3]. Такая экономічная політыка „раскулачваньня“ вёскі і „ўмацаваньня“ асноў соцыялістычнага будаўніцтва, аказваецца, мае патрэбу яшчэ ў „пасьлядоўнай політычнай програме“, якая, паводле Дана, зьяўляецца *„ядына правільнай політыкай ратаваньня рускай рэволюцыі“*. І выражаецца яна *„ў перадачы ўлады ў рукі дэмократычных пластоў народу“*. Ох, ужо гэтыя дэмократычныя пласты па меншавіцкаму рэцэпту! Ці ня ў рукі такіх „дэмократаў“ загадаеце, пане Дану, перадаць уладу, з ласкі якіх цяпер існуе меншавіцкая хэўра? Або, быць можа, пасадзіць на чале пролетарскай дзяржавы навейшага „змаганьніка за дэмократыю“—Троцкага ці такога „дэмократа“, як старшыня гэрманскага рэйхстагу—пан Лёбэ, якога Троцкі ў сваім хадайніцтве аб уезьдзе ў Гэрманію заклікае да „справядлівасьці“ буржуазнай дэмократыі?

Баючыся, што яго, Дана, могуць ня зусім дакладна зразумець, ён сьпяшае падзяліцца з чытачамі самай новай установкай меншавізму і дае вельмі конкрэтны ключ да вырашэньня шыфру „новай політычнай дэмократыі савецкай дзяржавы“. „У сялянскай краіне, дзе паміж рабочай клясай і сялянствам стварыліся пэўныя політычныя і экономічныя традыцыі, *пры наданьні сялянству політычных правоў, няма небясьпекі разрыву саюзу паміж гэтымі клясамі.* Для гэтага *трэба ўжыць нешта накшталт гаспадарчай програмы, прапанаванай „правай опозіцыяй“* [4] (Чуеце, чуеце, куды загнуў? М. К.) Для меншавіцкага контр-рэволюцыйнага катла ўсё прыдаецца. Учора трацкізм, сёньня правы опортунізм, заўтра чарговае падтрыманьне с.-д. чорнай рэакцыі або фашызму—усё гэта зьяўляецца лепшымі спажыўнымі сокамі для здраднікаў рабочае клясы.

[1] „Kampf“, стар. 127.
[2] Там-жа, стар. 128.
[3] Там-жа, 128.
[4] Там-жа, 132.

Упэўнены ў пастаноўцы свайго дыягнозу на занядужаньне саюзнага пролетарыяту ідэяй „бальшавіцкай“ дыктатуры, Дан ставіць пытаньне аб радыкальным лячэньні „хворага“ і выпісвае ратаўнічы ад усіх хвароб рэцэпт: „*...стварэньне сапраўднай коаліцыі і ўстанаўленьне ўзаемаадносін пролетарыяту і дробна-буржуазнага сялянства, што памагло-б зжыць бальшавіцкую дыктатуру... Зьмест гэтай новай коаліцыі будзе выражацца ў коаліцыйным урадзе рабочай і сялянскай партыі.* Рэзультатам гэтага павінна быць: свабодныя выбары ў саветы, зьніштажэньне тэрору і прывілеі комуністычнай партыі, наданьне політычных свабод і, у першую чаргу, свабоды організацыі працоўных кляс. *Толькі такім способам мысьліцца дэмократызацыя савецкай сыстэмы, якая павінна непасрэдна абярнуцца ў дэмократычную рэспубліку*“ [1]. Дан мысьленна ўсьціскае руку Троцкага і, заклікаўшы сабе на дапамогу дасьведчаньне і аўтарытэт „вялікага рэволюцыянэра“, зазначае, што і той, „насьлядуючы соцыял-дэмократам, прызнае канечнасьць пераходу пролетарыяту да політычнай атакі“ [2]), ядына здольнай выратаваць становішча.

Падкрэсьліваючы ідэнтычнасьць трацкізму з меншавізмам, Дан з пераможным выглядам напамінае Троцкаму яго мінулыя „бальшавіцкія памылкі“ і „ваенна-комуністычныя“ настроі. У тым, што Троцкі прышоў, так сказаць, з баямі да меншавізму, што *ён заклікае да змаганьня за свабоду забастовак і рабочых організацый у СССР і, у першую чаргу, да змаганьня за тайнае галасаваньне пры выбарах, пачынаючы з партыі і канчаючы саветамі, рыцар меншавізму ўгледжвае найвялікшую гістарычную задачу Троцкага.* Дан нават гатоў даць амністыю Троцкаму за яго дзесяцігадовы стаж змаганьня супроць тайных выбараў і здрадніцкай соцыял-дэмократыі.

Зышліся, можна сказаць, на вельмі „нязначным“: на прызнаньні канечнасьці ліквідацыі савецкага ладу. Аказваецца, небясьпечная гэта штука—лаяць і змагацца з меншавізмам. Ідзі-ж, потым, калі спатрэбіцца, давядзі, што ты ня лаяўся зусім, а так проста прынцыпова спрачаўся. Але Дан, відаць, чалавек незласьлівы. Яму вельмі важна выкарыстаць „бліскучую“ эволюцыю Троцкага, каб давесьці „незьмястоўнасьць і немэтазгоднасьць“ усякага змаганьня з с.-д.

Больш таго,—ён упэўнены, што кожны, каму яшчэ дарагі інтарэсы соцыялістычнай рэволюцыі, абавязкова павінен перайсьці ў лягер меншавізму, і ў гэтых адносінах Троцкі зрабіў вельмі „цэнны“ пачатак, які ніколі не забудзецца ня толькі што Данам, але і міжнароднай контр-рэволюцыяй. Гэтым і тлумачацца такія ўважлівыя і абыходлівыя адносіны да лёсу Троцкага (так называецца, паміж іншым, другі артыкул „Frozkys Schicksal“) з боку ўсіх ворагах дыктатуры пролетарыяту.

* * *

„Дасьледваньне“ лёсу Троцкага пачынаецца з цьверджаньнем, што гісторыя паўтарыла з ім тое, што ён сам у свой час прарабіў з меншавікамі. Так сказаць, перамяніліся ролі, з тэй толькі розьніцай, што меншавікі ў эміграцыі, былыя „ахвяры бальшавізму“, цяпер прымаюць аднаго з сваіх „ганіцеляў“ *з вялікай радасьцю.* Выходзіць, што сапраўды: ня плюй у калодзеж—прыдзецца з яго вады напіцца. Троцкі дапамагаў выганяць і ліквідаваць меншавікоў—цяпер сам папаў у

[1]) „Kampf“, 132.
[2]) Там-жа, 132.

становішча „выгнаньніка“ і ліквідаванага“. Раней ён называў усякае выступленьне меншавікоў супроць „бальшавіцкага тэрору“ хлусьнёй, здрадай, контр-рэволюцыяй, цяпер-жа ён сам падпаў пад уплыў „істоты дыктатуры і вымушан заклікаць міжнародны пролетарыят (чытай: меншавікоў і ўсякі іншы здрадніцкі зброд. М. К.) да змаганьня супроць тэрору. Цяпер, паводле Троцкага, гэта ўжо ня хлусьня, а самая істотная і сумная праўда“ [1]).

Гісторыя, у сапраўднасьці, паўтарылася. Толькі на гэты раз ужо як пошлы фарс і подлая здрада ў контр-рэволюцыйным раі.

Паплакаўшы кракадзілавымі сьлязьмі з поваду „чалавечай і палітычнай трагэдыі“ зноў знойдзенага сутаварыша ў справе змаганьня супроць савецкай улады, Дан прыходзіць да вываду, што Троцкі быў „зьніштожаны жорнамі тэй тэрорыстычна-дыктатарскай машыны, галоўным будаўнікам (дазвольце моцна ўсумніцца! М. К.) якой ён сам зьяўляўся“ [2]). І ў гэтым, аказваецца, вінаваты сам Троцкі, які мог ад усіх гэтых прыкрасьцяй яшчэ раз выбавіцца, калі-б... калі-б ён яшчэ раней адышоў ад „дыктатарскай“ сыстэмы. А Дан не сумняваецца ў тым, што Троцкі „заўсёды адзначаўся меншай бальшавіцкай устойлівасьцю, чым Ленін [3]). Больш яскравай характарыстыкі Троцкі ад сваіх былых часовых ворагаў, якія ніколі не сумняваліся ў яго „асобных здольнасьцях“, чакаць ня мог. Невядома, наколькі гэта будзе прыемна для тых, у каго „левыя“ настроі яшчэ ня зусім зжыліся.

Троцкі, на думку свайго плакальшчыка, павінен быў зразумець, што яшчэ з моманту кранштадзкіх падзей пачаўся „этап яго сьмяртэльнага ўпаду“. Замест таго, каб у сакавіку 1921 г. выступіць супроць кранштадзкіх матросаў, яму трэба было падтрымаць іх патрабаваньні. „Матросы-ж бо тады зусім не паўставалі. Яны толькі запатрабавалі зьмены бальшавіцкай гаспадарчай палітыкі, патрабавалі свабодных выбараў у саветы і расшырэньня політычных правоў паводле конституцыі“ [4]).

Не прадугледзіў Троцкі этапаў свайго разьвіцьця. Ён тады не разумеў, што яму прыдзецца бараніць лёзунгі контр-рэволюцыі. Якая прыкрая недалёкабачнасьць і непрабачнае неразуменьне! Вось гэта асабліва і дзівіць Дана. Не знаходзячы ў даным выпадку зьмякчаючых віну акалічнасьцяй, Дан злосна праракуе: „Яшчэ ў Кронштадзе пачынаецца шлях Троцкага, прывёўшы яго праз 8 гадоў у Канстантынопаль“ [5]).

„Caveant consules!“ Памятайце ўсе, у кім яшчэ дарагі інтарэсы рабочае клясы, што „ядына правільная програма ратаваньня рэволюцыі зьяўляецца гістарычна апраўдаўшая сябе програма Кронштадту“ [6]). Троцкі гэта ў свой час не хацеў зразумець, таму цяпер і „пакутуе ў выгнаньні“. Спазьніўся, аказваецца, са здачай экзаміну на меншавіцкі атэстат дарослаьсці. Аднак, гэта ані не перашкаджае ўсяляк заахвочваць „выгнаньніка“ і духоўна яго падтрымліваць. Дан гарантуе *людзкія* да Троцкага адносіны,—ведай, моў, нашу дабрату, мы-ж бо ня жорсткія мсьціўцы. Дан, аказваецца, не пазбаўлен і некаторай долі гумару. Ён гіранічна дзівіцца і адзначае дзівачную супярэчнасьць у паводзінах Троцкага, калі той зварачаўся да старшыні гэрманскага рэйхстагу— соц.-дэм. Лёбэ, аб дазволе яму на ўезд у Гэрманію, прычым у гэтым

[1]) „Klassenkampf“, стар.180.
[2]) Там-жа, стар. 181.
[3]) Там-жа, стар. 181.
[4]) Там-жа, стар. 183.
[5]) Там-жа, стар. 185.
[6]) Там-жа, стар. 184.

звароце Троцкі спасылаецца на прамову Лёбэ, дзе апошні якраз выкладае перавагі „дэмократычнай“ нямецкай констытуцыі перад „дыктатарскай“ савецкай.

„Але-ж, с.-д., — гіронізуе Дан, — прадажная дрэнь і найгоршыя здраднікі рабочае клясы! Політычная дэмократыя—гэта-ж бо нішто іншае, як буржуазны абман рабочых мас, абман, падтрымліваны соц.-дэмократычнымі лёкаямі буржуазіі“ [1]), — яхіднічае найноўшы апекавальнік Троцкага. Але якая справа Троцкаму да таго, што было раней! Тады-ж бо былі зусім іншыя абставіны. Тады можна было пісаць і аб „тэрорызьме і комунізьме“, тады буржуазна-дэмократычны лад падпаў пад шалёную атаку. А цяпер—цяпер усе сродкі добрыя, аж да звароту да Мусаліні з хадайніцтвам аб праве пражываньня ў „свабоднай“ і „дэмократычнай“ фашысцкай Італіі, аж да адмовы ад ядынай у сьвеце констытуцыі сапраўднай рабочай дзяржавы. Шырокай натуры Троцкага аказалася мала месца ў рамках савецкай (пролетарскай) дэмократыі. Не да густу аказалася „вольнадумнаму“ „правадыру“ *рэальныя свабоды*, якія даюцца паводле савецкай констытуцыі *толькі працоўным*. Як трэба было нізка, сапраўды, апусьціцца, каб нават Дан і той не пасароміўся паказаць дзіўна сьмешнае і агіднае становішча, у якое ў даным выпадку папаў Троцкі. Як і належыць добраму, старому, байцу за „свабоду“, Дан ўсё-ж вітае і гэты крок апошняга, які здаўся на літасьць пераможцы. Гэты крок павінен памагчы Троцкаму канчаткова вызваліцца ад апошніх ілюзій, якія маглі, на думку спрытнага адвоката, у яго яшчэ застацца.

Але што асабліва абескуражвае славутага апекавальніка контррэволюцыі і што ня мала шокіруе меншавікоў перад рабочай клясай, асабліва пасьля ўзяцьця Троцкага пад сваю абарону, дык гэта—ігнараваньне апошнім пустой меншавіцкай кішэні і звароту да буржуазнага друку. „Перш, чым стыкнуцца з міжнароднай рабочай клясай, або, прынамсі, з яе комуністычнай часьцю (маюцца на ўвазе „левыя“. М. К.) і выкарыстаць іх друк, для апэляцыі да пролетарскай грамадзкасьці, Троцкі палічыў магчымым праз амэрыканскіх агэнтаў друку буйнай буржуазіі зьвярнуцца да многалікай буржуазнай чытацкай публікі з выкладам тлумачэньня сваіх паводзін... і з сэнсацыйнымі выкрываньнямі“ [2]).

Які жах, бедны Дан і К-о! Ёсьць аб чым турбавацца! Сапраўды, скандальная гісторыя. Такую буйную рыбу праваронiць! Падумайце толькі,—які політычны капітальчык можна было-б нажыць сярод усіх ненавісьнікаў савецкай дзяржавы, зьвярніся толькі спакушаны долярамі Троцкі да меншавікоў. А цяпер—ад няўдалай конкурэнцыі толькі галаўныя болі і ня зусім выгоднае становішча. Бараніць троцкізм меншавікам усё роўна трэба, гэта, так сказаць, па штату паложана, але бараніць Троцкага пасьля такога пасажу, з падмочанай рэпутацыяй „правадыра“ сярод шырокіх пластоў працоўных—куды цяжэй. Гэта дасканала разумее Дан. Таму такая зьбянтэжаная міна, ноткі жалю ў голасе і кваліфікацыя гэтых паводзін, як „рэзультату політычнай трагэдыі Троцкага“.

Нічога—адпачыне крыху чалавек у меншавіцкіх абыймах, паправіцца ад усякіх „злых хвароб“, нэрвы адыдуць, прывыкне, супакоіцца і ўсё можна будзе навярстаць. Дый цяпер, калі больш об‘ектыўна прыгледзецца да таго, што здарылася, дык асаблівага, як быццам, зусім і ня здарылася. Меншавіцкі бацька, вельмі асьцярожна наракаючы свайго

[1]) „Klassenkampf“, стар. 181.
[2]) Там-жа, стар. 181.

„блуднага сына“, журыць яго за „палітычную заяву з поваду свайго „вымушанага“ выступленьня ў буржуазным друку. Апраўданьне Троцкага ў тым, што ён „прымушан цяпер зварачацца да грамадзкасьці іншымі сродкамі, чым раней, таму, што ён знаходзіцца і ў іншым становішчы, чым калі-небудзь“, робіць на Дана супакойваючы ўплыў. У яго сэрцы зараджаецца глыбокае разуменьне і спачуваньне. У чульлівых выразах заяўляецца, што такія паводзіны „нікім цяпер няпрызнанага“ „вялікага чалавека“ даводзяць, што практыка дыктатарскай улады можа таўхнуць вельмі даравітых і выдатных людзей на шлях корумпіраваньня і ўцягвае ў дзіўны стан самаабману“ [1]).

Зразумела, што ў такім становішчы „няведаньня і самаабману“ пакідаць бездапаможнага „вялікага чалавека“ нельга. Трэба „ратаваць“ сваечасова, што „ратаваньню“ падаецца, а то, часова „зблудзіўшы“, зусім можа забыць пра існаваньне некаторых „традыцый расійскай соцыял-дэмократыі“ (у эміграцыі. М. К.). Напамінайце, напамінайце, панове эміграпты! Трэба ў гэтай справе прыналегчы. Мо‘ і выратуеце чалавека—і добрую справу зробіце. Варта патурбавацца,—такі ўлоў ня кожны дзень бывае. Але Дан не здаволены цяперашнім Троцкага, прырыхтаваным яго уласным мінулым. Ён больш цікавіцца будучынай гэтага „паражонага дыктатурай чалавека“ [2]).

На думку Дана, перад Троцкім, калі-б ён хацеў адыгрываць у далейшым некаторую гістарычную ролю, стаяць два шляхі. Першы з іх— гэта „шлях зьбіраньня навакол сябе ўсіх прыхільнікаў сваёй ваеннакомуністычнай ідэі (гэта павінна азначаць „лявізну“ яго. М. К.), стаць рускім Бабёфам і, на чале утапічна-рамантычных элемэнтаў расійскага пролетарыяту, якія яшчэ засталіся, даць безнадзейны, поўны роспачы, бой буржуазнаму парадку, які пераможна ўстанаўляецца ў Расіі, і патануць у гэтым змаганьні“ [3]).

Відаць, і сам Дан не асабліва верыць у сілы трацкісцкай контр-рэволюцыі і ўсякіх „левых“ настрояў у СССР, а наадварот—упэўнены ў безнадзейнасьці ў яго краіне дыктатуры пролетарыяту. Таму, па зазначанаму шляху, што прыносіць Троцкаму паражэньне, ня раіцца ісьці. Праўда, гэта—„поўная эфэкту, гэроічная, але разам з тым гістарычна-фатальная роля. Стаць на гэты шлях азначае паставіць пад стрэл буржуазіі апошнія, рэволюцыйныя сілы краіны, якія засталіся яшчэ адданымі справе рабочае клясы. Гэта прывяло-б да ўзмацненьня контр-рэволюцыі, а не да яе паслабленьня“ [4]). Значыцца, пакуль што трэба пачакаць і сіл не распыляць. „Контр-рэволюцыя“ і „буржуазны парадак“, якія разьвіваюцца ў СССР, могуць быць фатальнымі і для рускага Бабёфа, а таму лепш пакінуць часова падзеі свайму ўласнаму разьвіцьцю і вычакаць больш выгоднай сытуацыі для дзей. „Програма ратаваньня рэволюцыі“ выпрацавана досыць рэальная. Дан з ёй салідарны, Троцкі не пярэчыць—дык чаго-ж больш. У сувязі з гэтым рэкомэндуецца другі шлях. Гэта—шлях ажыцьцяўленьня „програмы пасьлядоўных палітычных свабод“. Калі-б Троцкі сапраўды згадзіўся папрактыкавацца ў „свабодных спраў“ майстры—пана Дана, дык ён пераканаўся-б у канечнасьці *„бесьпярэчлівага пераходу ад ленінізму да марксызму. На гэтым шляху ён мог-бы яшчэ адыграць вялікую гістарычную ролю, якая можа імпонаваць у наш час любому правадыру*

[1]) „Klassenkampf“, стар. 181.
[2]) Там-жа, стар. 185.
[3]) Там-жа, стар. 185.
[4]) Там-жа, стар. 185.

*рабочых мас,—роля творцы адзінства соцыялістычнага і комуністычнага рабочага руху*“ [1]).

У тым, што Троцкі ўжо „політычна да гэтага дарос“, Дан яшчэ сумняваецца. Але што ён дарасьці можа, у гэтым ён не сумняваецца. Якая дзіўная, мякка кажучы, наіўнасьць! Няўжо-ж можна яшчэ сумнявацца ў тым, што Троцкі ўжо даўно адмовіўся ад ленінізму, сам-жа бо Дан сьцьвярджае, што Троцкі „заўсёды адрозьніваўся меншай бальшавіцкай устойлівасьцю, чым Ленін“. Дык як можна сумняцца цяпер у тым, што Троцкі ўзяў на сябе іншую гістарычную ролю—ролю правадыра ў справе аб'яднаньня здрадніцкіх і контр-рэволюцыйных сіл супроць дыктатуры пролетарыяту.

Спазьніліся з парадамі і абаронай, п. Дан! Троцкі ва ўвесь свой гістарычны рост паказаў, што ён ня толькі дарос да шляху адыходу ад ленінізму і марксызму, але і апярэдзіў у росьце сваіх меншавіцкіх абаронцаў.

---

[1]) „Klassenkampf“, стар. 185.

Р. Выдра.

# Да вынікаў другой марксыцка-ленінскай канфэрэнцыі.

Адным з характэрнейшых выразаў агульнага матар'яльнага і культурнага росту, перажываемага нашым Саюзам, зьяўляецца тая вялізарная зацікаўленасьць да пытаньняў тэорыі, якую выяўляюць шырокія масы рабочых і працоўных. З гэтага пункту погляду 2-я Ўсесаюзная канфэрэнцыя Марксыцка-Ленінскіх установаў, якая адбывалася яшчэ нядаўна (8—15-га красавіка), будзе мець выключнае значэньне. Яна падвяла вынікі надзвычайна значнай праробленай работы, яна зрабіла акрэсьленае разьмежаваньне сіл, якія змагаюцца, дала ацэнку ўдзельнае вагі і росту кожнай з іх, вызначыла асноўныя задачы, якія стаяць перад філёзофіяй марксызму і ленінізму ў нашых надзвычайна складаных умовах.

Якія-ж гэтыя ўмовы? Якія ўмовы, пры якіх зьбіралася 2-я канфэрэнцыя Марксыцка-Ленінскіх установаў? Калі абмежавацца межамі нашага Саюзу, то гэтыя ўмовы ў асноўным характарызуюцца тым абвастрэньнем клясавай барацьбы, якое вызначаецца пераможным сацыялістычным наступам на капіталістычныя элемэнты, наступам няўхільна зьвязаным з нашым вялізарным сацыялістычным будаўніцтвам. Абвастрэньне клясавай барацьбы знаходзіць сваё выяўленьне ўва ўсіх галінах, у тым ліку і ў галіне тэорэтычнай барацьбы. Марксыцка-Ленінскае палажэньне „без рэвалюцыйнай тэорыі ня можа быць рэвалюцыйнай практыкі"—набывае цяпер асаблівае значэньне ў зьвязку з тым, што сама рэвалюцыйная практыка стала шырэй, многавобразьней, глыбей, паколькі яна ператварылася ў нас у практыку будуючагася сацыялізму, які ахапляе і перарабляе ўсе бакі, усе галіны грамадзкага жыцьця: і тэхніку, і экономіку, культуру, навуку, мастацтва. Само сабой зразумела, што такая шырокая і ўсебаковая рэвалюцыйная практыка, зьвязаная з абвастрэньнем клясавай барацьбы, прад'яўляе адпаведныя запатрабаваньні да характару тэй тэорэтычнай барацьбы, якая вядзецца намі ў краіне будуючагася сацыялізму.

Аднак, гэтым справа не абмяжоўваецца. Мы не зьяўляемся ізаляванай дзяржавай. Нас атачае капіталістычны сьвет. У непасрэднай сувязі з гэтай абставінай знаходзіцца той факт, што нам прыходзіцца весьці тэорэтычную барацьбу, у, так сказаць, міжнародным маштабе, барацьбу з рэакцыйнай буржуазнай ідэолёгіяй, з яе прасякненьнем ува ўсе галіны навук, як грамадзкіх, так і прыродазнаўчых, з ідэолёгіяй 2-га Інтэрнацыяналу, які імкнецца прыстасаваць мысьленьне пралетарыяту да патрэб і інтарэсаў буржуазіі, ці шляхам непасрэднай прапаганды яе поглядаў, ці шляхам „спалучэньня" марксызму з ідэалізмам у розных яго праявах.

На нас, як на першую пралетарскую дзяржаву, у гэтай барацьбе кладуцца яшчэ большыя адказнасьць і задачы.

Умовы, у якіх зьбіралася 2-ая Канфэрэнцыя, характэрны яшчэ тым, што ў краіне дыктатуры пралетарыяту „пануючымі ідэямі зьяўляюцца ідэі пануючай клясы“ (Маркс). Гэта значыць, што ў галіне ідэолёгіі ў нас зьдзейсьняецца дыктатура марксызму-ленінізму. Такое палажэньне рэчаў прывяло да таго, што ўсялякага роду варожыя выступленьні супроць дыялектычнага матар'ялізму, як філёзофіі марксызму-ленінізму, носяць „марксыцкія“ вопраткі. З другога боку, дыктатура марксызму ўтварае магчымасьць яднальня і зьбіраньня ў адзіны варожы лягер усіх тых, хто не задаволены гэтай дыктатурай.

Усе гэтыя ўмовы вызначылі сабой той характар, які насіла 2 Канфэрэнцыя Марксыцка-Ленінскіх устаноў. Як даклады, так і спрэчкі па іх насілі ў вышэйшым стопню прынцыповы характар. Барацьба сьветапоглядаў, выпрацоўка востра-адточанай пляцформы марксыцка-ленінскай філёзофіі, рашучая барацьба з усялякім рэвізыянізмам марксыцкай мэтадалёгіі ў галіне прыродазнаўчых і грамадзкіх навук, вось, што складала асноўную вось, чырвоную істужку, якая праходзіла цераз усю канфэрэнцыю. Зусім натуральна таму, што галоўная ўвага канфэрэнцыі згрупавалася на дакладах А. М. Дэборына—„Аб сучасных праблемах філёзофіі марксызму-ленінізму“ і О. Ю. Шмідта—„Задачы марксыстаў-прыродазнаўцаў і дзейнасьць сэкцыі прыродазнаўчых і дакладных (точных) навук Камуністычнай Акадэміі“.

Характарызуючы пройдзены намі шлях і праверыўшы выкананьне тых задач, якія ў свой час былі пастаўлены Леніным у яго артыкуле „Аб значэньні ваяўнічага матарыялізму“, тав. Дэборын устанавіў шэраг значных посьпехаў.

Увесь час вядзецца сыстэматычная работа па вывучэньню і распрацоўцы філёзофскай спадчыны Маркса, Энгельса і Леніна, матарыялістычнай пераапрацоўкі Гегелеўскай дыялектыкі, вывучэньне гісторыі матарыялізму і дыялектыкі. Вядзецца барацьба з рознымі відамі сучаснага ідэалізму, папоўшчыны і рэвізыянізму як у нас, так і на Захадзе (этычны і рэлігійны сацыялізм: дэ-Ман, Каўцкі, Кунаў, махізм-Шпэнглер, Гусэрль, Бэргсон, віталістыя—Бэрг, эміграцкая філёзофія, фашысцкая філёзофія і інш.). Пачата распрацоўка праблем сучаснага прыродазнаўства з пункту погляду дыялектычнага матарыялізму. Мы маем ужо пэўны кадр работнікаў-камуністаў у галіне філёзофіі і прыродазнаўства. Само сабой зразумела, што ўва ўсіх гэтых напрамках перад намі яшчэ непачаты край работы, асабліва ў справе прасякненьня марксыцка-ленінскай мэтадолёгіі ў прыродазнаўчыя навукі.

Тав. Дэборын завойстрыў увагу на барацьбе з галоўнай рэвізыяніцкай плыньню ў Нашым Саюзе—з мэханістычным сьветапоглядам. Гэта яно як раз адыгрывае ролю зьбіральніка пад сваё крыло ўсіх незадаволеных дыктатурай марксызму ў нашай краіне. Гэта яно якраз, аб'ядвае самыя разнастайныя элемэнты, як філёзофскага блытаньніка А. Вар'яша, як Л. Аксельрод (ортадокс), ад артадаксальнасьці якой засталіся адны ўспаміны, і фізыка А. К. Ціміразева і цэлы шэраг іншых, якія разам вядуць па сутнасьці барацьбу супроць філёзофіі марксызму-ленінізму, падмяняючы на справе рэвалюцыйна-матарыялістычную дыялектыку—вульгарным (прастацкім) эвалюцыянізмам, а матарыялізм—позытывізмам.

Тав. Дэборын зусім праўдзіва абвінавраціў мэханістых у хвасьцізьме. Што яны ўвесь час рабілі? *Яны зьвярнулі ў спрэчныя пытаньні—тыя пытаньні, якія даўно ўжо былі вырашаны, як Марксам, так і ўсімі пасьлядоўнымі рэвалюцыйнымі марксыстамі.* Яны цягнулі нас назад, хвасьціцкі тлумачачы вытрымкі з Леніна аб стыхійным прасякненьні дыялектычнага матар'ялізму ў галовы сучасных прыродазнаўцаў пад

уціскам вялізарнага вопытнага матар'ялу, які ў іх сабраўся. На самай справе, як выкарысталі мэханісты гэта палажэньне Леніна? Яны спрабавалі даказаць, што раз само прыродазнаўства штурхае прыродазнаўцаў у бок дыялектычнага матарыялізму, то нам няма чаго ўмешвацца ў гэты працэс. Раз Ленін сказаў: „сучаснае прыродазнаўства ляжыць у радох. Яно нараджае дыялектычны матарыялізм",—то па мэханістам выходзіла: „няхай сабе нараджае". Дапамагчы гэтаму працэсу, паскорыць яго, унесьці ў яго стыхійнасьць сьвядомасьць, *кіраваць* ім з пункту погляду дыялектычнага матарыялізму,—усё гэта мэханісты лічылі ня толькі лішнім, але і шкодным. У той час, як Ленін даў бліскучы ўзор і ўмешваньня і кіраўніцтва, у той час, як ваяўнічыя матарыялісты-дыялектыкі нагадоўваючы прыклад і паказаньні Леніна спрабавалі—і не бяз посьпеху—садзейнічаць сьвядомаму і плянамернаму прасякненьню дыялектычнага матарыялізму ва ўсе галіны навук, мэханісты не знайшлі нічога лепшага, як абвінаваціць т. Дэборына і яго школу ў схалястыцы, у адраджэньні Гегелеўскага ідэалізму, у віталізьме, дайшоўшы ў гэтым пытаньні да таго, што абвінавацілі ў віталізьме і... Энгельса.

Няма нічога дзіўнага ў тым, што спрэчкі, як па дакладу тав. Дэборына, так і па дакладу т. Шмідта разгарнуліся ў роўніцы барацьбы паміж матарыялістамі-дыялектыкамі і мэханістымі. Дзякуючы, простацкі мізэрным выступленьням галоўных прадстаўнікоў мэханістаў—Вар'яша, Ціміразева, Сараб'янава—спрэчкі не перайшлі таго тэорэтычнага ўзроўню, які насіла літаратурная дыскусыя, быўшая перад гэтым. Тав. Вар'яш аднавіў свае абвінавачваньні ў ідэалізьме, прывёўшы ў доказ той факт, што на старонках „Вестніка Камуністычнай Акадэміі" без абмовак рэдакцыі была працытавана К. Скурэрам, ода Дзяржавіна...

...„Пространством бесконечный,
живый в движении вещества,
течением времени превечный" і г. д.

Прыблізна такі-ж характар, але з большым адыходам ад сваіх пазыцый і з большым маскаваньнем яго, насілі выступленьні т. Ціміразева, Перова, спрабаваўшых абгрунтаваць тое палажэньне, што галоўная барацьба павінна адбывацца супроць ідэалізму, іх-жа, мэханістаў ня трэба чакаць, бо, хоць яны і дрэнныя матарыялісты, але ўсе-ж матарыялісты. Наогул, трэба сказаць, што мэханісты на гэтай канфэрэнцыі—у строга абмяжованых асадках падабенства—як-бы ільлюстравалі вядомую характарыстыку Энгельсам жыцьцёвых зьяў у адрозьніваньне ад неарганічных. У той час, як у апошніх, абмен рэчаў зьяўляецца ўмовай іх руйнаваньня (раскладу), у першых—тыя-ж працэсы абмену служаць умовай захоўваньня. Філёзофская жыцьцёвасьць мэханістаў вызначалася мерай іх уласнага самазьнішчажэньня. Яны працягвалі рабіць некаторы філёзофскі ўплыў толькі ў меру таго, наколькі яны адмаўляліся ад сваіх прынцыпаў і сваіх поглядаў. Адмовіўшыся ад свайго агульнага адмаўленьня філёзофіі пад уплывам удараў нанесеных матарыялістамі дыялектыкамі, мэханісты наогул маглі праявіць некаторыя адзнакі жыцьця. Толькі пасьля таго, як Ціміразеў адкінуў сваё суб'ектыўнае тлумачэньне выпадковасьці і кантрабандай засвоіў яе аб'ектыўнае тлумачэньне, ён меў магчымасьць выступаць на філёзофскай глебе. І вышэйшай жыцьцёвай праявай мэханістаў было, што вырвалася ў аднаго з іх, прызнаньне аб тым, што яны зьяўляюцца дрэннымі матарыялістымі. Аднак, на канфэрэнцыі вызначалася, што мэханісты захаваўшы свае старыя вопраткі, усё яшчэ працягваюць барацьбу з дыялектыкамі-матарыялістымі, усё яшчэ не адмаўляюцца ад абароны цэлага шэрагу сваіх поглядаў,

у асаблівасьці сваіх поглядаў на існасьць дыялектыкі. У той час, як матарыялісты-дыялектыкі даюць правільнае разуменьне гэтай сутнасьці, як закону адзінства супроцьлегласьцяй і іх узаемнага прасякненьня закону, выражаючага той факт, што адзіны сусьветны працэс з-за сваёй супярэчнасьці павінен выступіць у нашай сьвядомасьці ў супроцьлеглых азначэньнях і катэгорыях, тым ня менш зьвязаных і ўзаемна прасякаючых адна другую—як раз з-за прыналежнасьці сваей да адзінага супярэчнага працэсу,—мэханісты даюць гэтаму закону спрошчанае, вульгарнае тлумачэньне барацьбы, сутычкі, штуршка вонкава супроцьлеглых сіл, вобразам якога можа зьявіцца сутычка більярдных куляў.

Аднак, колькі ня імкнуліся мэханісты захаваць свае старыя, але ўжо выкрытыя разнагалосьсі з матарыялістымі-дыялектыкамі, ім гэта поўнасьцю не ўдалося. Знайшоўся адзін з іх, які раскрыў усю сутнасьць мэханістычнага напрамку. Гэта быў тав. Цэйтлін. Ён проста сказаў тое, што думалі, але баяліся выказаць іншыя. Набраўшыся сьмеласьці, ён выклаў зноў усю старую пляцформу: і адмаўленьне ролі філёзофіі, і адмаўленьне якога-небудзь значэньня за матарыялістычнай дыялектыкай у галіне прыродазнаўчых навук, заставіўшы ёй на ўладаньне „вузкае“ поле грамадзкіх навук, і абвінавачэньне матарыялістаў-дыялектыкаў у схолястыцы і арыстотэлізьме. Гэта выступленьне, выкрыўшае, так сказаць, душу мэханістаў, паслужыла лішнім пацьвярджэньнем неабходнасьці той барацьбы, якая была праведзена матарыялістымі-дыялектыкамі супроць мэханістаў за апошнія гады. Ня гледзячы на боязкія выступленьні мэханістаў, цалкам правільнай аказваецца характарыстыка, дадзеная ім у рэзалюцыі канфэрэнцыі: „Гэта плынь уяўляе наяўны адыход ад марксыцка-ленінскіх філёзофскіх пазыцый. Канфэрэнцыя лічыць неабходным працягваць сыстэматычную крытыку і выкрыцьцё памылак мэханістычнага напрамку з пункту погляду пасьлядоўнага марксызму-ленінізму“.

Ня менш баявы характар насілі даклад тав. Шмідта і спрэчкі аб задачах сэкцыі прыродазнаўчых і дакладных (точных) навук Камуністычнае Акадэміі. Тут атрымалі сваё канкрэтнае выяўленьне тыя агульныя задачы, якія былі высунуты ў філёзофскім дакладзе т. Дэборына. Гэтыя задачы вызначыліся існуючым становішчам рэчаў у навуцы, асабліва ў галіне прыродазнаўства. Якое гэта становішча? Прыродазнаўства набыло вялізарны тэмп разьвіцьця на працягу XVIII і XIX ст. У працягу гэтага часу выпрацавалася асобная сыстэма разуменьняў і азначэньняў, якія ў асноўным могуць быць ахарактарызаваны як мэханістычныя і фармальна-лёгічныя. Такія разуменьні масы, бязупыннасьці і цэлы шэраг іншых. Галоўнай рысай іх зьяўляецца аднабаковасьць, нязьменнасьць, абсалютнасьць. Калі-ж далейшае разьвіцьцё прыродазнаўства ў пачатку XX ст. даставіла вопытны матар'ял, які не ўкладаўся ў старыя фармальна-лёгічныя катэгорыі, калі побач з бязупыннасьцю прырода вызначыла перапыннасьць працэсаў, калі побач з устойлівасьцю масы *пры пэўных умовах* вызначылася яе, так сказаць, зьменнасьць—прыродазнаўцы апынуліся бездапаможнымі з сваімі старымі фармальна-лёгічнымі разуменьнямі перад тварам новых фактаў і матар'ялаў. Гэтае становішча атрымала сваё выяўленьне ў форме крызысу сучаснага тэорэтычнага прыродазнаўства. Буржуазная філёзофія выкарыстоўвае гэты перелом у сваіх інтарэсах, імкнучыся адрадзіць і даць новае „эмпірычнае“, „прыродазнаўча-навуковае“ абгрунтаваньне ўсялякага рода містыцы, папоўшчыне і г. д. У свой час тав. Ленін даў бліскучы аналіз гэтага крызысу, яго, так сказаць, партыйна-філёзофскага выкарыстоўваньня, і паказаў адзіны магчымы выхад для вырашэньня крызысу. Думкі Леніна ляглі ў аснову тэй

установкі, якую прыняла Марксыцка-Ленінская канфэрэнцыя. Як кажацца ў рэзалюцыі,—сапраўднае вырашэньне асноўных мэтодолёгічных перашкод прыродазнаўцы могуць дасягнуць толькі прыстасоўваючы мэтад матарыялістычнай дыялектыкі. „Сучаснае прыродазнаўства ляжыць у радох. Яно нараджае дыялектычны матэрыялізм“ (Ленін).

Канфэрэнцыя аднатоўвае, што вырашэньне задачы распрацоўкі тэорыі матарыялістычнай дыялектыкі і мэтадалёгіі сучаснага прыродазнаўства магчыма толькі на грунце самай шчыльнай сувязі паміж работай марксыстаў у галіне філёзофіі і прыродазнаўства.

І вось гэта канкрэтная сувязь і канкрэтнае вырашэньне задачы зьявілася асноўным пунктам дакладу тав. Шмідта. На канкрэтным прыкладзе барацьбы навокала фрэйдызму, тав. Шмідт паказаў, якім чынам дыялектыкам-матарыялістам удалося даць адпор фрэйдызму, як агульнаму сацыялёга-псыхолёгічнаму вучэньню, якое прэтэндуе на сваё асобнае тлумачэньне цэлага шэрагу грамадзкіх зьяў у супроцьлегласьць гістарычнаму матарыялізму і разам з тым захаваць асобныя экспэрымэнтальныя вынікі (рэзультаты), дадзеныя фрэйдызмам. Асаблівую цікавасьць уяўлялі спрэчкі па дакладу тав. Шмідта, паколькі яны адбілі барацьбу дыялектыкаў і мэханістаў у галіне біолёгіі, барацьбу між дарвінізмам і лямаркізмам. І тут мы бачым надзвычайна своеасаблівыя суадносіны. Лямаркісты апіраюцца на Энгельса, дарвіністы выступаюць супроць Энгельса. Але гэтыя суадносіны толькі здаюцца. Калі Энгельс напісаў сваю работу „Роля працы ў працэсе ачалавечаньня малпы“,—ён, бязумоўна, стаяў цалкам на ўзроўні сучаснай яму навукі, у прыватнасьці біолёгіі. Але за гэты час біолёгія надзвычайна моцна сунулася наперад, вырасьлі цэлыя новыя галіны; адной з важнейшых з якіх зьяўляецца генэтыка, вывучэньне аб фактарах спадчыннасьці. Гэтае вучэньне паказала, што справа з спадчыннасьцю азнак абстаіць ня так проста, як сабе ўяўлялі раней. Ці можа прыхільнік дыялектычнага матарыялізму ігнараваць зусім азначаныя дакладна (точна) навукай устаноўленыя вопытныя дадзеныя? Зразумела, не. Ня трымацца-ж упарта за некаторыя асобныя погляды Энгельса, якія былі *яго* поглядамі, паколькі яны выплывалі з тагочаснага ўзроўню ведаў. Гэта азначала-б выкарыстоўваньне аўтарытэту Энгельса ў мэтах руху навукі назад. Гэта азначала-б разброеньне дыялектычнага матарыялізму перад тварам, якая хутка разьвінаецца, абагачаецца вялізарным экспэрымэнтальным і тэорэтычным матар'ялам, навукі. Між тым, як раз гэтай справай заняліся лямаркісты, якія прынялі на сябе некаторым чынам ролю мэханістаў у біолёгіі. Гаворачы ўвесь час аб уплыве асяродку, наогул, на арганізм, наогул, ігнаруючы сучасныя навуковыя дадзеныя аб выключнай ролі генаў у справе фармаваньня арганізму і аб іх адноснай устойлівасьці супроць непасрэднага ўплыву асяродку, мэханісты-лямаркісты і зводзілі ўсю справу да вульгарна спрошчанага матарыялізму ў яго цяпер бясхітрай фармулёўцы аб уплыве асяродку на арганізм.

Гэта становішча рэчаў, характэрнае ня толькі для біолёгіі, але і для цэлага шэрагу іншых навук, пралівае яснае сьвятло на той пункт рэзалюцыі, які кажа: „важнейшымі задачамі, якія стаяць перад філёзофіяй марксызму-ленінізму зьяўляецца далейшая распрацоўка тэорыі дыялектыкі і *паглыбленае* (курсыў наш—*Р. В.*) правядзеньне мэтадаў дыялектычнага матарыялізму, як у галіне грамадзкіх навук (у галіне гістарычнага матарыялізму, эканомікі, гісторыі, права, літаратуразнаўства і г. д.), так і ў галіне прыродазнаўства“.

Падводзячы вынікі 2-й Марксыцка-Ленінскай канфэрэнцыі мы можам сказаць: дыктатура марксызму і ленінізму ў нас нязрушна. Рэзалюцыя

аб сучасных праблемах філёзофіі і марксызму-ленінізму стала афіцыйнай пляцформай Камуністычнай Акадэміі і ўсіх кіруемых ёю ўстаноў, у нас вырас значны кадр ваяўнічых матарыялістаў-дыялектыкаў, галоўная рэвізіяніcцкая плынь—мэханістычны напрамак падпаў у ідэёвы крах, вычэрпаўшы ўсю сваю навуковую і філёзофскую аргумэнтацыю і губляючы пагэтаму ўплыў сярод беспартыйных прыродазнаўцаў. Пляцформа, якая выпрацавана 2-й Канфэрэнцыяй зьявіцца падвалінай (базісам) для далейшага яднаньня ў маштабе Саюза і ў сусьветным маштабе, сапраўдных прыхільнікаў і сапраўдных барацьбітоў за дыялектычны матарыялізм. Наперадзе яшчэ многа работы: аўгіевы канюшні папоўшчыны, цемрашалу, містыкі, ідэялізму, рэвізыянізму, рэлігійных забабонаў, якія маюць яшчэ вялікае пашырэньне сярод шырокіх мас. У рашучай і бязьлітаснай барацьбе з імі мы зможам дасягнуць перамогі, захоўваючы ў спраўнасьці і вастрэй адтачваючы нашу магутную зброю—філёзофію марксызму-ленінізму—дыялектычны матарыялізм.

---

Ал. Некрашэвіч.

# Чарговыя задачы прапаганды.

„Марксизм не догма, а руководство к действию“ так вызначана сутнасьць усяе нашае прапагандысцкае і агітацыйнае работы. Зьмяняюцца ўмовы, павінен мяняцца зьмест і яшчэ часьцей формы агітпроправоты партыі. І па сутнасьці ўсе нашыя хібы ў гэтай галіне работы ў асноўным тлумачацца няўмецтвам сваечасова рэагаваць, перастроіць работу паводле вымаганьняў новых умоў, што часта пазьней выклікае ўсялякія размовы аб крызісе агітацыі і прапаганды, гэтых магутнейшых сродкаў уплыву і выхаваньня мас. Няўлічваньне перамен, якія адбываюцца ў нашым становішчы прыводзіць і да прымяненьня ўжо адмершых закасьцянеўшых форм работы. Уся сутнасьць прапаганды як раз у тым, каб умець сваечасова падхапіць і распрацаваць асноўныя задачы партыі на даным этапе будаўніцтва і ўся сутнасьць агітацыі ў тым, каб умець навакол гэтых задач мабілізаваць шырокія працоўныя масы, павесьці іх да вырашэньня гэтых задач, дамагчыся ад усяго гэтага канкрэтных вынікаў.

Наш пэрыяд будаўніцтва характарызуецца ў асноўным: а) складанасьцю міжнароднага становішча, замыканьнем па-за СССР усіх варожых нам сіл, скарачэньнем „пэрыяду перадышкі“ з ростам кожны год непасрэднай ваеннай небясьпекі; б) надзвычайна вялікімі труднасьцямі ў зьвязку з вырашэньнем актуальнейшай праблемы будаўніцтва сацыялізму,—гэта ня толькі дагнаць, але і перагнаць перадавыя капіталістычныя краі — адсюль задача мобілізацыі ўсіх сіл і сродкаў для інтэнсыўнай індустрыялізацыі краю, рэканструкцыі сельскай гаспадаркі ў напрамку яе калектывізацыі з рашучым выкарчоўваньнем рэштак капіталізму як ў горадзе, так і ў вёсцы; в) цяжкасьці міжнароднага і асабліва гаспадарчага становішча ў СССР, наліччa прыватна-капіталістычных элементаў і дробна-буржуазных колаў пры загостранай клясавай барацьбе ня могуць ня ўплываць і на нашую партыю. Адсюль усялякія хістаньні, някер'е ў сілы рабочай клясы і ў магчымасьць перамагчы цяжкасьці данага этапу гаспадарчага будаўніцтва находзяць сваё выяўленьне ў правым ухіле. Разьбітая трацкісцкая апазыцыя дайшла да лёгічнага канца, стаўшы контр-рэвалюцыйнай арганізацыяй; спэкулючы на цяжкасьцях сёньняшнага дня чарапкі гэтай арганізацыі таксама імкнуцца да ажыўленьня свае дзейнасьці, да таго, каб дамагчыся нейкага ўплыву на партыю.

Вось гэтымі абставінамі ў асноўным характарызуецца пераживаемы намі момант, гэтымі-ж абставінамі павінен вызначацца і зьмест прапаганды на бліжэйшы пэрыяд.

## I

Рашучае змаганьне з правым ухілам у партыі павінна заняць адно з першых мейсц у прапагандысцкай рабоце. Канкрэтнае вывучэньне рачаістасьці, улічваньне магчымасьцяй будаўніцтва сацыялізму, сапраўдная

ацэнка ролі прыватнакапіталістычных элементаў і неабходнасьць рашучага змаганьня з ім, павінны прасякнуць сабою ўвесь зьмест прапаганды. Гэтае вывучэньне сутнасьці правага ўхілу павінна разглядацца як працяг агульнага змаганьня нашай партыі з апартунізмам, якім змаганьнем запоўнена амаль уся гісторыя бальшавіцкай партыі, на чале з Леніным—тым магутным змагаром за ідэйную чыстату партыі і яе вытрыманасьць. Гэты ўхіл павінен разглядацца як здача пазыцый у момант абгостранага клясавага змаганьня пры ўпартым і пераможным маршы да сацыялізму. Было-б вялікай памылкай, каб у прапагандысцкай рабоце змаганьне з праявамі правага ўхілу разглядалася абстрактна. Падводзячы тэарытычныя падставы пад гэтыя праявы, разам з тым усю работу патрэбна будаваць на канкрэтных праявах гэтага ўхілу ва ўсёй партыі ў кожнай яе ячэйцы паасобку. Толькі такое вывучаньне будзе ня догмай, „а руководством к действию“.

Разам з гэтым нельга ні на хвіліну забываць аб контр-рэвалюцыйным трацкізму. Праявы яго могуць узьнікаць пры ўсялякай новай цяжкасьці, якая можа сустрэць нашу партыю на яе шляху. І было-б памылкай лічыць, што трацкізм ня будзе яшчэ рабіць спроб наступленьня на партыю. Пакуль будзе існаваць клясавая барацьба ён можа ўзьнікаць, імкнучыся павярнуць партыю з адзіна правільнага ленінскага шляху. А таму, пры рашучым змаганьні з правым ухілам, што зьяўляецца аднэй з актуальнейшых задач, трэба ні на хвіліну не паслабляць барацьбы і супроць трацкізму, прасякнуўшы змаганьне з ім таксама, як і з правым ухілам увесь зьмест нашай прапагандысцкай работы, дапасаваўшы яе да гэтай задачы. Тут вялікую ролю павінна адыграць дасканалае вывучэньне пастаноў XVI партканфэрэнцыі.

Год ад году падвышаецца тэарытычны ўзровень партыйнае масы. Аб гэтым сьведчыць пераход большасьці партыйнае арганізацыі да вышэйшых форм партвучобы. Вячэрняя партыйная школа з дэфэрэнцыраванай прадметнай праграмай заняла мейсца ня толькі ў буйных партыйных арганізацыях, але на сёньняшні дзень маецца амаль у кожным вясковым раёне. Перасоўнымі школамі на працягу апошніх год абслужана амаль уся вясковая арганізацыя. Падпіска на творы Леніна і Маркса—Энгельса дасягнула вялікіх лічбаў. Усе гэтыя факты сьведчаць, што мы падышлі да моманту, калі простае тлумачэньне марксызму-ленінізму не задавальняе партыйныя масы—партыец жадае вывучаць Маркса—Леніна па Марксу—Леніну. А побач з гэтым мы яшчэ маем вельмі багата фактаў спрашчэнцкага падходу да вывучаньня марксызму-ленінізму, а часта, што яшчэ горш, проста вульгарызацыя гэтага адзіна-пралетарскага вучэньня і, нарэшце, проста скажэньне асноўных прынцыпаў яго. А таму задачамі сёняшняга дню трэба паставіць рашучае змаганьне за падвышэньне ідэёвага зьместу нашай палітвучобы, рашучае змаганьне з спрашчэнцтвам і вульгарызацыяй і пераход да вывучэньня Маркса—Леніна па творах іх саміх, пашырэньне і паглыбленьне зьместу ўсяе палітвучобы.

Генэральная лінія нашай партыі пабудовы сацыялізму ідзе праз індустрыялізацыю краю. У гэтай працы мы падышлі да найболей цяжкага і складанага пэрыяду—пэрыяду рэканструкцыі. Гаспадарчыя пытаньні становяцца ў асяродку нашай работы і вымагаюць выразнай арыентацыі кожнага партыйца ў асноўных гаспадарчых праблемах і ў прыватнасьці арыентацыі ў тым комплексе цяжкасьцяй, якія суправоджваюць нашае будаўніцтва. Пытаньні пяцігадовага пляну, пытаньні рэканструкцыі і інтэнсіфікацыі сельскай гаспадаркі, калектывізацыі яе, праблемы энэргетыкі, вывучаньне вытворчых сіл краю, рацыяналізацыя нашай прамысловасьці на падставе апошніх дасягненьняў навукі

і тэхнікі, праблемы кваліфікаванай рабочай сілы і рацыянальнага яе выкарыстаньня, змаганьне за культуру працы,—вось той комплекс пытаньняў, якія патрэбна паставіць і вырашыць у нашай прапагандысцкай рабоце, адвёўшы ўсім гэтым праблемам тое мейсца, якое яны павінны займаць і якога не займалі да гэтага часу. Трэба павесьці рашучае змаганьне з той, часта проста, няпісьменнасьцю ў гаспадарчых пытаньнях, якое мела мейсца да гэтага часу.

У прыватнасьці нам патрэбна дамагчыся належнай падрыхтоўкі і ўмельства разьбірацца ў гаспадарчых праблемах нашых гаспадарчых кадраў. Гэтая падрыхтоўка павінна быць цесна ўвязанай з вывучэньнем гэтымі кадрамі спэцыфічных асаблівасьцяў свайго прадпрыемства і яго арганізацыі. Тут патрэбна шырока выкарыстаць завочнае прахаджэньне пэўных курсаў, якія арганізуе ў гэтым годзе Прамысловая Акадэмія з тым, каб час-ад-часу мы змаглі забіраць тых, хто будзе займацца на канфэрэнцыі з запрашэньнем іх сталымі консультантамі.

А побач з гэтым актуальнейшае значэньне набывае прапаганда тэхнічных ведаў, як сярод партыі, так і сярод беспартыйных. Трэба павесьці рашучае змаганьне з тэхнічнай няпісьменнасьцю, якая цяжкім грузам вісіць на нашай рацыяналізатарскай працы, якая не дае магчымасьці павесьці сапраўднае змаганьне за культуру працы, зьвязвае рукі нашаму вынаходцтву. Гурток па вывучэньню тэхнікі павінен стаць такім самым штодзенным здарэньнем, як палітгурток, альбо яшчэ лепш, гурток альбо школа ліквідацыі няпісьменнасьці.

Трэба канкрэтна паставіць пытаньне аб арганізацыі ў нас таварыства „Тэхніка масам“ з прыцягненьнем да работы ў ім у першую чаргу партыйцаў, а затым і шырокіх колаў беспартыйных. Трэба, як сьлед узяцца за набліжэньне да мас тэхнічнай папулярнай літаратуры, а наколькі нацыянальны склад рабочых у нас вельмі разнастойны, паклапаціцца аб выданьні гэтай літаратуры на родных мовах.

Гэтая работа з лішкам акупіцца ў бліжэйшы час, хаця-б тым, што мы навучымся як сьлед карыстацца новай машынай, меней будзем яе псаваць, як гэта бывае часта цяпер.

Пераход да вышэйшых форм партвучобы, паглыбленьне зьместу яе, пашырэньне тэхнічнай асьветы, ня можа не паставіць перад намі пытаньня аб неабходнасьці падвышэньня агульна-адукацыйнага ўзроўню партыйнае масы. Амаль немагчыма будзе вывучаньне асноўных пытаньняў марксізму-ленінізму, асноўных гаспадарчых праблем без больш дасканалага азнаямленьня з мовай, матэматыкаю, прыродазнаўствам і біялёгіяй, без якіх, асабліва апошніх, нельга вывучаць дыялектыкі. Гэты, як кажуць, прабел адчувае ўся партыйная маса, а таму і такое імкненьне да агульна-асьветных дысцыплін ва ўсёй сетцы партасьветы, якое мы мелі ў мінулым годзе. Праўда, першыя спробы арганізацыі вывучэньня агульна-асьветных дысцыплін (беларуская мова і матэматыка) мы мелі ў некаторых школах, аднак, гэта, па-першае, ня мела месца ва ўсіх акругах, а па-другое, часта насіла выпадковы характар, ня ўвязаны з агульнымі задачамі партасьветы.

Гэтыя надзвычайна складаныя задачы ў галіне прапаганды вымагаюць ад нас вельмі сур'ёзна паставіць задачу падрыхтоўкі і перападрыхтоўкі кадраў прапагандыстаў.

Як адмоўны бок сёнешняга становішча трэба адзначыць надзвычайна малы процант прапагандыстаў рабочых і нявысокі партыйны стаж прапагандыстаў, акром таго, што мы амаль не займаемся сыстэматычнай дапамогай нашаму прапагандыстаму. Тут патрэбна паставіць такія задачы. Першае, гэта прыцягненьне да прапагандысцкай работы старых партыйных кадраў, якія маюць вялікі вопыт змаганьня і могуць

канкрэтызаваць асобныя моманты ў гісторыі партыі сваім непасрэдным вопытам. Да гэтага часу тут зроблена яшчэ вельмі і вельмі мала. Падругое, патрэбна рашуча паставіць задачу вылучэньня і падрыхтоўкі пропагандыстаў, занятых непасрэдна ў вытворчасьці. Ужо цяпер патрэбна ва ўсёй сыстэме партасьветы выяўляць найбольш здольныя і падрыхтаваныя адзінкі, якія маюць прыхільнасьць да прапагандысцкай работы з тым, каб зараз-жа пасьля сканчэньня навучальнага году мы маглі належным чынам укамплектаваць арганізаваныя, як у горадзе, так і ў акругах курсы па падрыхтоўцы і перападрыхтоўцы прапагандыстаў. Гэты папярэдні падбор павінен забясьпечыць больш поўнае выкарыстаньне перападрыхтаваных, чаго мы ня мелі да гэтага часу, калі толькі нязначная частка пасланых на курсы выкарыстоўвалася на прапагандысцкай рабоце. Пры пасылцы на курсы, а пазьней і пры выкарыстаньні на прапагандысцкай рабоце патрэбна дамагчыся ўтварэньня належных умоў для прапагандыста (аслабаненьне ад усякай іншай нагрузкі, дапамога ў падборы літаратуры, нарэшце, аслабаненьне на нейкі час ад працы на прадпрыемстве), інакш нельга вырашыць першай актуальнейшай задачы—гэта падняцьця тэарэтычнага ўзроўню прапагандыста. Калі ня лічыць зусім слабых і выпадковых спроб арганізацыі кіраўніцтва прапагандыстамі, што было да гэтага часу, дык становішча прапагандыста сьмела можна назваць бяспрытульным. А таму рашуча трэба дамагчыся штодзённага кіраўніцтва прапагандыстам як з боку зьместу яго работы, так і мэтодыкі. Формай такога кіраўніцтва трэба ўсё-ж прызнаць агітпропкаляктыў. Акром гэтага патрэбна як сьлед выкарыстаць тыя кадры прапагандыстаў, якія нам штогодна дае камвуз, савпартшкола і інш. Да гэтага часу гэтыя кадры амаль не выкарыстоўваліся. І калі ўмела выкарыстаць гэтыя кадры, дык у значным стопню аслабіцца той голад на прапагандыста, аб якім так голасна крычаць амаль ва ўсіх арганізацыях. Інакш падвышэньня ідэйнага зьместу нашай работы мы не дамагомся.

Пераход да вышэйшых стопняў партвучобы, рознастайнасьць яе зьместу вымагаюць і належных форм. У гэтай сувязі зусім зразумелай была пастанова ЦК УсеКП(б) аб палітвучобе ў партыі і камсамоле, якая прадугледжвала максымальную дабраахвотнасьць у выбары гэтай вучобы. Але ўся бяда ў тым, што на мясцох ня зусім як сьлед растлумачылі гэтую пастанову. Адны разглядалі яе як права кожнага партыйца *зусім ня вучыцца*, а тая зьбянтэжанасьць, якую выклікала яна ў некаторых агітпропработнікаў, давяла да таго, што ўся справа палітвучобы была пушчана „без руля і ветрыл“ і давяла да таго, што нават у гэтым годзе ў некаторых акругах (напр. Віцебская) кандыдацкі склад ня быў ахоплены палітвучобай нават на $^1/_3$. Другія-ж наадварот, пасвойму разумелі пастанову і прыстасавалі формулу „добраволъна-прымусовая“ сыстэма. Як у першым, так і другім выпадку вынікам былі размовы аб крызісе палітвучобы. Нарэшце, месцамі, выпрацавалі „стандартныя“ формы, абмежавалі іх пэўнай колькасьцю і зрабілі запіс у іх. Вынік быў той самы, што і ў першых двух варыянтах. Тут патрэбна пытаньне паставіць зусім выразна. Перад партыяй стаяць вельмі складаныя задачы і без падняцьця тэарытычнага ўзроўню ўсіх партыйцаў гэтыя задачы з кожным годам будзе вырашаць усё цяжэй і цяжэй, а таму падняцьце тэарытычнага ўзроўню зьяўляецца для кожнага партыйца задачай *абавязковай і толькі выбар форм вучобы застаецца вольным.* Пару слоў пра формы. Тут найвялікшай хібай зьяўляецца тое, што мы дасюль яшчэ ня ўмеем, як кажуць, перастрайвацца на хаду і прыстасоўваць формы прапаганды да ўмоў, якія мяняюцца, і да чарговых задач партыі. К прыкладу, калі ўся партыя

горача абгаварвае сутнасьць правага ўхілу, у нашых палітшколах у „плянавым“ парадку апрацоўваюць вельмі далёкую ад усяго таго праблему, адсюль нездавальненьне слухачоў, адсюль той проста жудасны адсеў, які мае месца ў сетцы палітвучобы. Арганізаваныя і ўкамплектаваныя з восені палітшколы і гурткі застаюцца нязьменнымі на працягу ўсяго навучальнага году, у той час, калі высьвятляецца, што ўстаноўленымі формамі мы ня можам абслужыць пэўнае часткі партыйцаў, ня можам абслужыць уноў уступіўшых у партыю. Вось чаму на наступны год ставіцца задача камплектаваньня ўсяе сеткі партасьветы на працягу ўсяго году.

Канкрэтнымі формамі, якія сябе цалкам пры ўмелым выкарыстаньні, апраўдалі, трэба прызнаць: адзіную партшколу, абавязковую для праходжэньня ўсімі кандыдатамі партыі і камплектуемую паралельна з папаўненьнем новаўступіўшымі; вячэрнюю савпартшколу з дыфэрэнцыраванай праграмай, камплектаваную па жаданьню вучняў, але пры ўмове, што яны падрыхтаваны да таго, каб займацца ў СПШ; гурток бягучай палітыкі па актуальных пытаньнях сёнешняга дню, укамплектаваны дабраахвотна; прадметны гурток па асобных дысцыплінах (палітэканомія, гісторыя УсеКП(б) і інш.); гурток па вывучэньню асобных проблем (пяцігодка, праблемы калектывізацыі с.-г. і г. д.) і, нарэшце, эпізодычныя лекцыі для партактыву, як гэта пачалі рабіць ужо сёлета ў некаторых акругах (Гомель, Віцебск). Гэтыя формы можна прызнаць асноўнымі, але нельга абмяжоўвацца толькі імі, а ў кожным канкрэтным выпадку прыстасоўвацца да ўмоў і запатрабаваньняў часу. Актуальным пытаньнем зьяўляецца прыстасаваньне сеткі партасьветы да ўмоў працы, бытавых умоў абслугоўваемых. Нельга прызнаць добрай сыстэму ўтварэньня вялікіх (3, 5 і больш груп), школ, якія павінны абслугоўваць некалькі прадпрыемстваў, хаця гэта і дае некаторую эканомію сіл і сродкаў. Лепш арганізоўваць на самым прадпрыемстве, прыстасаваўшы час заняткаў у іх да ўмоў працы самога прадпрыемства, зьмен, цэхаў і інш.

Асобна патрэбна вылучыць пытаньне з вучобай партактыву. Гэта самы слабы вучастак прапагандысцкай работы і ўсе спробы тут у большасьці канчаліся няўдачай з прычыны перагрузкі з аднаго боку, а з другога—умовамі працы (камандыроўкі, выезды і інш.). Гэтай задачы амаль нельга разьвязаць, калі не падыйсьці да кожнага таварыша паасобку, прыстасоўваючы яго вучобу да ўмоў яго працы і час-ад-часу аслабаняючы ад усяе працы з тым, каб даць магчымасьць папоўніць яму свае тэарэтычныя веды, не баючыся траты часу, бо яна пазьней з лішкам акупіцца.

Пры ўзросшым тэарэтычным узроўні партыйцаў, пры набыцьці імі ужо за мінулы час навыкаў самастойнай работы, адно з самых відных месц у палітвучобе павінна заняць самаадукацыя. На наладжваньне яе, на дапамогу ў пастаноўцы яе, на арганізацыю кансультацыі патрэбна будзе дамагчыся рашучага пералому. Завочны камвуз, курсы партактыву павінны заняць больш віднае месца ва ўсёй сыстэме партыйнае асьветы з тым, каб завочнікаў пэрыядычна час-ад-часу можна было склікаць на канфэрэнцыі (у акругах і пры КУБ), дзе падагульвалася-б самастойная работа, распрацоўваліся мэтады заняткаў і выпраўляліся ўсе хібы. Агітпропам АК і Райкомам патрэбна ўзяць кіраўніцтва ёю ў свае рукі, бо, як правіла, тут часта нават ня ведаюць, хто і дзе займаецца. Патрэбна выявіць усіх, хто выпісвае „Заочный комуниверситет“, арганізаваць дапамогу ім, а дзе можна сабраць у групу для супольнай апрацоўкі матар'ялаў.

Як асобнымі, вельмі важнымі, але амаль забытымі задачамі ў прапагандысцкай рабоце зьяўляюцца антырэлігійная прапаганда і азнаямленьне і вывучэньне шырокімі коламі партыйцаў (ды й беспартыйных) беларускай культуры.

Акром агульных задач у гэтай галіне трэба вывучыць дзьве асноўных.

Разгортваемая антырэлігійная прапаганда будзе з кожным годам патрабаваць усё большых і большых стала падрыхтаваных прапагандыстаў антырэлігійнікаў. Гэтых кадраў мы амаль ня маем і здараецца так, што амаль на ўсю акругу ёсьць адзін-два чалавекі, якіх можна выкарыстаць на гэтай рабоце. Тлумачыцца яно агульнымі няўважлівымі ва ўсякім разе да апошняга часу адносінамі да антырэлігійнае работы, а з другога боку тым, што самы зьмест апошняе нагэтулькі паглыбіўся, у рэлігійным руху адбыліся такія зьмены, што вымагаюць ужо сталай і сур'ёзнай падрыхтоўкі. Арганізуемыя гэтым летам у Менску ЦС „Бязбожнік" курсы павінны паслужыць пачаткам наладжваньня падрыхтоўкі гэтых кадраў і ў акругах. Без такога мерапрыемства наўрад ці магчыма арганізаваць як сьлед антырэлігійную работу, перанесьці ідэі атэізму ў шырокія працоўныя масы.

Мы перажываем буйны рост беларускае культуры. Партыя паставіла сваёй задачай быць на чале ўсяго культурнага будаўніцтва. „Уся КП(б)Б на чале культурнага будаўніцтва", так сформуліравана адным з пленумаў ЦК КП(б)Б гэтая задача. Рашучае наступленьне на прыватнакапіталістычныя элемэнты, агульнае абвастрэньне клясавага змаганьня не маглі не адбіцца на нашым культурным будаўніцтве. Тут, як і ўсюды, ідзе рашучае клясавае змаганьне. Апошняя тэатральная дыскусія, выступленьне з нелегальным контр-рэвалюцыйным вершам беларускага паэты А. Дудара, яскравыя паказальнікі гэтага. Тым часам, ці ўсе партыйныя масы ведалі аб гэтых здарэньнях, ці ведала нават пра гэта некаторая частка нашага актыву? Сьмела можна сказаць, што на ўсе гэтыя падзеі ня ўсюды была зьвернута належная ўвага. Адсюль баявая задача азнаямленьня шырокіх колаў партыі з беларускай культурай у агуле, і з праявамі ўсялякіх хістаньняў на гэтым фронце ў прыватнасьці. Нельга ўжо абмяжоўвацца вывучэньнем толькі беларускай мовы. Гэтая задача павінна быць ужо задачай учарашняга дню. Задачай на сёньняшні дзень павінна зрабіцца больш глыбокае азнаямленьне з беларускай культурай, з тэндэнцыямі яе росту з тым, каб уся партыя, уся КП(б)Б уплывала на гэты рост, рашуча змагаючыся са шкоднымі тэндэнцыямі гэтага росту. Часьцей патрэбна наладжваць лекцыі па асобных пытаньнях культурнага будаўніцтва і вышэйшых форм яго (літаратура, тэатр, кіно і інш.), рашуча дамагацца, каб за беларускай літаратурай, літаратурай яўрэйскай і інш. у нас сачылі, нашыя часопісі чыталі, чаго яшчэ няма да гэтага часу.

Нарэшце, патрэбна вызначыць яшчэ адну задачу, якая павінна заняць большае месца ў прапагандысцкай рабоце—гэта падрыхтоўка і адбор пасылаемых у розныя вышэйшыя навучальныя ўстановы (Комвузы, Втузы, розныя Інстытуты і інш.). Да гэтага часу адбор і падрыхтоўка ў большасьці ішлі самацёкам і пасьля апублікаваньня правілаў прыёму і атрыманьня разьвёрсткі мы чакалі пакуль хто-небудзь падасьць заяву, адбіралі з падаўшых лепшых і лічылі сваю справу скончанай. І так кожнага году. Такая сыстэма мела сваім вынікам, што ў большасьці адбіраліся выпадковыя кандыдатуры, адабраныя, будучы слаба падрыхтаванымі і не атрымліваючы належнай дапамогі ў падрыхтоўцы, пры паступленьні часта ня мелі мінімуму патрэбных ведаў, а таму і ня прымаліся ў навучальную ўстанову. Такім чынам, часта не выкарыстоўваўся нават той абмяжованы лік мейсц, які вызначаўся

КП(б)Б. Такая сыстэма мае і другі адмоўны бок, бо ніхто з тых, хто жадае ісьці на вучобу, ня ведае, ці дапусьціць яго партарганізацыя, і партарганізацыя ня ведае, калі-ж яна можа замяніць пасланага на вучобу.

У гэтай справе патрэбна большая плянавасьць, кожная арганізацыя павінна мець на вучоце ўсіх, хто жадае ехаць вучыцца і ўсіх, каго трэба паслаць на вучобу, скласьці плян пасылкі жадаючых з тым, каб да пасылкі ўжо можна было вызначыць замену. Побач з гэтым можна пры такім вучоце як сьлед паставіць і справу падрыхтоўкі, тым болей, што кожны з жадаючых загадзя можа заявіць, у якую навучальную ўстанову ён думае паступаць. Але нельга абмяжоўвацца вучотам толькі жадаючых, патрэбна выявіць усіх тых, каму патрэбна вучоба, з тым каб пазьней пасылаць іх вучыцца, арганізаваўшы папярэднюю іх падрыхтоку.

Уся прапагандысцкая работа павінна ў большым стопні быць прыстасавана да абслугоўваньня на нацмовах і ў прыватнасьці мове беларускай, асабліва ў вышэйшых стопнях прапагандысцкай работы.

Калі судзіць па афіцыйных даных, дык у нас справа з беларусізацыяй палітвучобы пастаўлена нібы добра, але гэта пакуль што пастаноўка работы фармальная і ў большасьці праведзеная чыста адміністрацыйным парадкам: зусім ня ўлічваючы ўмоў забясьпечаньня школы падручнікамі толькі на беларускай мове, лічачы, што гэтым вырашана пытаньне беларусізацыі палітшколы. А разам з тым большасьць прапагандыстаў беларускай мовы ня ведае, чытае кніжку на расійскай мове, у лепшым выпадку слухачы вывучаюць матар'ял на беларускай мове, а прапагандысты заняткі праводзяць парасейску, бо, як правіла, беларускай мовы ня ведае. Тут як асноўную задачу патрэбна паставіць *абавязковае вывучэньне прапагандыстамі, у першую чаргу штатнымі, беларускай мовы* і ўвядзеньне ва ўсіх школах абавязковага вывучэньня слухачамі беларускай мовы. Гэтая задача павінна быць вырашана на працягу сёлетняга году, інакш беларусізаваць палітвучобу стала, пасур'ёзнаму мы ня зможам. Яшчэ горш справа з палітвучобай на мовах нацменшасьцяй. На ўкамплектаваньне гэтых школ амаль не зварочвалася ўвагі, а таму ў большасьці школы яўрэйскія, польскія, латыскія, і інш. пры наліччы значных кадраў для гэтых школ недаўкамплектаваліся, бо папярэдняй работы, растлумачэньня па гэтаму пытаньню не праводзілася і агітпропы лічылі яе абавязкам толькі адпаведных нацсэкцый.

---

П. Пасюкевіч.

# Як выконваюцца прапановы рабочых *).

*(З агляду вытворчых Нарад ІВК).*

### Рабочае вынаходніцтва на прадпрыемствах.

Па пытаньню аб вынаходніцтве XII зьезд КП(б)Б у рэзалюцыі па рабоце профсаюзаў пастанавіў: „Зьезд абавязвае ўсе партыйныя гаспадарчыя і прафэсыянальныя органы ўсямерна заахвочваць і аказваць падтрыманьне рабочаму вынаходзтву, мабілізуючы навакол гэтага ўвагу рабочых мас, вядучы рашучую барацьбу з усялякімі праявамі цаганіны і бюракратызму па гэтай галіне“.

Як справа з гэтым пытаньнем?

На абсьледаваных прадпрыёмствах з большага ніякіх органаў, што садзейнічаюць вынаходзтву, і экспэртных камісій няма, выключаючы гомельскія галоўныя майстэрні, дзе арганізавана камісія садзейнічаньня з 6 чал. (3 рабочых, прадстаўнік інжынэрна-тэхнічнай сэкцыі, н-к майстэрняў—старшыня камісіі і шостым запрашаўся ў кожным паасобным выпадку адпаведны спэцыяліст). Раней да гэтага існавала экспэртная камісія, але з арганізацыяй камісіі садзейнічаньня, экспэртную камісію зьліквідавалі. На рэшце прадпрыемстваў, як на гарбарні „Бальшавік“ вынаходзтва рэалізуецца з дапамогаю адміністрацыйна-тэхнічнага пэрсаналу.

Калі фонды вынаходзтва і ёсьць на некаторых прадпрыемствах, дык зусім невялікія: фанерны завод—60 руб., цьвіковы завод „Чырвоны Кастрычнік“—50 р., больш у Гомельскіх галоўных майстэрнях—3081 р. Адпускаюцца гэтыя сродкі трэстамі. У Гомельскіх майстэрнях яны ідуць па дзьвёх установах,—Праўленьне дарогі адпускае на мэты вынаходзтва 1926 руб. і адлічэньне ад эканоміі ў выніку правядзеньня таго ці другога вынаходзтва—1155 р.

Але нават нязначныя фонды з большага не выкарыстоўваюцца (цьвіковы завод „Чырвоны Кастрычнік“, скурзавод „Бальшавік“). Аб няўважлівых адносінах да фондаў сьведчыць такі выпадак, як на фанэрным заводзе (Бабруйск), калі з вынаходзтва рабочага, якое дае на год эканоміі 2500 р. была выдана прэмія ў 200 р., у той час як у фондзе налічвалася ўсяго 60 р.

На тых прадпрыёмствах, дзе фонду няма, а былі вынаходзтвы, выдаваліся прэміі па асобнай пастанове кожнага разу (Акулярная фабрыка—Віцебск—дзьве прэміі ў 15 і 25 р.). Толькі ў Гомельскіх майстэрнях рэалізаваны фонд у суме 1526 р. (50 проц.). Як па выніках вынаходзтва, так і па садзейнічаньню яму трэба зрабіць агульны вывад, што гэтая работа пастаўлена вельмі дрэнна. Думка рабочых на пытаньнях вынаходзтва нідзе ня фіксуецца, ня складзены адпаведныя абставіны для таго, каб яна накіроўвалася на тыя ці іншыя творчыя меркаваньні,

*) Працяг—гл. № 4.

удасканаленьні, вынаходзтвы; гурткоў вынаходзтва няма, конкурсы не праводзіліся.

Пры абсьледваньні сталася магчымым выявіць толькі 25 выпадкаў вынаходзтваў, 16 прыпадае на Гомельскія майстэрні (64 проц.), скурзавод „Бальшавік“ 4 (16 проц.), на рэшту па 1-2 вынаходзтвы. Ня толькі садзейнічаньня ў поўным сэнсе гэтага слова вынаходзтву няма, што відаць ужо з вышэйпаданага матар'ялу, але, дзякуючы дрэннай пастаноўцы работы, часам у асобных выпадках бывае простае ігнараваньне прапаноў па вынаходзтву. З характарыстыкі асобных вынаходзтваў трэба адзначыць прапанову аднаго рабочага (скурзавод) аб мэханізацыі ўнутрызаводзкага транспарту, шляхам выкарыстоўваньня матору старое аўта-машыны для цеплавозу. Па тэхнічным падліку гэта мусіла даць 6000 р. эканоміі. Праэкт быў пададзены яшчэ ў 1927 годзе і толькі ў канцы 1928 г. рабочы, што падаў праэкт, вызвалены ад агульнае працы і пачаў працаваць над ім. Меліся прапановы на гэтым-жа заводзе, якія хоць і не давалі вялікага эканамічнага эфэкту (зьмена спосабу перакаткі сокаў), але рабочыя ніякае прэміі за гэта не атрымалі.

Падобны выпадак маецца на суконнай фабрыцы (Ворша), прадпрыёмстве ў значнай частцы саматужнага характару, калі рабочы прыстасаваў адпаведны калаўрот для размотваньня нітак, што рабілася дасюль рукамі; гэта дало магчымасьць пяцёх рабочых замяніць адным. Вынаходцу не прэміравалі толькі таму, што, скажам, у Туле на тэкстыльных фабрыках гэта даўно ўжо ажыцьцёўлена. Але-ж адміністрацыя гэтага ня ўвяла сама і, такім чынам, абавязана была прэміраваць рабочага вынаходцу.

Маюцца выпадкі і каляктыўнага вынаходзтва (цьвіковая фабрыка). Калі паўстала пагроза зачыненьня цэху па вырабцы тэксаў (спэцыяльна шавецкія цьвікі), дзякуючы таму, што скурсындыкат сыстэматычна бракаваў прадукцыю гэтага цэху з прычыны нядобрае адшліфоўкі, не такое, як у драцяных тэксах нямецкіх фабрык. На запытаньне заводакіраўніцтва да нямецкіх канцэсіянэраў і кансультантаў Зам. Гандлю, апошнія давалі розныя парады (пабудаваць новыя электрычныя печы і г. д.), якія нельга ажыцьцявіць ва ўмовах фабрыкі, а сакрэту шліфоўкі сваіх тэксаў канцэсіянэры не захацелі сказаць. Тады рабочыя ўзяліся ўсім цэхам і зрабілі колькі спроб, пасьля вынайшлі спосаб апрацоўкі прадукцыі да патрабуемага ліміту якасьці праз парафінаваньне з графітам тэксаў у звычайных паліраваных барабанах. Гэты выпадак ня быў выкарыстаны ў належнай ступені для таго, каб адгэтуль накіраваць увагу рабочых на актыўны ўдзел іх у палепшаньні працы свайго прадпрыёмства пры дапамозе вынаходцаў. Наадварот, пасьля гэтага была прапанова рабочага зрабіць варштат для сартыроўкі тэксаў, але адміністрацыя тэхнічна не здалела дапамагчы яму.

Маюцца факты няўважлівых і бюракратычных адносін да паасобных вынаходцаў. Так, на фанэрным заводзе (Бабруйск) была падана ідэя аб удасканаленьні ножніц малога варштату (май 1928 г.), але да гэтага часу адміністрацыя прадпрыемстваў і аддзяленьня Лесбелу не паклапаціліся прыдабыць неабходны да гэтай справы ланцуг (галі).

На панчошнай фабрыцы (Віцебск) у 1927 г. было вынаходзтва рабочага вязальнага цэху, які прапанаваў вытворчай нарадзе абгаварыць праэкт прыстасаваньня мэханічных ножніц да вязальных машын. Нарада прапанавала зрабіць мадэль і пасьля таго, як яна была зроблена, ніхто не падумаў добрая ці дрэнная яна, і валяецца да гэтага часу ў кладовай.

Такія адносіны, нават вытворчай камісіі ня могуць штурхаць думку рабочага на шлях вынаходзтва. Вось затым-жа на гэтай фабрыцы ніякіх больш праэктаў вынаходзтваў і ня было.

Лепшае становішча мы маем у Гомельскіх майстэрнях, як паказвалася вышэй. З 16 вынаходзтваў выканана да гэтага часу 13, якія даюць эканомію ў суме 2034 р. 46 к. Устаноўлена пэўная шкала прэміі, распаўсюджваюцца па прадпрыёмствах адпаведныя плякаты-тэмы па вынаходзтву. Праўленьнем дарогі абвешчаны конкурс з устанаўленьнем пэўнай прэміі па ўдасканаленьню будкі машыніста на цягніку, прылады для абрэзкі дзеравяных паль пад вадою і г. д.

Вядома і на гэтым прадпрыёмстве маюцца недахопы, што перашкаджаюць справе. Зацяжка некаторых вынаходзтваў, як, напрыклад, прапанова аб вадкіх матар'ялах з 15 лістапада 28 г. ляжала па 20 студзеня 29 г.; няма спэцыяльнай майстэрні (кутка вынаходніцтва для падрыхтоўкі мадэляў і г. д.), няма належнае сувязі з вытворчаю нарадаю.

Такія-ж прадпрыёмствы, як панчошная фабрыка і шчотачная (Віцебск), цукерня (Гомель) ані нічога не зрабілі па гэтаму пытаньню.

## Дзейнасьць часовых кантрольных камісій.

З абсьледаваных 4-х прадпрыёмстваў толькі на 4-х былі арганізаваны ЧКК—скурзавод „Бальшавік“, галоўныя Гомельскія майстэрні, панчошная фабрыка і цьвікавы завод, пры чым на апошніх двух яны не працавалі.

Адсутнічаньне на другіх прадпрыемствах ЧКК тлумачыцца выключна тым, што па ліку рабочых гэта не вялікія прадпрыёмствы.

На скурзаводзе „Бальшавік“ часовая КК была вылучана з 7 чал. для прапрацоўкі і абсьледваньня рацыянальнага выкарыстоўваньня рабочае сілы па паасобных цэхах. Прыступаючы да абсьледваньня, усе члены ЧКК першапачаткова знаёміліся з станам цэху, шляхам шырокага абмену думкамі з рабочымі. Матар'ялы падрыхтоўваліся паасобнымі членамі ЧКК па даручэньню апошняй. Да работы прыцягваліся ня толькі рабочыя, але і майстры цэхаў. На пасяджэньнях бралі ўдзел і прадстаўнікі ад заводакіраўніцтва. Работа ЧКК сыстэматычна асьвятлялася ў заводзкай газэце „Рабочае вока“. Усяго пасяджэньняў ЧКК было 10, на якіх прапрацована 80 пытаньняў. З прынятых ЧКК прапаноў праведзена ў жыцьцё 80 проц. Вызначаны ЧКК плян работы выкананы поўнасьцю.

Работа ЧКК пачата ў маі, скончана ў чэрвені. Удзел тэхнічнага пэрсаналу ў рабоце выразіўся ў прапрацоўцы ўсіх пытаньняў, якія абгаварваліся на ЧКК.

Пытаньні, абгаворваныя ЧКК сумесна з ВН, перадаваліся заводакіраўніцтву, ня толькі як пералік дэфэктаў, але і прапановы як іх зьнішчыць.

Справаздача ЧКК была пастаўлена ў кожным цэху. Таксама ЧКК адлічвалася на пасяджэньні фабзаўкому і на Прэзыдыуме ЦП саюзу скурнікаў. Усе прапановы ЧКК былі ўхвалены.

Пасьля роспуску першай ЧКК праз некаторы час была з'арганізавана другая па пытаньню аб складзе скурсырцу.

Па Галоўных Гомельскіх майстэрнях работа ЧКК за 1928 г. выразілася ў прапрацоўцы трох тэм: а) аб прахаджэньні заказаў, 2) прастоі і якасьць капітальнага рамонту цягнікоў і 3) праверка выкананьня прапаноў ВН за 1927 і 1928 г.г. і выяўленьне рэальных вынікаў ад праведзеных прапаноў.

Па ЧКК, прапрацаваўшай тэму прахаджэньня заказаў, вынесена і прынята адміністрацыяй 73 прапановы, якія тычацца ўдасканаленьня работы бюро заказаў, цэнтральнай кладовай, прахаджэньня апрацаваных рэчаў праз падсобныя цэхі. Да гэтага часу адміністрацыя выканала 63 прапановы.

Па ЧКК, што прапрацоўвала пытаньне якасьці рамонту цягнікоў і прастоі было прынята адміністрацыяй 66 прапаноў.

З арганізаваньнем ЧКК значна ўзрос удзел у рабоце па гэтых пытаньнях адміністрацыйна-тэхнічнага пэрсаналу. Актыўнасьць на ВН па пытаньнях, прапрацованых ЧКК як цэхавай, так і агульна-заводзкай, таксама павысілася.

Падпарадкаванасьць ЧКК ВН маецца поўная. Усе вызначаныя мерапрыемства і вывады выносяцца на абгаварваньне ВН. Выступленьняў адміністрацыі, якія ставіліся-б супроць ЧКК, таксама не назіралася.

Сувязь ЧКК з рабочай масай замацоўвалася як шляхам вынясеньня пытаньняў на ВН, справаздач на вытворчых канфэрэнцыях, так і мэтадам асноўным у рабоце ЧКК—выяўленьне недахопаў у працы па вытворчасьці праз гутаркі з паасобнымі рабочымі. Аўтарытэт ЧКК ў рабочых дастатковы.

Узаемаадносіны ЧКК з ФЗМК здавальняючыя. Выражаюцца яны ў тым, што акром удзелу ФЗМК у прапрацоўцы пляну работы ЧКК, абгаварваліся кандыдатуры ў склад ЧКК, падрыхтоўваліся вытворчыя канфэрэнцыі для заслухоўваньня справаздач ЧКК і г. д. Фабзавком заслухоўваў даклады ЧКК аб ходзе працы, накіроўваў работу, сачыў за выкананьнем прапаноў ЧКК. Ад Вучпрафсожу ўвага ЧКК была таксама дастатковая, вылучаны былі работнікі для кіраваньня часовымі КК.

Гэты невялікі вопыт паказвае, што ЧКК ёсьць такая арганізацыя, якая зусім апраўдала сябе. Трэба вопыт арганізацыі ЧКК на прадпрыёмствах больш пашырыць, захапіць большы лік прадпрыёмстваў. Аб гэтым зазначыў і XII зьезд КП(б)Б у рэзалюцыі пра работу прафсаюзаў: „Уважлівае вывучэньне практыкі і далейшае разьвіцьцё работы часовых кантрольных камісій“.

### Кіраваньне партыйных і прафэсыянальных ячэек работай ВН.

Большасьць парт'ячэек на абсьледваных прадпрыёмствах за слаба кіравалі эканомработай. Ёсьць прадпрыёмствы, дзе ячэйкі на працягу 11 месяцаў усяго адзін раз слухалі даклады фракцый завкомаў аб вытворчай працы (фанэрны зав.—Бабруйск, цукерня—Гомель). На 2-х прадпрыёмствах у Воршы парт'ячэйкі заслухалі толькі па аднаму разу агульныя даклады завкомаў і па іх далі агульныя дырэктывы аб прафэсыянальнай рабоце, у тым ліку і аб рабоце вытворчых нарад, ня вылучыўшы спэцыяльныя даклады аб рабоце ВК і ВН, каб на гэтым сканцэнтраваць увагу. Тым часам у рабоце ВН ёсьць цэлы шэраг пытаньняў, на якіх парт'ячэйкам ня шкодзіла-б застанавіцца (зьніжэньне сабекошту, падвышэньне якасьці прадукцыі, вынаходніцтва). Праўда, ёсьць ячэйкі, якія ў гэтым напрамку вялі пэўную работу. Парт'ячэйка галоўных Гомельскіх майстэрань на працягу пэрыяду абсьледваньня заслухоўвала 5 разоў даклады вытворчай камісіі (аб зьніжэньні сабекошту, парадку праходжаньня прапаноў і выкананьні іх заводакіраўніцтвам і г. д.). Парт'ячэйка панчошнай фабрыкі (Віцебск) таксама заслухоўвала даклады па паасобных пытаньнях (аб рацыяналізацыі вытворчасьці і якасьці прадукцыі). Калі парт'ячэйка недастаткова кіруе працай ВК і ВН, ці надта агульна, то праверка нават гэтых дырэктыў пастаўлена яшчэ горш.

Па 10 прадпрыёмствах парт'ячэйкі па вынесеных імі самімі рашэньнях не правяралі выкананьня і толькі па галоўных Гомельскіх майстэрнях была праверка, як ажыцьцяўляюцца прапановы ВН і наведваньне партыйцамі нарад. На фанэрным заводзе (Бабр.) парт'ячэйка не пасылала пастаноў у фракцыю завкому і пра іх апошняя зусім ня ведала. На скурзаводзе „Бальшавік" кіраўніцтва вытворчымі нарадамі з боку парт'ячэйкі выразілася ў дачы дырэктыў ФЗК. Было пастаўлена аб стварэньні, як вопыту, на адным з цэхаў цэхавай ВК. Да гэтага на заводзе існавала агульная заводзкая вытворчая камісія. Быў заслуханы даклад дырэктара і садаклад ВК. Прапанована фракцыі ФЗК ужыць захады да ажыўленьня работы вытворчых нарад і камісій цэхаў, да ўцягненьня рабочых мас у пытаньне палепшаньня якасьці прадукцыі. Самой ячэйкай выносіліся рашэньні на падставе дакладаў заводакіраўніцтва па пытаньнях палепшаньня якасьці прадукцыі.

З усяго матар'ялу відаць, што там, дзе парт'ячэйкі добра цікавіліся работай ВК і ВН, кіравалі штодзённай работай апошніх, там мы маем пэўныя дасягненьні. Прыклад—Гомельскія майстэрні, хоць і там ёсьць свае недахопы ў рабоце.

У большасьці выпадкаў па парт'ячэйцы раўняецца кіраўніцтва і завком. Так на фанэрным заводзе (Бабр.) завком толькі адзін раз заслухаў даклад ВК і пры чым вельмі фармальна, вынес нічога не сказаўшую пастанову аб „узмацненьні і паглыбленьні" работы. Відавочна, дзякуючы слабаму кіраўніцтву ВК і ВН, яны пакінуты самі на сябе, вышлі наогул з падпарадкаваньня завкому і на аднэй з нарад паасобныя члены ВК узьнімалі пытаньне аб вынясеньні спагнаньня завкому (паставіць на від) за слабую работу. Некаторыя завкомы хоць самі заслаба кіравалі работай ВК, дык за тое актыўна ўдзельнічалі ў самой рабоце ВК і ВН (суконная фабрыка—Ворша). Завком Гомельскіх майстэрань за час абсьледваньня заслухоўваў даклад ВК 5 разоў. На скурзаводзе „Бальшавік" ФЗК дастаткова аддаваў увагі рабоце ВК і ВН, заслухоўваючы, як справаздачныя даклады ВК, так і па асобных пытаньнях аб пляне работы ВК (3 разы), аб якасьці прадукцыі (2 разы) і г. д., але заслаба бралася ўвага на работу цэхавых ВН.

На тых прадпрыёмствах, дзе ёсьць вялікі процант невыкананьня пастаноў ВН, завкомы слабавата націскалі на гаспадарнікаў, каб дамагчыся ажыцьцяўленьня прапаноў рабочых (цукерня—Гомель, чыгуначны вузел—Полацк). Вялікая колькасьць дырэктыў, як па партыйнай, так і па прафэсыянальнай галінах работы ВК і ВН не прапрацоўваюцца на пасяджэньнях ФЗК і ВН з тым, каб дырэктывы гэтыя добра ўцяміць і стаць сапраўдным кіраўніцтвам у штодзённай рабоце ВК і ВН.

Узаемаадносіны заводзкага трохкутніку ў большасьці выпадкаў нармальныя, „склокі" між іх няма. Але-ж каб трохкутнік так спрацаваўся паміж сабой і даваў-бы максымум эфэкту па палепшаньню працы прадпрыёмства, рацыяналізацыі яго, у гэтых адносінах трэба прызнаць узаемаадносіны ў заводзкіх трохкутніках у большасьці „ненармальнымі". Маецца пэўная недагаворанасьць паміж прафарганізацыямі ВК і гаспадарнікамі па пытаньнях ажыцьцяўленьня прапаноў ВН (цукерня—Гомель) і ўдзелу адміністрацыі ў працы апошніх (суконная фабрыка—Ворша).

Заслабым трэба прызнаць і кіраваньне сярэднімі зьвеньнямі прафорганаў—Акр. Аддз. і ЦП саюзаў, асабліва па лініі сувязі і жывога інструктаваньня.

Для ўсякага відавочна, якую ролю ў рабоце ВН павінны выконваць тэхнічны пэрсанал, і, вось, прафсаюзы недастаткова накіроўвалі

ўвагу ІТС на гэту работу. Дзякуючы таму, мы маем выпадкі зьняв珠жаньня прапаноў рабочых і пастаноў ВН тэхнічным пэрсаналем. Апошні лічыць, што ВН займаюцца дробязямі (цукерня—Гомель). Маецца і такі прыклад—на прадпрыёмстве „Красный Мельнік“ (Гомель) склікалі нараду па разгледжаньню прапаноў рабочых ужо ў пэрыяд агляду ВН і інжынэр адмовіўся ўдзельнічаць у гэтай нарадзе. На некаторых прадпрыёмствах, хоць тэхнічны пэрсанал і ўдзельнічае ў рабоце ВН, але фармальна. Пры іх прымаецца цэлы шэраг пытаньняў, якія ў тэхнічных адносінах кульгаюць вельмі часта недакладнасьцю вызначэньня і на гэта ня было адпаведнага рэагаваньня ў сэнсе ўнясеньня паправак, правільных азначэньняў і г. д.

Там, дзе ІТС правялі адпаведную работу, там тэхнічны пэрсанал бярэ ўдзел, ці толькі садзейнічае рабоце ВН, даючы тэхнічнае заключэньне па пытаньнях. У гомельскіх майстэрнях пытаньні, што патрабуюць тэхнічнай кансультацыі раней, чым разглядаюцца на ВН, пасылаюцца ВК і ІТС на заключэньне. А такая-ж сэкцыя па Полацкаму чыг. вузлу зусім не працавала ў гэтым напрамку. Было 2 пасяджэньні за ўвесь час, на якіх стаялі арганізацыйныя пытаньні і больш нічога.

* * *

Падводзячы вынікі ўсяму сказанаму пра работу вытворчых нарад, мы павінны зрабіць агульны вывад, што, не ўважаючы на цэлы шэраг дасягненьняў у іх рабоце, па паасобных прадпрыёмствах, мы маем вельмі і вельмі далёка неўдасканаленую пастаноўку работы ВН. Слабасьць гэта вынікае з цэлага шэрагу прычын. Дзякуючы гэтаму, мы маем на паасобных прадпрыёмствах незацікаўленасьць рабочых работай вытворчых нарад. Зьнішчыць гэтыя прычыны зьяўляецца найпершым абавязкам кіруючых арганізацый як на прадпрыемствах (парт‘-ячэйкі, ФЗК), так і вышэйшых парт. і праф. органаў.

Дзеля гэтага зусім ня трэба выдумляць якія-небудзь новыя прапановы, „адкрываць Амэрыкі“, трэба толькі старанна сачыць за ажыцьцяўленьнем тых дырэктыў, якія ёсьць пра работу ВН. Яны да гэтага часу ў большай сваёй частцы забыты, ня выканаены. Трэба забараніць выносіць рэзалюцыі, якія паўтараюць дырэктывы вышэйшых парт. і праф. органаў, а гэтакі недахоп мы назіраем як у кіраваньні парт‘-ячэек, ФЗК, так і вышэйстаячых праф. органаў. Трэба стаць на шлях выключна канкрэтнага кіраўніцтва і практычнай дапамогі ў рабоце ВН. Ня выносячы агульных рэзалюцый, трэба сыстэматычна правяраць выкананьне дырэктыў, якія ёсьць, і фіксаваць увагу толькі на тым, што ня выканана да гэтага часу. Можна напамянуць часам некаторыя з гэтых дырэктыў. Пачынаючы з пастаноў XIV Зьезду УсеКП(б), цэлага шэрагу пастаноў ЦК УсеКП(б), як, напрыклад, аб масавай рабоце і рацыяналізацыі на прадпрыёмстве, пастановы ЦКК УсеКП(б), рашэньні VII і VIII Зьездаў Прафсаюзаў, досыць падрабязная пастанова Прэзыдыуму УсеЦСПС (ліпень 1928 г.), адпаведныя пастановы XIII Зьезду КП(б)Б і ЦК КП(б)Б, пастановы ЦКК КП(б)Б і ЦСПСБ па сумеснаму абсьледваньню дзейнасьці ВК і ВН у 1926—1927 г. і інш.

Па гэтай жа галіне—праверкі выкананьня ажыцьцяўленьня дырэктыў па рабоце ВН—павінна быць узмоцнена і работа органаў КК-РСІ, якія за кожнае няўважлівае і бюракратычнае стаўленьне да прапаноў рабочых павінны прыцягваць віноўных да суровай адказнасьці.

# НА МЯЙСЦОХ

Конюхаў.

## Аб чыстцы, вярбоўцы рабочых і росьце арганізацыі.

*(Кастрычнікавы раён КП(б)Б).*

На грунце пастаноў Лістападаўскага Пленуму ЦК КП(б)Б і XII-га Зьезду КП(б)Б, наша раённая партыйная арганізацыя, як і ўся КП(б)Б прыступіла к падрыхтоўчай рабоце, зьвязанай з чысткаю шэрагаў партыі. Таму важна будзе асьвяціць, як мы гатовы да рэалізацыі пастаноў партыі, якую арганізацыйную і палітычную работу праводзім, якога пералому ў настроях мы дасягнулі сярод партыйных і беспартыйных пралетарскіх мас, якая тэндэнцыя акрэсьліваецца ў падрыхтоўчы пэрыяд як вакол чысткі, так і вакол неабходнасьці ўзмацненьня вярбоўкі рабочых у партыю.

Адказ на гэтыя запытаньні дасьць магчымасьць улічыць шэраг абставін, аб'яднаць вопыт і рашуча зьнішчаць такія тэндэнцыі, якія не забясьпечваюць выкананьня палітычных задач, пастаўленых партыяй у зьвязку з чысткай і вярбоўкай рабочых у партыю.

### I. Як прапрацована пастанова партыі аб чыстцы.

Раённы камітэт партыі асерадкаваў сваю ўвагу на якасьці прапрацоўкі пастаноў партыі аб чыстцы і неабходнасьці шырокага ахопу ёю партыйных і беспартыйных пралетарскіх мас. Трэба сказаць, што прапрацоўка гэтага пытаньня ў арганізацыі прайшла са значным спазьненьнем. Ніводная парт'ячэйка, а таксама і райком не распрацавалі практычных мерапрыемстваў, якія выцяклі-б з пастаноў Лістападаўскага Пленуму ЦК УсеКП(б) аб чыстцы. Толькі пасьля XII-га Зьезду КПБ і то яшчэ ня ўсе партыйныя ячэйкі спэцыяльна абгаварвалі пытаньне аб надыходзячай чыстцы. Да асноўнай і глыбокай прапрацоўкі яго прыступілі толькі пасьля тэзісаў т. Яраслаўскага і пачаткам зьявіўся пленум райкому сумесна з партактывам. На гэтым пленуме райкому былі прыняты дэтальна распрацованыя практычныя мерапрыемствы, што вызначаюць усю далейшую неабходную падрыхтоўку.

Прапрацоўка пытаньня аб чыстцы шэрагаў партыі была перанесена на ўсе адчыненыя партсходы ячэек. На ўсіх партсходах было дэтальна абгаворана значэньне чысткі, мэтады яе правядзеньня, грані прыцягненьня беспартыйных мас і роля партыйных ячэек у далейшай падрыхтоўчай рабоце. Якія-ж настроі выявіліся вакол абгаварэньня гэтага пытаньня сярод партыйных мас арганізацыі? Усе як адна парт'ячэйкі прызналі поўную неабходнасьць правядзеньня генэральнай чысткі, вычышчэньня распаўшых, паадрываных, абюракрацеўшых, якія не праводзяць клясавае лініі, не змагаюцца з цяжкасьцямі, актыўна ня

ўдзельнічаюць у жыцьці партыі і ня жывуць яе жыцьцём—элемэнтаў з партыі. Але вельмі неабходна будзе сказаць і аб характары тых выступленьняў камуністаў, якія ў пэўнай меры адбіваюць некаторыя настроі.

Вось першая група настрояў, выражаных у шэрагу партсходаў, што „Чыстка партыі вымушана правай небясьпекай“, што „У нас у партыі разлажэньне“, што „Няма адзінства“, што „Ня ўсё добра ў правядзеньні клясавай лініі“. Тлумачэньні прадпасылак чысткі шэрагаў партыі гэтымі таварышамі бязумоўна грунтуюцца на тым, што яны ня ўцямілі палітычных задач яе і сапраўдных карэньняў ленінскіх прадпасылак, дыктуючых неабходнасьць правядзеньня чысткі шэрагаў партыі. Таксама зразумела і другое, што гэтыя настроі „аб разлажэньні“, „аб адсутнічаньні адзінства партыі“, аб „няздольнасьці праводзіць клясавую лінію“ навязваюцца абываталем, мешчанінам, нэпманам і кулаком. Толькі таму, што партыя моцна, адзіна, мы праводзім генэральную чыстку для яшчэ большага перамаганьня цяжкасьцяй, выконваньня задач па рэканструкцыі ўсяе нашае народнае гаспадаркі, яшчэ большага згуртоўваньня, адзінства і ўзмацненьня клясавага наступленьня на кулака і нэпмана.

Затое ні ў воднай парт'ячэйцы ня было выказана хістаньняў, і няўпэўненасьці—ці паслабіць чыстка партыю, ці не паслабіць яе адзінства, яе волі, рашучасьці наступаць на капіталістычныя элемэнты. Тады як гэтым чаканьнем усьцешвае сябе абываталь, мешчанін, кулак і нэпман. І зусім ня прэч матываваць гэтымі аргумэнтамі некаторая частка камуністаў абываталяў супроць чысткі.

Другая група пытаньняў належыць, галоўным чынам, да таго „Каго чысьціць“. Як ужо вышэй было сказана, абсалютная большасьць арганізацыі правільна ацаніла і падыходзіць да „катэгорыі тых, якіх трэба вычысьціць“, але ёсьць і галасы „што пры чыстцы трэба меркаваць, як вядзе сябе камуніст пасьля 8—6 гадзін“, што „той, хто п'е, распусьнічае“, павінен быць вычышчаны ў першую чаргу. Гэтая група таварышоў упірае на бытавы бок камуністаў і ставіць на першую чаргу гэтыя запатрабаваньні. Зразумела чаму некаторыя таварышы адстойвалі бытавыя камісіі, матывіруючы тым, што „бытавыя камісіі павінны быць як у час падрыхтоўкі да чысткі, так і пасьля яе правядзеньня“ („Энэргія“ і друг.). Няма патрэбы даводзіць, што такая пастаноўка пытаньня пазбаўлена галоўных палітычных задач партыі і рабочае клясы, што гэта будзе па сутнасьці дзеляцтвам і дыскрэдытаваньнем ідэі чысткі. Але ці гэта значыць, што бытавы бок камуністых будзе выпушчаны з віду? Не, нязначыць, гэта будзе ўлічвацца, але ня з гэтых „задач“ будуць выходзіць пры ацэнцы камуніста.

Трэцяя галоўная група пытаньняў—„Як прыцягнуць беспартыйных да чысткі“. У большасьці вытворчых парт'ячэек гэтае пытаньне ня выклікала ніякіх сумненьняў. Толькі ў савецкіх парт'ячэйках яно набыло шырокае абгаварэньне і нават спрэчнасьці ці неабходна прыцягваць беспартыйных да чысткі. Галоўны аргумэнт, які падаваўся, гэта, што „У нас нельга прыцягнуць беспартыйных, бо яны самі будуць вычышчацца, і ня выключана магчымасьць зьвядзеньня асабістых разрахункаў“. Ужо адно тое, што будуць вычышчацца з савецкага апарату, значыць ня можа быць і гутаркі аб яго ўдзеле ў чыстцы, гэта элемэнт чужы. Наогул аб прыцягненьні чужых, антысавецкіх элемэнтаў, кулакоў гаварыць ня прыходзіцца—іх патрэбна гнаць. Але-ж ёсьць у савецкіх апаратах людзі, што блізка стаяць да партыі і ўлады, актыўна працуюць у грамадзкіх арганізацыях і іх патрэбна прыцягнуць да чысткі. Зусім іншая размова пра тое, каб не дапусьціць

выкарыстаць чыстку партыі на ашальмаваньне адданых партыі камуністаў ня толькі беспартыйнымі, але і паасобнымі камуністамі.

І, нарэшце, галасы аб тым „Ці будуць выключаць з партыі палітычна няпісьменных“. Ізноў такі зразумела, што гэтыя таварышы яшчэ ня ўцямілі сабе сутнасьці задач чысткі.

Зразумела, галоўны вынік, які сам сабою просіцца, выцякаючы з прапрацоўкі гэтае пастановы, такі: *па-першае—з большага партарганізацыя правільна ўцяміла палітычныя задачы чысткі; па-другое—прапрацоўка гэтага пытаньня дыктуе неабходнасьць узяць вялікую ўвагу на разгортваньне далейшай разьясьніцельнай работы сутнасьці чысткі сярод беспартыйных пралетарскіх мас і зьнішчэньня існуючых недахопаў, выяўленых у падрыхтоўчы пэрыяд.*

## II. Як выкарыстаць падрыхтоўчы пэрыяд.

Ад якасьці разгорнутай палітычнай і арганізацыйнай работы мы будзем мець належныя вынікі, якія вызначаць посьпехі непасрэднага правядзеньня чысткі. Таму раённы камітэт партыі ўзяў увагу на наступныя пытаньні: якую разгарнуць работу сярод беспартыйных пралетарскіх мас, як падрыхтаваць парт‘ячэйкі да непасрэднай чысткі, што трэба зрабіць для вылучэньня кадраў у склад камісій па чыстцы і кадраў на вылучэньне.

*Разьясьніцельная работа сутнасьці чысткі шэрагаў партыі сярод беспартыйных* пралетарскіх мас павінна заняць паважнае месца. Парт‘ячэйкам прапанована ўнядрыць у штодзенную масавую работу на прадпрыёмстве тлумачыць сутнасьць прадстаячай чысткі і формы ўдзелу ў ёй беспартыйных мас. Усю гэтую работу цесна ўвязаць з праблемай вярбоўкі рабочых у партыю. Формы і мэтады гэтай работы—індывідуальна-групавая агітацыя, гутаркі, насьценгазэты, нарады рабкораў.

Трэба сказаць, што адчыненыя сходы парт‘ячэек аб чыстцы былі забясьпечаны больш за звычайны лікам на іх беспартыйных. Гэта паказвае, што інтарэс да надзвычайна-важных мерапрыемстваў партыі сярод рабочых вялікі. Рабочая кляса ня можа стаяць у баку ад таго, што робіцца ў партыі, у яго авангардзе, у яго кіраўніцтве. Парт‘ячэйкі нясуць вялікую адказнасьць за арганізаваньне раз‘ясьніцельнай і штодзеннай работы сярод беспартыйных, зьвязанай як з чысткай шэрагаў партыі, так і ўзмацненьнем вярбоўкі рабочых у партыю.

*Падрыхтоўка парт‘ячэек да чысткі.* Нас асабліва павінна цікавіць складаньне характарыстык на камуністаў, на парт‘ячэйку ўцалку і праверка заяў на паасобных членаў партыі.

*Складаньне характарыстык на камуністаў,* як правіла, адмянілі. Але райком праводзіць работу праз парт‘ячэйкі з тым, каб на таварышоў, якія маюць за сабой шэраг партспагнаньняў, каб на іх ацэнкі скласьці. Акром таго цяпер паступае шэраг заяў на паасобных членаў партыі, абвінавачваючы ў шмат якіх памылках, учынках. Праверка гэтых заяў павінна быць праведзена да чысткі. Гэта па сутнасьці зьяўляецца таксама ацэнкаю на таго ці іншага таварыша.

*Характарыстыкі на парт‘ячэйкі.* Раённы камітэт партыі гэтую работу праводзіць двума шляхамі. Першы—выкарыстаньне тых матар‘ялаў жывога дасьледваньня парт‘ячэек, які быў зроблен з часу райпартканфэрэнцыі; але гэта ахапляе нязначнае кола парт‘ячэек. Другі—і найбольш правільны—прымацаваньне членаў райкому і АКК да парт‘ячэек на ўвесь час падрыхтоўчай работы к перавыбарам бюро ячэек, як упаўнаважанымі АКК і РК. У задачу гэтых таварышоў павінна

ўвайсьці—арганізацыя масавай самаправеркі работы парт'ячэек, дапамогі на мясцох, выявіць умовы, хваробы і ацаніць як хваравітыя зьявішчы паасобных камуністаў залежаць ад лініі і кіраўніцтва самых партыйных ячэек. Запатрабаваньні, якія неабходна прад'яўляць пры складаньні характарыстык на парт'ячэйкі, павінны быць—як парт'ячэйка кіравала ўсім жыцьцём прадпрыёмства і змагалася за павышэньне працдысцыпліны, за зьніжэньне сабекошту, за зьнішчэньне прагулаў, прастояў, барацьба з хвасьцізмам, рвачэствам, як парт'ячэйка змагалася за павышэньне палітычнага і культурнага ўзроўню рабочых і за ідэалёгічную вытрыманасьць сваіх членаў партыі. Гэта ацэнка сапраўды дапаможа камісіям па чыстцы шэрагаў партыі адшукаць прычыны шэрагу хваравітых зьявішч, іншы раз якія і не залежаць ад самога камуніста. Напрыклад: райком у красавіку м-цы слухаў даклад ячэйкі Белкустпрома пра яе работу і кіраўніцтва; высьвятліў, што бюро партыйнай ячэйкі абвінавачвала некаторых таварышоў, што яны не праводзяць партыйнай лініі і задач партыі. А тым часам само кіраўніцтва ячэйкі ўяўляе з сябе вось што: „У складзе бюро ячэйкі 3 таварышы хварэюць на правы ўхіл. У складзе арцеляй засаронасьць—спэкулянтамі, валютчыкамі і чужым элемэнтам. Не вядзецца работы з бяднейшай часткаю кустарнай масы. Не разгорнута самакрытыка. У наяўнасьці з боку кіруючых працаўнікоў, пратэкцыянізм, бюракратызм" (з вынікаў па ячэйцы Кустпрома). Такім чынам бачым, што бюро парт'ячэйкі абвінавачвала асобных камуністаў без падставы, бо само кіраўніцтва было гнілым. Вось чаму складаньне характарыстык на парт'ячэйкі зусім відавочна і прадстаячыя перавыбары бюро ячэек намі павінны быць максымальна скарыстаны для ацэнкі і характарыстыкі парт'ячэек. Перавыбары бюро парт'ячэек будуць праходзіць пры масавай самаправерцы работы і кіраўніцтва парт'ячэек і пад пунктам погляду задач партыі, што і трэба выразіць у характарыстыках парт'ячэек.

У камісіі па чыстцы шэрагаў партыі ў раёне высунуты 41 чалавек. З гэта складу 82% рабочых па сацыяльнаму становішчу і 34% рабочых ад варштату. Усе таварышы з партстажам ня менш 7 гадоў. Пры гэтым партстаж 7 гадоў датычыцца выключна рабочых ад варштату. Зараз трэба ўсебакова абгаварыць увесь склад высунутых у камісію і сваячасова даць тыя ці іншыя адводы супроць некаторых таварышоў. Пры ўсёй гэтай рабоце неабходна ўлічыць той момант, каб больш уцягнуць—у камісіі па чыстцы—камуністак у адпаведнасьці з тымі запатрабаваньнямі, якія прад'яўляюцца да таварышоў, высунутых у склад камісій.

*Вылучэньне кадраў на высоўваньне.* Райком да гэтай работы прыступіў праз вылучэньне з складу арганізацыі рабочых ад варштату камуністаў, што працуюць у нізавых звеньнях і да гэтага часу ўжо налічваецца 29 асоб. Гэты склад таварышоў будзе і далей папаўняцца за лік выяўленьня парт'ячэйкамі актыўных і дзелавых кандыдатур з складу арганізацыі. Ужо цяпер з гэтага складу прымацованы да пэўных галін работы практыкантамі 4 чалавекі. Асаблівую-ж увагу трэба ўзяць на тое, каб таварышы праходзілі неабходную агульную падрыхтоўку і больш у парадку прымацаваньня да ўстаноў была разгорнута практыка практыканства.

### III. Аб вярбоўцы рабочых у партыю.

Лістападаўскі Пленум ЦК УсеКП(б) і XII-ты Зьезд КПБ прынялі пастанову аб неабходнасьці давядзеньня да паловы складу нашае партыі рабочымі ад варштату, не гаворачы ўжо пра тое, што чыстка

шэрагаў партыі настойліва высоўвае перад намі праблему ўзмацненьня тэмпу вярбоўкі рабочых у партыю. Таму нам зусім неабходна сыстэматычна асьвятляць на старонках друку вопыт, недахопы і ступень ажыцьцяўленьня партыйнай дырэктывы. Як практычна ажыцьцяўляецца дырэктыва партыі ва ўмовах нашага раёну, якога пералому дасягнулі і якія практычныя мерапрыемствы неабходны, каб забясьпечыць выкананьне гэтай пастановы партыі. Вось на якія пытаньні трэба цяпер даць адказ.

*Твар нашай раённай Партарганізацыі па сацыяльнаму становішчу, па роду заняткаў і інш.* Раённая арганізацыя на 1-га красавіка 1929 г. налічвае 2.872 сяброў, з іх 645 кандыдатаў партыі. Па сацыяльнаму становішчу члены партыі падзяляюцца так: рабочых 66%, сялян 10,6%, служачых 23,4%. У ліку кандыдатаў: рабочых 64%, сялян 14%, служачых 22%. З гэтых даных відаць, што процант служачых надзвычайна вялікі. Але як і за кошт каго ішоў прыём з часу раённай канфэрэнцыі?

З 1-га красавіка г. г. было падана заяў аб прыёме: рабочых 119, сялянамі 9, служачымі 9. Прынята-ж рабочых 91, сялян 8, служачых 2.

Рост, такім чынам ішоў з большага за кошт рабочых. З 91 прынятага рабочага ад варштату—77 чал., рэшта вучні (Рабфак, вайсковыя часьці).

У арганізацыі налічваецца рабочых непасрэдна ад варштату (разам з кандыдатамі) 39%, служачых апарату—31%, вучняў 14% і г. д. Адгэтуль відавочна задача ўзмацненьня вярбоўкі перадавых рабочых у партыю з тым, каб да канца 1930 году рабочых ад варштату ў партыі было-б ня менш за 50%.

Усяго ў складзе арганізацыі жанчын 353 або 12,2%. Гэты процант для нашае раённае арганізацыі зьяўляецца бязумоўна недастатковым. А як ішоў прыём апошнім часам за кошт жанчын? З ліку 15 паданых заяў, прынята 14 асоб. Гэта гаворыць аб тым, што мы вельмі дрэнна расьцём за лік жанчын-работніц ад варштату і гэта ад нас патрабуе вялікай уважлівасьці для паляпшэньня работы сярод работніц.

Асноўны вынік з прыведзеных даных зводзіцца да таго, што трэба прызнаць: а) слабы колькасны рост арганізацыі (101 чалавек за 4 м-цы), а таксама невыстарчальны яшчэ рост за кошт рабочых, што працуюць непасрэдна ля варштату (77%); б) высокі процант адсеву рабочых (24%) тады, як адсеў сялян складае ўсяго 12%.

Таксама трэба адзначыць, што ў ліку прыйманых рабочых ад варштату пераважна зьяўляюцца маладыя па вытворчаму стажу, узросту і мала кваліфікаваныя. Так, напрыклад, з праведзенага выбарчым парадкам дасьледваньня 23 асоб бачым, што па вытворчаму стажу—2-х гадоў да 5-ці, 10 асоб, 6 да 10 г.—8 чалавек і звыш 10 гадоў—5 чалавек. Па кваліфікацыі: з 23 асоб толькі 3 чалавекі кваліфікаваны, рэшта мала і зусім не кваліфікаваныя.

*Якія-ж умовы для росту і паляпшэньня свайго сацыяльнага складу мае Кастрычнікавая раённая арганізацыя і дзе хаваюцца прычыны такога становішча росту арганізацыі?*

Некаторыя таварышы лічаць, што „Усё лепшае ўцягнута ў партыю і пэрспэктывы росту ячэек надзвычайна абмяжованы“. Досыць паглядзець на рэзэрвы, якія ёсьць у рабочай клясе,—як кадры беспартыйна-пралетарскага актыву ў прафсаюзах, у Саветах, каапэрацыі, у дэлегацкіх сходах, у камсамоле і добраахвотных таварыствах,—дык зробіцца яснай нягрунтоўнасьць вышэй паданых гутарак. Зусім зразумела, што такія разважаньні адмоўна ўплываюць на рост і патрабуюць рашучай барацьбы з імі. Возьмем, напрыклад, партыйную праслойку

нашых прадпрыёмстваў, дзе ёсьць вялікія рэзэрвы. Так, на прадпрыёмстве „Бальшавік“ рабочых 665 чалавек, а камуністаў 29%, рабочых Вагонных Майстэрань—505 чалавек, камуністаў 25%, рабочых Дэпо 315 чал., камуністаў 24%, „Адраджэньне“—529 чал., камуністаў 6,5%, Шчотачная фабрыка 670 чал., камуністаў 5,2%, Сьпіртзавод 51 чал., камуністаў 75%, Каўбасная фабрыка 47 чал., камуністаў 54%.

Адгэтуль бачым, што чым буйней прадпрыёмства, тым ніжэй партпраслойка і тлумачыцца гэта ў першую чаргу тым, што мы слаба разгарнулі штодзенную культурна-масавую партыйную работу, якая ня зусім адпавядае ступені і культурнаму росту пралетарскіх мас.

*Ці вярбуем мы перадавых рабочых у партыю.* У літаральным сэнсе гэтага слова вярбоўкі рабочых у партыю мы ня маем. У нас пераважае „прыём“ у партыю. Бо вярбоўка—уцягненьне ў шэрагі партыі патрабуе штодзеннае апрацоўкі з боку членаў партыі прыцягнутага рабочага. Замест гэтай упартай, штодзеннай, цяжкай работы па вярбоўцы ў нас звычайна „прымаюць“ у партыю і нярэдкія яшчэ выпадкі калі ўхваляюць пастановы „устрымацца да высьвятленьня і выяўленьня на грамадзкай рабоце“. Значыць парт‘ячэйка да гэтага часу рабочага няведала, перад падачай заявы аб прыёме ў партыю ня было неабходнай падрыхтоўкі, не вялося адпаведнай выхаваўчай работы.

Матар‘ялы, якія сабраны Райкомам у зьвязку з пастаноўкаю пытаньня на Пленуме райкому, паказваюць і на тое, што работа *з беспартыйным актывам пастаноўлена вельмі дрэнна:* няма поўнага яго ўліку, няма вывучэньня яго нагрузкі і штодзеннай дзелавой работы ў грамадзкіх арганізацыях і на вытворчасьці. Зусім слаба актыў уцягнуты ў гурткі, школы і амаль, што ня прыцягваецца да работы, якую праводзіць парт‘ячэйка па тэй ці іншай галіне. А калі ўзяць колькасны склад беспартыйнага актыву на прадпрыёмствах нашага раёну, дык ён налічвае ў сваіх шэрагах пад 2500 чалавек. Мы ня знойдзем ніводнай парт‘ячэйкі, якая-б па дзелавому паставіла пытаньне работы з беспартыйным актывам. Парт‘ячэйка ня мае даных аб гэтым актыву—яго вытворчы стаж, сувязь з вёскаю, сваёй гаспадаркай, стаж грамадзкай работы і інш. А тым часам, гэта дасьць магчымасьць зрабіць некаторы адбор для ўцягненьня перадавых і актыўных у шэрагі партыі. Але і гэты адбор яшчэ не папярэджвае пытаньня аб партыйнасьці беспартыйнага актыву. Сярод актыву ёсьць добрыя таварышы, якія і падыходзяць партыі, але разважаюць: „Што ўступаць зараз у партыю сорамна, таварышы засьмяюць, дзе быў раней“. Вось тут і павінна быць шырока разгорнута работа па вярбоўцы ў партыю з растлумачэньнем таго, чаму гэтыя актывісты павінны быць у партыі. Гэтай растлумачальнай работы, як паказвае абсьледваньне парт‘ячэек, ні ў воднай парт‘ячэйцы не вядзецца. Ніводная парт‘ячэйка да гэтай пары не правяла гутарак з беспартыйным актывам на тэму: „Чаму да гэтай пары яны ня ўступілі ў партыю, што іх затрымлівае“. З боку парт‘ячэек тлумачыцца, што актыўныя рабочыя ня йдуць у партыю, баяцца нагрузкі, перабросак і інш. „Гэтыя тлумачэньні бязумоўна беспадстаўны, не абгрунтованы і дрэнны прыток у партыю залежыць толькі ад самых парт‘ячэек. Прычына галоўным чынам хаваецца ў дрэнна пастаўленай культурна-масавай рабоце, у барацьбе з хваравітымі зьявішчамі, недахопамі ў самой парт‘ячэйцы і недастатковым разгортваньні самакрытыкі.

Да недахопаў па вярбоўцы і палепшаньні сацыяльнага складу арганізацыі трэба аднесьці таксама тое, што ў абсалютнай большасьці парт‘ячэйкі не абгаварылі мэтадаў вярбоўкі ў партыю, пытаньняў пастаноўкі нашай штодзеннай культурна-масавай і партыйнай работы і партыйнай работы на прадпрыёмствах.

У самай справе чым тлумачыцца, што на працягу 1928 году парт‘ячэйкі Вагонных Майстэрань прынялі ўсяго 4 чалавек (рабочых 400 чал.), Дэпо 2 (з 350 раб.). Малы рамонт 4 чалавека (з 500 раб.) і г. д. А на працягу 4 месяцаў па ўсяму раёну 101 чалавек пры наліччы да 7000 рабочых. Гэта трэба аб‘ясьніць толькі вельмі слаба разгорнутай культурна-масавай работай і адсутнасьцю вярбоўкі рабочых у партыю. Ніводная парт‘ячэйка не зрабіла для сябе накідкі—хто з перадавых і кваліфікаваных рабочых прадпрыёмства можа быць уцягнены ў шэрагі партыі на працягу бліжэйшых месяцаў і году. Тут справа ідзе не пра разьвёрстку, а ставіцца пытаньне на якую ў першую чаргу групу перадавых рабочых у парадку індывідуальнай і групавой апрацоўкі ўзяць установку. Гэтая пастаноўка і ў такім выглядзе бязумоўна абязвала-б на тое, якімі шляхамі і мэтадамі вербаваць перадавых рабочых у партыю. Замест гэтага парт‘ячэйкі чакаюць, калі той ці іншы рабочы падасьць заяву аб уступленьні ў партыю. Гэты парадак і ёсьць самы сапраўдны самацёк бяз уплыву і кіраўніцтва на пасіленьне тэмпу вярбоўкі ў партыю.

Асноўны вынік, які трэба зрабіць па пытаньню вярбоўкі рабочых у партыю, той, *што ў умовах нашага раёну мы яшчэ не дасягнулі пераломy ў бок пасіленьня вярбоўкі рабочых у партыю і не забясьпечылі сыстэматычнага выконваньня пастаўленых перад намі партыяй дырэктыў.*

*Апошні пленум райкому, разглядаючы гэтае пытаньне, вызначыў наступныя галоўныя практычныя мерапрыемствы.*

Па-першае—у далейшай рабоце арганізацыі па палепшаньню сацыяльнага складу і палепшаньню вярбоўкі рабочых у партыю, трэба дамагчыся рашучага пераломy, як у тэмпе росту арганізацыі, так і палепшаньню сацыяльнага складу, каб у ліку тых, што прымаюцца, было ня менш 95% рабочых ад варштату. Улічваючы тое, што ў раёне арганізацыі ёсьць Унівэрсытэт і іншыя навучальныя ўстановы, лічыць магчымым у ліку 5% прымаць вучняў рабочых, батракоў і беднякоў па сацыяльным складзе ва ўнівэрсытэце і іншых установах.

Па-другое—усім парт‘ячэйкам старанна праз кожныя 3 месяцы абгаварваць мэтады вярбоўкі ў партыю, тэмп росту, пастаноўку культурна-масавай работы, пры гэтым паклаўшы ў аснову, каб да падачы заявы аб прыёме, была праведзена шырокая падрыхтоўчая, партыйна-выхаваўчая работа з уцягнутымі. Дзеля гэтага правільна разьмясьціць па цэхах, групах, аддзяленьнях прадпрыёмства камуністаў з мэтаю забясьпечаньня партыйнага ўплыву і штодзеннай работы ў гэтых зьвеньнях. Акром таго патрабаваць ад кожнага камуніста выкананьня патрабаваньня партыі аб актыўнай рабоце і сувязі з масамі і ў гэтых адносінах лічыць выкананымі патрабаваньні да тых, хто падрыхтуе лепшыя, перадавыя кандыдатуры з рабочых для партыі.

Па-трэцяе—кожнай парт‘ячэйцы на прадпрыёмстве мець пэўную арыентыроўку каго з складу перадавых і актыўных кваліфікаваных рабочых можна ўцягнуць у партыю ў бліжэйшыя месяцы і на працягу году, з тым, каб з імі разгарнуць усю неабходную індывідуальную, групавую агітацыю. Неабходна пэрыядычна склікаць і праводзіць гутаркі з беспартыйным актывам па пытаньнях вярбоўкі, ажыцьцяўленьня паасобных мерапрыемстваў партыі і высьвятленьня прычын ня ўступленьня ў партыю. На грунце высьвятленьня гэтых умоў, парт‘ячэйкам улічваць гэтыя моманты ва ўсёй штодзеннай рабоце на прадпрыёмстве.

Па чацьвертае—асаблівая ўвага павінна быць узята на пастаноўку культурнай-масавай работы на прадпрыёмстве, таму трэба трымаць у курсе бягучых падзей, мерапрыемстваў партыі і ўлады рабочыя масы. Парт'ячэйкам патрэбна сыстэматычна ўлічваць настроі рабочых, хутка рэагаваць на іх і весьці дакладны ўлік усім дзелавым прапановам рабочых з пэўнымі і акуратнымі адносінамі да рэалізацыі іх.

Па пятае—для дапамогі парт'ячэйкам у лепшым арганізаваньні масавай работы на прадпрыёмствах, шырэй выкарыстаць раённы партактыў, кадры адказных работнікаў, камуністаў цэнтральных апаратаў нашага раёну.

Вось якое становішча і якія мерапрыемствы ў умовах нашага раёну мы маем і вызначым для ажыцьцяўленьня дырэктыў партыі, як па чыстцы яе шэрагаў, так і ўзмацненьня тэмпу вярбоўкі рабочых у партыю.

---

Д. Алееўскі.

# Папярэднія вынікі падрыхтоўкі да чысткі КП(б)Б.

*(Расонскі раён).*

Падрыхтоўка да чысткі партыі пачалася адразу пасьля пленуму АК КП(б)Б. Па ячэйках КП(б)Б былі разьмеркованы т. т., якія пачалі сваю работу з 9-га сакавіка г. г. Пытаньне аб чыстцы партыі стаяла на райпартсходзе. Папярэдне гэтае пытаньне было популярызавана ў час распрацоўкі Лістападаўскага пленуму ЦК УсеКП(б) як у ячэйках, так і ў гуртках. Беспартыйныя інфармаваліся аб чыстцы праз сходы на с/с. у час выбараў саветаў.

Да сёньняшняга дню па ўсіх ячэйках праведзены папярэднія сходы аб чыстцы партыі і ў пяцёх ячэйках ужо дадзены характарыстыкі. На ўсіх сходах прысутнічае шмат сялян і сяброў саюзу. Інтарэс да чысткі надта вялікі, партыйцы амаль усе прысутнічаюць на сходах.

У спрэчках па пытаньнях чысткі ёсьць багаты матар'ял. Галоўным чынам выказваюцца аб п'янках, бытавых неэтычнасьцях—адносіны да жонак, абразы у хаце, бюрократызм, які з большага зводзіцца да грубасьці к наведвальнікам, асабліва па хлебным пытаньні, разьмеркаваньні крэдыту, лесу і г. д.—больш за ўсё гаварылі пра работнікаў коопэрацыі, сельсаветаў і інш. Значная частка сказанага патрабуе дэтальнага разгляду, частка правільна, асабліва тая, якая датычыць выпіўкі і грубых адносін, значная частка дробязей і носіць характар асабістых рахункаў, помсты, што выяўляецца з большага сярод былых савецкіх служачых, зьнятых з работы, выключаных і розных падкулачнікаў, а таксама з боку некаторых партыйцаў. Асабістыя разрахункі бываюць больш за ўсё па адрасе тых партыйцаў, якія найбольш рашуча праводзяць клясавую лінію, змагаюцца з рознымі недахопамі як у ячэйцы, так і сярод беспартыйных. Так, напрыклад, заява быўш. члена партыі, б. камісара Мядзьведзева (Сакалішчанскі с/с. аб тым, што кандыдат КП(б)Б Тальвінскі, ён-жа сакратар с/с.—з паліцэйскіх, груб, сын падрадчыка, што пры расьсьледваньні не пацьвердзілася. Таксама заявы на б. сакратара Гарбачэўскай ячэйкі т. Сігова з боку заможных таксама не пацьвердзіліся. Заявы падаюцца таму, што т. Сігоў найбольш актыўна дапамагаў у земляўпарадкаваньні камуны і змагаўся з заможнымі за зямлю. Такіх прыкладаў шмат.

Ёсьць выпадкі, калі партыец пачынае гаварыць пра другога, што ён п'е, нясумленна ставіцца да работы, грубы, тады і той партыец, аб якім гавораць, таксама пачынае выдумваць пра таго, хто гаворыў аб ім.

Ёсьць і ї другі адмоўны бок—гэта жаданьне прыкрыць свае сапраўдныя недахопы размовамі аб асабістых разрахунках, напрыклад: калі даводзяць фактамі, што партыец зрываў работу па самаабкла-

даньню, п'янствуе, б'е жонку, бярэ хабар, прадае зямлю тады ён кажа— „гэта асабістыя разрахункі", ня маючы на гэта ніякіх падстаў (Альбрэхтава, Краснапольле, Сакалішча і г. д.).

Адмоўным момантам з боку асобных партыйцаў зьяўляецца абывательская трусасьць, замазваньне недахопаў, нежаданьне пакрыўдзіць каго, каб ніхто пра яго нічога кепскага не казаў (Сакалішча, Клясьціцы).

Сходы па чыстцы праходзяць актыўна і зацягваюцца доўга. Выказваецца шмат беспартыйных сялян—бедныкі і серадыякі. Аб адмоўных зьявішчах больш гавораць серадыякі, якія зьвязваюць гэта сваімі асабістымі крыўдамі ў сувязі з хлебам. На некаторыя сходы прыходзілі заможныя і асобы пазбаўленыя выбарчых правоў, якіх бязумоўна са сходаў прасілі выходзіць. Запрашаньні на сходы праводзяцца праз аб'явы і абвешчаньні на агульных сходах.

Побач са здавальненьнем, якое заўважваецца з боку працоўнага сялянства чысткай, якое кажа „надта добра, што настала нарэшце пара, калі выганяюць вон усялякіх падрыўшчыкаў, якія паскудзяць партыю і ўладу". Маюцца заўвагі з боку варожых элемэнтаў аб тым, што „воран ворану глаз ня выклюе", бо яны адзін другога чысьцяць.

З боку часткі сялян у час чысткі былі такія заявы: „нашых камуністых няма за што чысьціць,—яны ўсе добрыя, мы пра іх нічога ня можам сказаць худога"—Сакалішча. Гэта ў большасьці словы беднякоў.

Калі заўважвалі некаторым камуністым пра выпіўку і пра абразы ў хаце, тады сяляне казалі: „гэта не злачынства, што ён выпіў ці абразы ў яго хаце, а нашто тады гарэлку выпускаюць. Вы павінны чысьціць партыйцаў, а не багоў, яны яму ня шкодзяць, абы толькі ён быў добрым чалавекам".

Ня ўсе партыйцы на гэта рашуча рэагавалі, некаторыя маўчалі зусім і пляліся ў хвасьце гэтых сялянскіх настрояў; іншы раз партыйцы на сходах трымалі сябе як падсудныя і нічога не казалі, а выказваліся адны сяляне—Сакалішча. У іншых ячэйках сяляне бралі зусім слабы ўдзел у выказваньні і амаль што маўчалі—Альбрэхтаўская ячэйка. Гэта тлумачыцца вялікай колькасьцю служачых і актыўнасьцю самых партыйцаў, бо ячэйка складаецца ў большасьці з райактыву. Гэта затушоўвае актыўнасьць сялян.

Усяго прысутнічала на сходах партыйцаў 84, сялян 613, з іх жанчын 235. Выказалася ў спрэчках: партыйцаў 56, сялян 196, жанчын 21. Як недахоп, трэба адзначыць малы лік выказваньняў комсамольцаў.

Характарыстыкі, якія даюцца партыйцам, з большага ўсебаковыя, адмоўныя зьявішчы пацьвярджаюцца фактамі, але дадатныя носяць досыць агульны характар, ёсьць частка партыйцаў, у якіх у характарыстыках нічога не адзначана з прычыны таго, што буйных недахопаў за імі як за партыйцамі не заўважана, а дробныя, як правіла, у характарыстыку ня ўносяцца, а ўпісваюцца ў пратаколы сходаў, да якіх прыкладаюцца гэтыя характарыстыкі. Пры чыстцы гэтымі пратаколамі і давядзецца карыстацца.

Разам з падрыхтоўкай да чысткі праводзіцца і работа па вярбоўцы ў партыю парабкаў і сель.-гас. рабочых. Да гэтага часу прыняты 4 асобы, а заяў пададзена ўсяго 12. Праводзіцца і паступовая ачыстка шэрагаў райарганізацыі, дасюль выключана ячэйкамі і РК пяць асоб, з якіх адзін член партыі і 4 кандыдаты, з якіх адзін за скрыўленьне клясавай лініі ў час абкладаньня падаткам, п'янства, растрату і сувязь з сацыяльна чужым элемэнтам, тры за зрыў самаабкладаньня і выказ-

ваньне супроць калектываў, адзін за поўны адрыў ад ячэйкі і нежаданьне браць удзел у яе рабоце. З пяцёх выключаных 4 сяляне серадзнякі і адзін рабочы; адзін працаваў у каапэрацыі, а рэшта на сельскай гаспадарцы. Рабочы працуе на чыгунцы.

Падрыхтоўчая работа да чысткі ўнесла значнае аздараўленьне і ажыўленьне ў работу. Паднялася актыўнасьць і адказнасьць партыйцаў за сваю работу. Асабліва гэта сьведчыцца рэзкім зьніжэньнем выпіўкі і п'янства і другіх адмоўных зьявішчаў. Большы ўдзел партыйцаў у калектывізацыі і больш вытрыманая клясавая лінія ва ўсёй рабоце, нават з боку тых, якія яе раней цьвёрда не праводзілі. Усё гэта сьведчыць аб вялікім аздараўляючым значэньні генэральнай чысткі УсеКП(б), яе сваячасовасьці і неабходнасьці.

---

Я. Раманчук.

# Комсамол і задачы партыйнага кіраўніцтва.

I

Пытаньні партыйнага кіраўніцтва камсамольскімі арганізацыямі зьнізу да верху ў сучасны пэрыяд набываюць надзвычайна буйнае палітычнае значэньне. Пастаноўка пытаньня аб праверцы практыкі партыйнага кіраўніцтва камсамалам і ўзмацненьня яго вызначаецца тым асаблівасьцямі, з якімі зьвязана сацыялістычная рэканструкцыя ўсяе народнае гаспадаркі СССР.

Будаўнічая работа ў СССР разгортваецца пры ўмовах адноснай, усё больш хісткай стабілізацыі капіталізму, у міжнародных абставінах якія багаты канфліктамі і небясьпекай узброеных сутычак. Ваенная небясьпека расьце. Яе асноўнае лязь накіравана супроць СССР. Адсюль задача мабілізацыі мас на справу ўзмацненьня абароназдольнасьці СССР.

Але-ж адгэтуль вынікае і неабходнасьць *напружанага тэмпу* сацыялістычнага будаўніцтва СССР. Пры росьце вытворчых сіл капіталізму, перад наяўнасьцю ваеннай небясьпекі задача СССР „дагнаць і выперадзіць у тэхніка-эканамічных адносінах перадавыя капіталістычныя краіны“ робіцца катэгорычнай дырэктывай.

Такім чынам, з пэрыядам адноснае стабілізацыі капіталізму і завастрэньным ваеннае небясьпекі для СССР супадае пэрыяд надзвычайна складаных унутраных задач сацыялістычнае рэканструкцыі ўсяе эканомікі нашае краіны пры абавязковым *напруджаным* тэмпе індустрыялізацыі. Задачы вырашэньня такіх экономічных праблем як „выкарчоўваньне карэннай пераробкі сацыяльна-эканамічнага ўкладу нашае краіны,—складаюць для пролетарыяту СССР шэраг дадатковых цяжкасьцяй. Пралетарыят СССР пад кіраўніцтвам Комуністычнае партыі (бальшавікоў) прыступіў да ажыцьцяўленьня задач *практычнага будаўніцтва сацыялізму.*

Узмацненьне пазыцый сацыялізму, далейшы рост дзяржаўнае прамысловасьці і энэргічнае будаўніцтва савгасаў і колгасаў у вёсцы—выклікаюць узрост актыўнасьці і націск з боку клясавых ворагаў і іх супроць дзейнічаньне наступленьню элемэнтаў сацыялізму як у горадзе, так і асабліва ў вёсцы. Пэрыяд сацыялістычнае рэканструкцыі зьвязаны з *завастрэньнем клясавае барацьбы* ў СССР, у яе асаблівых формах, якія адпавядаюць пераходнаму пэрыяду.

*Цяжкасьці* што ўсталі на шляху сацыялістычнае рэканструкцыі, напруджанасьць нашых матар‘яльных сродкаў, зьявішчы таварнага голаду і г. д. утвараюць глебу некаторым хістаньням як у паасобных праслойках рабочае клясы, так і некаторых зьвеньняў у самой партыі і камсамоле. Камсамол, з прычыны яго асаблівасьцяй як масавай палітычнай арганізацыі (больш шырокі сацыяльны склад, меншая загартаванасьць кадраў і г. д.), больш падпарадкаваны ўплыву дробна-буржуазнае ідэолёгіі.

Партыйныя арганізацыі павінны практычна дапамагчы камсамольскім арганізацыям павесьці рашучую барацьбу з прасочваньнем у шэрагі камсамолу апортуністычнае ідэолёгіі і разгарнуць вялізарнейшую работу па максімальнаму згуртаваньню маладых *пралетарскіх кадраў* навокал цэнтральнае задачы *цьвёрдага правядзеньня гэнэральнае лініі партыі* ў справе сацыялістычнае рэканструкцыі краіны.

## II

XIV зьезд партыі адзначаў, што рост камсамолу, складанасьць задач і цяжкасьць „ставяць вастрэй чымся калі пытаньне аб узмацненьні партыйнага кіраўніцтва саюзам. Неабходна з усёй сілай падкрэсьліць *небясьпеку становішча, пры якім тая альбо іншая партыйная арганізацыя незнаёма з праблемамі і цяжкасьцямі камсамольскае работы*".

Але тымчасам партыйныя арганізацыі за апошні год у шэрагах выпадкаў аддавалі зусім малую ўвагу кіраўніцтву камсамолам і пытаньням яго работы. Камсамольскія ячэйкі былі пакінуты ў значнай меры, асабліва па вёсцы, самі на сябе. Кіраўніцтва ў шэрагу выпадкаў абмяжоўвалася тым, што фармальна заслухоўвалі на партыйных ячэйках, альбо ў партыйных камітэтах агульныя даклады і прымалі штампоўныя рэзалюцыі „здавальняюча".

Кіруючыя работнікі партыйных органаў вельмі рэдка прысутнічаюць на камсамольскіх ячэйковых сходах і на паседжаньнях бюро камсамольскіх ячэек, юнсекцый клюбаў і г. д. Штодзеннае кіраўніцтва, знаёмства партыйных арганізацый з будзённым жыцьцём камсамолу адбываецца праз партыйных, прымацаваных да комсамольскіх ячэек і камітэтаў. Партпрымацаваныя ня выконваюць сваіх абавязкаў акуратна. Пра гэта сьведчыць шэраг фактаў, надрукаваных у камсамольскім і партыйным друку, а таксама і абсьледваньні паасобных арганізацый КП(б)Б.

Падамо некалькі фактаў аб тым, чым зьяўляюцца партпрымацаваныя да камсамольскіх ячэек, як яны кіруюць камсамолам і як імі кіруюць партарганізацыі.

„Неадпаведны ў шмат выпадках падбор партпрымацаваных. Гэта тлумачыцца недаацэнкай некаторымі ячэйкамі паважнасьці камсамольскае работы і прымацаваньнем толькі ў парадку партнагрузкі, бяз вучоту таго, ці здалее адзначаны таварыш у адпаведнай меры ажыцьцявіць парткіраўніцтва. Большасьць партпрымацаваных маладыя партыйцы. Шмат з прымацаваных недастаткова палітычна разьвіты і ня маюць належнага партыйнага вопыту. Прымацаваныя большай часткай недастаткова азнаёмлены з пытаньнямі камсамольскае работы, адсюль незаўсёды ўмелы іх падыход". (З вывадаў становішча парткіраўніцтва камсамолам па Пралетарска-Слабадзкому раёну Віцебскае арганізацыі, зацьверджаных РК КП(б)Б.

„Маюцца выпадкі, калі партпрымацаваныя адносяцца да сваёй работы як да прымусовай павіннасьці і фактычна камсамольскай ячэйцы нічога сталага не даюць. Адсюль партпрымацованыя не карыстаюцца належным аўтарытэтам. Наогул партыйнае кіраўніцтва камсамольскімі ячэйкамі нездавальняючае". (Вывады па Пролет. Слаб., II Гарадзкому, Гарадоцкаму, Сураскаму, Сененскаму і Бешанковіцкаму раёнах Віцебскае арганізацыі).

Матар'ялы, якія ў нас маюцца, аб становішчы партыйнага кіраўніцтва комсамолам дазваляюць нам падзяліць партпрымацаваных да камсамольскіх ячэек на 4 групы: 1) пасыўны партпрымацованы, які зусім згодзен, нерашуча падтаквае; яму пападае і ад камсамольскай ячэйкі і ад партыйнай ячэйкі, 2) „актыўны" партпрымацаваны,—ён праводзіць

дробязную апеку, абавязкова дае „партлінію“, не карыстаецца аўтарытэтам у камсамольскай арганізацыі; 3) партпрымацованы — „папаша“—які па ўсялякай прычыне выступае з высокай маральлю „так нельга“, „таварыш Ленін завяшчаў нам быць прыкладнымі“ і г. д. Такіх партпрымацованых ёсьць значная група ў КП(б)Б, але ў выніку прыняцьця практычных мер партыйнымі арганізацыямі па палепшаньню парткіраўніцтва камсамолам гэтая група паменшваецца; 4) партпрымацованы, які арыентуецца ў складанасьці ўмоў работы камсамольскіх арганізацый, мае таварыскі падыход, карыстаецца вялікім аўтарытэтам як сярод камсамольцаў, так і сярод партыйцаў. Такіх партпрымацованых у КП(б)Б ужо ёсьць значны лік, асабліва ў гарадзкіх арганізацыях; горш справа ў вясковых арганізацыях КП(б)Б.

Як на адну з форм партыйнага кіраўніцтва камсамолам XIV партыйны зьезд указаў на пастаноўку і абгаварэньне комсамольскіх пытаньняў у партыйнай арганізацыі. Гэтая партдырэктыва выконваецца ў нас усё яшчэ нездавальняюча. Аб гэтым гавораць матар'ялы нарад камсамольцаў-партыйцаў і партпрымацаваных, якія ў канцы 1928 года былі праведзены некаторымі РК КП(б)Б.

Так, напрыклад, у пратаколе нарады камсамольцаў-партыйцаў і партпрымацованых Гарадоцкага раёну мы чытаем: „Партыйная ячэйка мала ўдзяляе ўвагі працы камсамольскай ячэйкі, заслухоўваюць справаздачы камсамольскіх ячэек і прапаноў не даюць, а толькі даручаюць выпрацаваць рэзалюцыю і да гэтага часу (прайшло 2 мес. *Я. Р.)* ня выпрацавалі“.

Далей: „а) Ячэйкі КП(б)Б не заслухоўвалі справаздачы ячэек ЛКСМБ па асобным галінам працы; б) Ячэйкі КП(б)Б практыкавалі паўгадовыя справаздачы ячэек ЛКСМБ, па асобным галінам працы справаздач не заслухоўвалі“ (Вынікі праверкі парткіраўніцтва камсамолам па Сураскаму раёну).

Яскравым прыкладам таго, як ня трэба партыйным ячэйкам кіраваць камсамольскімі ячэйкамі можа служыць факт, які меў месца па ільно-прадзільнай фабрыцы „Дзьвіна“ ў Віцебску. Партыйная ячэйка № 3 фабрыкі „Дзьвіна“ кіруе 4 ячэйкамі ЛКСМБ. Парт'ячэйка заслухала справаздачы 2-х камсамольскіх ячэек, а пастаноў па іх ня прымала, лічучы неабходным заслухаць усе 4 ячэйкі ЛКСМБ, а потым ужо прыняць адну агульную рэзалюцыю для ўсіх 4 ячэек ЛКСМБ. Прашло больш 2 мес. і камсамольскія ячэйкі партыйных дырэктыў не атрымалі.

Некаторыя парт'ячэйкі і нават РК КП(б)Б пры заслухоўваньні справаздач ячэек ЛКСМБ абмяжоўваюцца такімі пастановамі, якія ніякае карысьці для камсамолу не даюць. Селішчанская ячэйка Гарадоцкага раёну пры заслухоўваньні справаздачы сакратара камсамольскае ячэйкі выносіць пастанову: „падняць дысцыпліну сярод актыву і трымаць цесную сувязь з ячэйкай КП(б)Б праз упаўнаважанага“. Бюро Пралетарска-Слабодзкага РК КП(б)Б (Віцебск) выносіць такую пастанову: „прапанаваць ячэйцы КП(б)Б зьвярнуць больш увагі штодзеннаму кіраўніцтву ЛКСМБ і больш рэгулярна заслухоўваць вылучаных партпрымацаваных да ячэйкі ЛКСМБ“. Такіх пастаноў, мы знойдзем шмат у ячэйках і РК КП(б)Б і ў другіх арганізацыях, а ня толькі ў Віцебскай.

Пастанова ЦК Усе КП(б) ад 11 лютага 1929 г. „Аб чарговых задачах камсамольскай работы і задачах партыйнага кіраўніцтва камсамолам“, у якой канстатуецца „наліччa выпадкаў ізвращчэньня парткіраўніцтва і зажыму самадзейнасьці камсамольцаў...“ пацьвярджаецца цэлым шэрагам канкрэтных фактаў з жыцьця арганізацый КП(б)Б. Адзначаюцца факты калі партыйнае кіраўніцтва пераходзіць

у дробязную апеку, альбо зусім скажаюцца асноўныя прынцыпы ўзаемаадносін паміж партыяй і камсамолам. Вось некаторыя з іх:

Аляксандраўская ячэйка КП(б)Б (Гарадоцкі раён) на сваім агульным сходзе ставіць пытаньне аб выключэньні з камсамолу і прапануе камсамольскай ячэйцы, каб яна правяла гэта ў жыцьцё.

Кузьмінская ячэйка КП(б)Б (таго-ж раёну) за непрадстаўленьне своечасова пляну работы камсамольскае ячэйкі сэкратару ячэйкі ЛКСМБ дае вымову, у той час, як ён не зьяўляецца ні сябрам, ні кандыдатам партыі.

Цэхячэйка дрэваапрацовачнага цэху заводу „Чырвоны Мэталісты“ на паседжаньні бюро слухае: „Інформацыю сакратара ячэйкі ЛКСМБ аб мэтазгоднасьці існаваньня ячэйкі ЛКСМБ“. Спрэчкі: падаюцца довады, што ячэйцы існаваць у далейшым няма ніякага сэнсу з прычыны таго, што ў склад ячэйкі ўваходзяць сябры і кандыдаты партыі. Росту ячэйкі няма і няма за кошт каго расьці. Пастанавілі: „Даручыць бюро ячэйкі партыі высьветліць становішча камсамольскае ячэйкі дрэваапрацовачнага цэху“. Праўда, на такую пастанову цэхячэйкі вельмі хутка рэагавала бюро партыйнага калектыву заводу „Чырвоны Мэталісты“ і адмяніла яе. Але-ж гэта вельмі яскрава сьведчыць аб неразуменьні ролі камсамольскіх ячэек на вытворчасьці некаторымі камуністамі і нават цэлымі ячэйкамі.

Факты, якія мы вышэй падалі, сьведчаць аб тым, што пры правільным палітычным кіраўніцтве камсамольскімі арганізацыямі з боку шэрагу партыйных арганізацый у штодзеннай практыцы партыйнага кіраўніцтва ёсьць шэраг буйнейшых недахопаў.

Прычыны гэтага караняцца, *па-першае*,—у недаацэнцы паасобнымі партыйцамі, нават некаторымі партыйнымі ячэйкамі, камсамолу, абход камсамольскіх ячэек пры правядзеньні ў жыцьцё пастаноў партыі, якія датычацца камсамолу; *па-другое*,—у незнаёмстве з камсамольскай работай нават тых членаў партыі, якія вылучаны для работы ў ЛКСМБ; *па-трэцяе*,—у недастатковасьці праверкі вышэйшымі партыйнымі органамі выкананьня нізавымі арганізацыямі дырэктыў па пытаньням парткіраўніцтва камсамолам.

III

Дзейнасьць камсамолу, як рэзэрву партыі, яскрава відаць з факту росту партыйнай арганізацыі за кошт камсамолу. Ужо цяпер наша партыя бярэ *адну трэцюю* частку свайго складу з камсамолу. Вось цікавыя лічбы росту партыі за кошт камсамолу па Віцебскай арганізацыі:

| ПЭРЫЯДЫ. | Прынята ў кандыдаты | | | Пераведзена ў члены партыі | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Усяго | Камсам. | % камсам. | Усяго | Камсам. | % камсам. |
| Кастрычнік—Сьнежань 1927 г. . | 469 | 150 | 32% | 64 | 20 | 32% |
| Студзень—Сакавік 1928 г. . . | 613 | 201 | 33% | 301 | 68 | 23% |
| Красавік—Чэрвень 1928 г. . . | 25 | 13 | 52% | 60 | 22 | 37% |
| Ліпень—Верасень 1928 г. . . | 113 | 47 | 41% | 73 | 32 | 45% |
| Усяго за год . . . . . | 1220 | 411 | 34% | 498 | 142 | 29% |

Інакш справа абстаіць, калі паглядзець на тэмп росту партыйнай арганізацыі, камсамольскай арганізацыі і партыйнага асяродку ў камсамоле. У свой час ЦК УсеКП(б) даў дырэктыву аб тым, каб партыйны асяродак у камсамоле складаў ня менш 25%. На справе-ж ва ўсёй КП(б)Б мы маем 11,2% партасяродку, пры гадавым росьце яго ўдзельнай вагі на 1,7% (з 9,5% да 11,2%). Па асобных-жа арганізацыях тэмп росту партыйнага асяродку ў параўнаньні з тэмпам росту ўсяе камсамольскае арганізацыі затрымліваецца. Вось што мы бачым па Віцебскай арганізацыі аб тэмпе росту партыі, камсамолу і партасяродку:

| ГАДЫ. | Партыя (членаў і кандыдатаў) | | Камсамол (чл. і кандыдатаў) | | Партасяродак | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Абс. лічбы | Тэмп росту | Абс. лічбы | Тэмп росту | Абс. лічбы | Тэмп росту |
| На 1/X 1926 г. . . . . | 3387 | 100% | 8688 | 100% | 724 | 100% |
| На 1/X 1927 г. . . . . | 3496 | 103,2% | 8077 | 93% | 824 | 114% |
| На 1/X 1928 г. . . . . | 4623 | 136,5% | 9131 | 105,1% | 1147 | 158% |

Удзельная вага камсамольцаў у Віцебскай партыйнай арганізацыі і партыйцаў у камсамольскай арганізацыі зьмяняліся на працягу 3-х год такім чынам: камсамольцаў у партыі павялічылася з 21,4% у 1926 г. да 24,8% у 1928 г., партыйцаў у камсамоле павялічылася з 9% да 12,5%.

Дынаміка сацыяльнага становішча партыйнага асяродку за апошнія 3 гады паказвае станоўчыя вынікі: рост рабочых з 59% да 73%, пры памяншэньні сялян з 28% да 18% служачых, з 11% да 7% і стабільнасьці іншых.

Удзельная вага партыйнага асяродку сярод членаў ЛКСМБ на 1 кастрычніка 1928 года па Віцебскай арганізацыі характарызуецца наступнымі данымі:

| | Усяго | Прамысл. і трансп. рабочых | Сельска-гаспад. раб. і батракоў | Сялян-беднякоў | Сялян-серадняк. | Служач. і грамадз. работы | Саматужнікаў | Іншых |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Членаў ЛКСМБ . . . . . | 9131 | 3433 | 570 | 3110 | 1216 | 394 | 291 | 117 |
| З іх чл. і канд. парт. да 23 год уключна . . . . . . | 572 | 418 | — | 42 | 59 | 38 | 5 | 10 |
| У % да агульнага ліку камсамольцаў . . . . . . | 6,3% | 12,2% | — | 1,4% | 4,8% | 9,7% | 1,7% | 8,6% |

Усе прыведзеныя даныя дазваляюць нам зрабіць некаторыя вывады з пункту погляду ажыцьцяўленьня партыйнага кіраўніцтва камсамолам: *па-першае,*—тэмп росту партыйнага асяродку, калі параўнаць з тэмпам росту ўсяе камсамольскае арганізацыі, надзвычайна марудны і ня можа задаволіць партыю; *па-другое,*—надзвычайна палітычна небясьпечным зьяўляецца той факт, што ў складзе партыйцаў-камсамольцаў узростам да 23 год зусім няма сельска-гаспадарчых рабочых і батракоў,

а беднякоў толькі 42 чал., альбо 1,4%—гэта на 3110 камсамольцаў-беднякоў; *па-трэцяе,*—у складзе партыйцаў-камсамольцаў (1147 чал.) перарасткі складаюць (575 чал.) 50%.

Адсюль перад партыйнымі арганізацыямі ставіцца буйнейшая палітычная задача *павялічэньня партыйнага асяродку ў камсамоле шляхам больш шпаркага ўцягненьня ў партыю камсамольцаў-рабочых, батракоў і беднякоў.*

Мы падыйшлі да ацэнкі партыйнага асяродку ў камсамоле з колькаснага боку. Цяпер паглядзімо на якасьць, як працуе партыйны асяродак і які ўплыў ён мае на работу ў камсамоле. Па гэтаму пытаньню дамо слова таксама партыйным арганізацыям.

Віцебскі (вясковы) РК КП(б)Б у сваёй рэзолюцыі па дакладу аб стану актыву ЛКСМБ і работы з ім, канстатуе:

> „*слабы партасяродак актыву,* асабліва за лік дзяўчат, *недастатковасьць дысцыпліны* сярод актыву ў некаторай яго частцы, у прыватнасьці *партыйцаў-камсамольцаў* (неяўка на пленумы РК, нарады, зрыў сходаў ячэек і г. д.); адсутнасьць пэрсанальнай адказнасьці за даручаную работу ў паасобных актывістаў, слабое кіраўніцтва РК ЛКСМБ выхаваньнем актыву“.

Сураскі РК КП(б)Б у выніках праверкі работы партпрымацованых да ячэек ЛКСМБ канстатуе наступнае:

> „парт‘ядро Сураскае камсамольскае арганізацыі складаецца з 32 асоб, з іх ёсьць і перарасткі, *частка партыйцаў-камсамольцаў удзелу ў рабоце ячэек КСМ не бяруць“.*

Найбольш яскравую і сапраўдную ацэнку ролі партыйнага асяродку ў камсамоле і партыйнага кіраўніцтва асяродкам дае Пролетарска-Слабадзкі РК КП(б)Б у прынятых ім „вывадах становішча парткіраўніцтва камсамолам па Пролетарска-Слабодзкаму раёну“. У гэтым дакумэнце мы знаходзім такую ацэнку:

> „маецца шэраг зьявішчаў у настроях партыйнага ядра: а) падзеньне камсамольскае дысцыпліны сярод камсамольцаў-партыйцаў; б) увіліваньне ад камсамольскае работы („я ўжо партыец, маю партнагрузку і камсамол мне ні па чом“); в) выпадкі недастатковага ўсьведамленьня свае ролі, як партыйца; г) выпадкі загрузкі камсамольцаў-партыйцаў партыйнай работай у сувязі з чым атрымоўваецца адрыў ад камсамольскай работы; д) недастатковая наогул уцягненасьць у агульную партыйную работу камсамольцаў-партыйцаў, адсюль недастатковае выхаваньне на практычнай рабоце камсамольцаў-партыйцаў“.

Гэткае-ж самае становішча з партыйным асяродкам падцьвярджаюць матар‘ялы і іншых акруг БССР.

## IV

Камсамол зьяўляецца шырокай камуністычнай арганізацыяй працоўнай моладзі, якая стаіць найбольш блізка да партыі і адыгрывае аграмадную ролю ў справе практычнага правядзеньня лініі партыі і ўзмацненьня дыктатуры пролетарыяту. Камсамольскія арганізацыі ў асноўнай сваёй масе даюць рэальную дапамогу справе сацыялістычнага будаўніцтва і адзінадушна падтрымліваюць партыю ў яе змаганьні за правільную ленінскую лінію супроць усялякіх спроб адыходу ад бальшавіцкіх прынцыпаў. Камсамольскія арганізацыі цьвёрда памятаюць пра свае міжнародныя абавязкі, непарыўнасьць сваіх задач з задачамі міжнароднае рабочае клясы.

Але было-б, аднак, вялікай памылкай супакоіцца на гэтым канстатаваньні агульнага нармальнага становішча камсамолу. Пры агульным нармальным становішчы мы павінны бачыць і новыя цяжкасьці, з якімі сустракаецца камсамол у сваёй рабоце і якія ён павінен перамагчы.

Мы не павінны плюшыць воч на *спэцыфічныя адзнакі* яго разьвіцьця і пасьпяхова змагацца з хваравітымі зьявішчамі ў камсамольскім асяродзішчы.

Зразумела, калі вырас наш камсамол, то разам з тым *вырасьлі і цяжкасьці кіраўніцтва* ім. Асноўная цяжкасьць складаецца з таго, што нам трэба ажыцьцяўляць кіраўніцтва камсамолам у новых умовах сацыялістычнае рэканструкцыі нашай краіны і абвастрэньня клясавай барацьбы, на новай базе, і гэтым самым „арганізатарскую ролю пролетарыята“ (Ленін) праводзіць палепшанымі мэтадамі, запатрабаваньні пралетарскіх мас да кіраўніцтва павысіліся. Ідэёвы ўзровень беспартыйнай рабочай моладзі, членаў партыі і камсамолу значна вырас. Рабочая моладзь імкнецца (і правільна) цалкам скарыстаць свае правы ў адносінах да кіраўніцтва. Толькі тое партыйнае кіраўніцтва будзе на вышыні свае задачы, якое будзе дзейнічаць на аснове разгортваньня пралетарскай унутры-камсамольскай дэмакратыі і безадмоўнага і сумленнага правядзеньня ў жыцьцё агульна-партыйнай лініі па ўсіх пытаньнях сацыялістычнага будаўніцтва.

Камсамольскія канфэрэнцыі ў раёнах (канец 1928 г.) выявілі шэраг фактаў адмоўнай грамадзка-палітычнай актыўнасьці камсамолу. Прасочваньне ў камсамол сацыяльна-чужых элемэнтаў, замазваньне палітычнай ролі камсамолу, асабліва на вёсцы „беспрынцыповае дзеляцтва“ у рабоце некаторых камсамольскіх арганізацый, незразуменьне неабходнасьці вывучаць рэвалюцыйную тэорыю і недаацэнка яе ў штодзеннай рабоце камсамолу, рост нацыяналістычных настрояў, шавінізму, антысэмітызму, антырэлігійнай няўстойлівасьці сярод камсамольцаў, п'янства і хуліганства, палавая распуста і інш.—усё гэта факты не адзіночныя і досыць вядомыя нашай пралетарскай грамадзкасьці.

У аснове гэтых адмоўных зьявішч у камсамольскіх арганізацыях ляжаць: 1) незразуменьне значнай часткай камсамольцаў усёй складанасьці сацыяльна-эканамічных умоў і палітыкі партыі ў бягучы пэрыяд; 2) немагчымасьць задаволіць культурна-эканамічныя патрэбы моладзі (заработак, беспрацоўе, дрэнныя жыльлёвыя ўмовы і інш.); 3) узмацненьне работы нашых клясавых ворагаў (кулакоў, нэпманаў, папоў, ксяндзоў, равінаў) і агэнтаў, якія выкарыстоўваюць нашы сучасныя цяжкасьці сацыялістычнага будаўніцтва; 4) наліччa бюракратызму ў нашых партыйных, савецкіх, прафэсыянальных органах у справе абслугоўваньня працоўнай моладзі і 5) недастатковае разгортваньне масавай пралетарска-клясавай выхаваўчай работы партыйнымі і камсамольскімі арганізацыямі.

Роля некаторых партыйных ячэек і РК КП(б)Б у барацьбе з такімі палітычнымі зьявішчамі ў камсамоле абмяжоўваецца часам тым, што яны зьяўляюцца проста „пасыўнымі гледачамі“ таго, што навокал іх адбываецца, як гэта паказалі факты Чашніцкай, Сураскай, Глускай, Каралінскай арганізацый.

Такім чынам, перад партыйнымі арганізацыямі стаіць задача дапамагчы камсамолу разгарнуць настойлівую і ўпартую работу ў галіне палітычнага выхаваньня моладзі і вывучэньня рэвалюцыйнай тэорыі.

Задача палітычнага выхаваньня моладзі ў сучасных умовах складаецца з таго, каб ускрываць перад маладым пакаленьнем рабочае клясы сучасную савецкую сапраўднасьць, паказваць твар *клясавага ворага* і міжнароднага і ўнутранага і адначасна сыстэматычна вы-

сьвятляць *заваёвы пралетарскай дыктатуры,* вучыць яго як патрэбна *цаніць і бараніць* гэтыя заваёвы. А гэтага нельга дамагчыся без заўсёдышнага супроцьстаўленьня таго, што *ёсьць,* таму, што *было,* без высьвятленьня *розьніцы* паміж пэрыядамі *да* і *пасьля* заваёвы дыктатуры пралетарыятам. Гэтая задача асабліва востра становіцца таму, што маладыя рабочыя ня маюць дасканалага ўяўленьня аб старым фабрыканце, аб капіталістычнай эксплёатацыі і г. д. Як ні цяжка выконваць задачу клясавага выхаваньня моладзі, але-ж партыйныя арганізацыі павінны за яе ўзяцца як сьлед. Толькі пры гэтых умовах маладыя кадры рабочых і камсамольцы будуць мець *маштаб* для ацэнкі нашых дасягненьняў і зразумеюць, за што рабочыя і сяляне змагаліся ў Кастрычніку 1917 г.

Зразумела, што камсамольскія арганізацыі аднымі ўласнымі сіламі вялізарную масу маладняка пераварыць і выхаваць не здалеюць, дапамога-ж партыйнымі арганізацыямі даецца недастатковая. *Цікава тое, што найбольшы адсеў даюць якраз тыя камсамольскія ячэйкі, на якіх партыйныя ячэйкі тых самых прадпрыёмстваў не аддавалі належнае ўвагі.* У выніку мы маем у шмат якіх камсамольскіх ячэйках некаторы палітычны застой, нараджэньне „мёртвых душ" і дабраахвотнае выбываньне.

*Бяз больш сур'ёзнай дапамогі камсамолу партыйнымі сіламі пры тым росьце камсамолу, які мы маем за апошнія гады, працэс адсеву ня можа быць уведзены ў нармальнае рэчышча.*

У нашай практыцы значная частка тых прапагандыстаў, якія вылучаюцца партыйнымі арганізацыямі для камсамолу, маюць нізкую кваліфікацыю. З іхнае палітычнай прапаганды выходзіць палітычная трэсканіна, ад якое камсамол, зусім правільна, рэзка адмаўляецца. *У бліжэйшыя гады партыйным арганізацыям трэба рашуча адмовіцца ад практыкі даваць камсамолу слаба кваліфікаваных агітатараў і прапагандыстаў.* Значэньне камсамольскае палітвучобы павінна быць пастаўлена на адзін узровень са значэньнем партыйнай асьветы для членаў партыі.

---

З. Чухман.

# Стан і работа кравецкай фабрыкі „Комінтэрн“.

*(Гомель)*

## Організацыя фабрыкі і ячэйка.

Апошні год—організацыйны пэрыяд фабрыкі, калі з арцелі краўцоў (120 ч.) стваралася фабрыка, на аснове ўжыцьця новых для гомельскіх краўцоў мэтадаў і сыстэмы работы: падзел працы, конвеер і інш. Гэты пэрыяд для ячэйкі і для касьцяка рабочых меў вялікія труднасьці, якія павялічаны яшчэ больш з прычыны таго, што калі на фабрыку стала паступаць новая рабочая сіла, значная часьць якой не кваліфікаваная (былыя саматужнікі і местачковы элемэнт). Усё гэта гаворыць за тое, што парт'ячэйцы прышлося прарабіць вялікую працу. Гэтая праца, натуральна, праходзіла не без памылак, ды часам і буйных. Ніжэй на аснове аналізу працы ячэйкі пастараемся ўказаць асноўныя з іх і прычыны гэтых памылак.

## Устанаўленьне норм і расцэнак.

Пераход на новую сыстэму працы, натуральна запатрабаваў многа ўвагі і работы: пераразьмеркаваньне рабочай сілы па цэхах, па працэсах працы, устанаўленьне новых норм расцэнак—усё гэта справа складаная. Каб палегчыць гэтую работу і ўнікнуць лішніх памылак, работу трэба было-б праводзіць найбольш масава з прыцягненьнем рабочых да абмеркаваньня і прапрацоўкі гэтых пытаньняў. У рачаіснасьці справа была ня зусім так. Нават ня ўвесь інструктарскі тэхнічны пэрсонал прыцягваўся да гэтае работы. Калі яшчэ ў дадатак улічыць консэрватызм значнай часьці рабочых, якія вельмі туга ідуць на навіны, галоўным чынам, з прычыны боязьні паніжэньня заработнай платы, ды натуральна, гэтыя мерапрыемствы выклікалі нездаваленьне з боку рабочых. Гэтых нездаваленьняў у значнай ступені можна было ўнікнуць пры больш шырокім асьвятленьні і масавай прапрацоўцы гэтых пытаньняў. Гэта прапрацоўка была невыстарчальна таксама і сярод членаў партыі. Партарганізатары таксама ня досыць былі знаёмы з гэтымі мерапрыемствамі і не маглі даваць разьясненьняў і адказаў рабочым на хвалюючыя іх пытаньні.

Пры вывучэньні норм паасобныя рабочыя нясумленна адносіліся да гэтай справы, часта злоўжывалі, ухіляліся ад працы, з тым, каб паказаць меншую выпрацоўку для ўстанаўленьня норм. *Гэта рабілі і паасобныя члены партыі.* „Ты крадзеш у рабочых“—казалі некаторыя таму рабочаму, які даваў пры рабоце большую выпрацоўку. На фабрыцы існуе ўжо як-быццам агульна-прызнаная ісьціна, што калі працуеш не ад штукі, пасярэдняму, „на гаспадарскім хлебе“—на мове рабочых фаб-

рыкі, дык працаваць інтэнсыўна ня трэба. Тут і мітынгоўшчына, гутаркі, курэньне і г. д.

Вельмі цікавы ў гэтых адносінах шапачны цэх. Адзін малады рабочы расказваў на нарадзе беспартыйнага актыву: „шапачны цэх працуе цяпер на „хлебе гаспадара“. Калі загадчык ідзе, тады бяруцца за работу, а так кураць сабе, гутараць і г. д., для таго, каб прышыць брыль, рабочыя кажуць, што трэба толькі пяць хвілін, ня менш; так і робяць і сочаць за тым, каб гэта цягнулася ня менш 5 хвілін. Адміністрацыі прышлося паставіць новых людзей для вывучэньня гэтых норм. Вось узоры адносін да працы, *а´ ў гэтым-жа невялікім цэху ёсьць 7 чалавек членаў партыі.*

Ня гледзячы на ўсё гэта, на фабрыцы ўсё-ж, наколькі цяпер ужо можна судзіць, устаноўлены ў асноўным правільныя нормы і падыход да ўстанаўленьня іх быў правільны. У некаторых цэхах у паасобных рабочых назіраецца паніжэньне заработнай платы. Гэта тлумачыцца тым, што рабочыя на новых процэсах работы яшчэ не дасягнулі адпаведных навычак у гэтай рабоце (працуюць усяго толькі адзін месяц) і яшчэ не даюць належнай продукцыйнасьці. Справа стаіць горш з нормамі ў нагавічным цэху: там, відавочна, дапушчан рад памылак, якія трэба безадкладна выправіць. Тут увесь цэх гаворыць аб гэтым і часьць рабочых недавырабляе ўстаноўленых норм.

## Прастоі.

Організацыйны пэрыяд дае солідныя лічбы прастояў, якія адбываюцца пераважна з прычыны няўвязак у процэсе работы. Так, за кастрычнік, сьнежань, усяго прастояў было 1.107 рабочых гадзін. Люты—пачатак новай сыстэмы работы (конвеернай)—дае наступныя лічбы прастояў:

| | 1-я палова лютага | 2-я палова лютага |
|---|---|---|
| Пінжачны цэх | —426 рабоч. гадз. | 154 рабочых гадзін |
| Нагавічны „ | —852 „ „ | 624 „ „ |

Другая палова лютага паказвае, што ў меру рэгуляваньня і лепшай організацыі працы прастоі значна памяншаюцца, хоць яны яшчэ вельмі вялікія, асабліва ў нагавічным цэху, дзе яшчэ ня ўсё клеіцца і дзе яшчэ няма выстарчальнай увязкі ў пастаноўцы ўсёй работы.

## Якасьць.

Якасьць выпусканай прадукцыі стаіць на нізкім узроўні, часта лік пераробак дасягае 60-70 процантаў па нагавічнаму цэху. Хоць і са спазьненьнем па цэхах за апошні час праведзен рад сабраньняў у справе абмеркаваньня пытаньняў якасьці, створана некаторая грамадзкая думка вакол гэтага пытаньня. Строгі кантроль і цьвёрдае кіраўніцтва з боку інструктароў, чаго на сёнешні дзень яшчэ няма, павінны палепшыць якасьць, паменшыць брак і лік пераробак.

## Працоўная дысцыпліна.

На фабрыцы ёсьць многа парушэньняў працоўнай дысцыпліны з боку рабочых. Галоўныя парушэньні: спазьненьне на работу на 10-15 хвілін, а пры рабоце на істужцы спазьненьне аднаго рабочага цягне за сабой спыненьне ўсёй істужкі. Гэта павялічвае колькасьць прастояў

За люты месяц спазьненьняў больш, як на 15 хвілін было 37. Таксама наглядаюцца выпадкі размоў і курэньня ў часе работы, што бязумоўна адбіваецца на якасьці і на прадукцыйнасьці вырабу. Ёсьць выпадкі непаслушэнства інструктарам і нават загадчыку фабрыкі. На фабрыцы здараюцца паасобныя дробныя крадзежы: голак, нітак і інш. Быў выпадак крадзежу аднаго мэтру сукна. Улічваючы даны склад рабочых, ячэйцы трэба з асаблівай настойлівасьцю праводзіць работу ў справе выхаваньня іх наогул і асабліва ў пытаньні працдысцыпліны. Пытаньне аб узмацненьні працоўнай дысцыпліны члены партыі таксама ня досыць добра ўсвоілі. Ёсьць гутаркі з боку паасобных членаў партыі, што пастанова Савнаркому аб узмацненьні працоўнай дысцыпліны няправільна, што моў, у нас горш, чым у капіталістычных краінах. Ясна, што гэтыя члены партыі адбіваюць настроі адсталых рабочых на фабрыцы, якія яшчэ не пераварыліся ў рабочым катле. *Парт'ячэйка з такімі настроямі, з парушэньнямі працдысцыпліны з боку членаў партыі не вядзе належнага змаганьня. У гэтым асаблівая слабасьць бюро ячэйкі.*

### Масавая і выхаваўчая работа.

Для правядзеньня масавай выхаваўчай работы на фабрыцы няма належных умоў, няма клюбу. Усё-ж пры большай увазе да гэтай работы, большай ініцыятыве і правільнай устаноўцы можна было-б шмат чаго зрабіць і ў тым чырвоным кутку, які ёсьць. Апошні няправільна, не пагаспадарску выкарыстоўваецца: вечны бруд, непарадак і інш.

Работа з беспартыйным актывам па лініі ячэйкі зусім не праводзілася, а па лініі профэсыянальнай праводзілася вельмі слаба. Разам з тым праведзенае дасьведчаньне ў процэсе агляду склíканьня беспартыйнага актыву па лініі ячэйкі пераканала бюро ячэйкі ў карыснасьці такой работы з актывам. Беспартыйны актыў таксама застаўся вельмі здаволены ад такіх сходаў [1]).

Гэтак сама слаба стаіць справа з выхаваўчай работай сярод работніц, якія складаюць на фабрыкі вялікі процант (больш 35 %), а тут-жа, як вядома, патрэбна больш сур'ёзная і глыбокая работа. Большасьць іх на фабрыцы працуе нядаўна Па свайму культурнаму і палітычнаму ўзроўню стаяць вельмі нізка. Тут няма належнай дапамогі жаночаму організатару, у якой не хапае сіл самой справіцца з такой вялікай работай.

Палітычнай і іншай вучобай ахоплен невялікі процант рабочых фабрыкі ў тым ліку камсамольцаў. Крыху лепш стаіць справа з вучобай у парт'ячэйцы, але і тут з прычыны пераходу на двухзьменную работу справа пагоршылася—яшчэ не пасьпелі прыстасавацца да зьмен.

З рабкорамі амаль не праводзіцца ніякай работы; яны на фабрыцы складаюць невялічкую колькасьць 30—35 чал. з ліку больш як 500 рабочых. Насьценгазэта за апошні час пачала выходзіць друкаваная, але яна выпускаецца рэдка, адзін раз у шэсьць тыдняў.

Работа на фабрыцы праводзіцца ў большасьці на яўрэйскай мове. Ёсьць яшчэ пагардлівыя адносіны некаторых членаў партыі да яўрэйскай мовы, нават тых, якія добра ёю ўладаюць. Заўважваюцца некаторыя нездаваленьні рабочых іншых нацыянальнасьцяй, якія ня поўнасьцю абслугоўваюцца, не даюць поўных перакладаў пісьмовых матар'ялаў

[1]) У процэсе дасьледваньня дасьледчыкам праведзена два сабраньні з беспартыйным актывам па зьменах. Першае сабраньне абмеркавала пытаньне: „Чаму беспартыйны рабочы актывісты фабрыкі яшчэ не знаходзіцца ў партыі" і другое: „Чаму слаба працдысцыпліна на фабрыцы".

па пытаньнях на сходах, пасяджэньнях і г. д. Вывучэньне беларускай мовы праводзіцца слаба. Актыў ячэйкі таксама неахвотна яе вывучае.

Работа ў дабравольных таварыствах пастаўлена надзвычай кепска. Некаторыя з іх зусім распаліся. (ТДД, ТДН), другія ня маюць сваіх бюро (МОПР, шэфтаварыства), трэція не перабіраліся па два гады. Пабудова грамадзкіх ячэек няправільна: яны яднаюцца ў гарадзкім маштабе (пры саюзе), ня існуюць самастойна пры фабрыцы.

З гэтага кароткага апісаньня відаць, што ўся культмасавая работа на фабрыцы пастаўлена вельмі кепска. Найбольш важным момантам, недахопам у гэтай рабоце, апроч яе слабага стану, *зьяўляецца няправільная мэтавая ўстаноўка ва ўсёй выхаваўчай рабоце.* А тая работа, якая праводзілася, ня была ўвязана з умовамі фабрыкі, з патрэбамі рабочых і вытворчасьці. Вышэй я казаў аб слабасьці працоўнай дысцыпліны, момантах крадзежаў, нізкай якасьці прадукцыі і г. д., па гэтай лініі вельмі слаба праводзілася выхаваўчая работа. Агляд вытворчай нарады прайшоў вельмі бледна. Ячэйцы і тут не ўдалося праз гэты агляд мобілізаваць грамадзкую думку фабрыкі вакол пытаньняў вытворчасьці.

Другое найбольш важнае пытаньне ва ўмовах фабрыкі і наяўнасьці данага складу рабочых, па якім таксама не мобілізавана грамадзкая думка фабрыкі і не вялася выхаваўчая работа,—гэта *яўрэйскі шовінізм.* Тут трэба проста сказаць, што організацыі на прадпрыёмстве, на чале з парт'ячэйкай дапусьцілі хібу, яўна недааценіўшы шкоднасьці і контр-рэволюцыйнасьці гэтага моманту, які значна пашыран на фабрыцы. Вось узоры тых гутарачак, якія ёсьць і „красуюць" на фабрыцы, не атрымліваючы ніякага адпору ні з боку членаў партый, ні з боку камсамольцаў і рабочых. „З рускім нічога ня зробіш", „з рускім за горад далей вярсты ня ідзі". „Эйсофс глотке, фоньке—хроп" і іншыя ня менш „узорныя выразы". На гэту заразу хварэюць ня толькі ў некаторай частцы беспартыйныя рабочыя, але і некаторыя члены партыі. Адзін член партыі, работніца, на сабраньні заявіла, што ёй на прадпрыёмстве жыцьця не даюць, ёй надакучаюць: як, моў, яна, яўрэйка, можа жыць з мужам рускім, колькі раз, моў, ён цябе выганяў, біў і г. д. А вось другі гатунак шовінізму, вялікарускі, пагарда да яўрэйскай мовы: „Чаму ты ўвесь час гаворыш паяўрэйску, ты нацыяналісты". Такое абвінавачаньне кінуў адзін член партыі другому.

*З гэтай заразай парт'ячэйка не вяла належнага змаганьня,* пасобныя рабочыя члены партыі былі нават нездаволены, калі ў выпадах гэты момант быў, як мае быць завостраны, лічачы, што чым больш выпінаюць гэтыя моманты, тым горш. Трэба, моў, як мага цярплівей падыходзіць да гэтых пытаньняў „цярпліва выслухоўваць", не „распальваць страсьці" і г. д. Такім спосабам мы бачым, што галоўны недахоп у правядзеньні культмасавай работы, апроч слабай пастаноўкі гэтай работы наогул,—*гэта разрыў паміж патрэбнасьцямі і ўмовамі на фабрыцы і той абстрактнай работай, якая праводзілася.*

### Унутры-ячэйковая работа.

Парт'ячэйка вялікая, мае больш за 100 чалавек. Склад здавальняючы. Да 50 процантаў членаў партыі са стажам з 1917 па 1922 год. Парт'ячэйка ў асноўным здаровая. Выходзячы з гэтых якасных і колькасных паказальнікаў здавалася-б, што і работа тут павінна быць пастаўлена больш-менш здавальняюча. Але гэта ня так. Як зьмякчаючы момант гэтых недахопаў, зьяўляецца тое, што ячэйка за гэты год

вырасла амаль у два разы за лік прыбыўшых членаў партыі з іншых організацый. З гэтай прычыны ячэйка яшчэ не зраслася органічна, яшчэ не пасьпела як мае быць азнаёміцца з усімі. Усё-ж памылкі застаюцца памылкамі, недахопы — недахопамі, міма іх нельга ніяк прайсьці.

### У чым заключаюцца асноўныя слабасьці ў рабоце?

*1. Невыстарчальная паваротлівасьць, марудны тэмп работы.* Адсюль бываюць спазьненьні ў прапрацоўцы раду патрэбных пытаньняў, несваячасовае рэагаваньне на пытаньні. Прыклады: апошняе пісьмо ЦК КП(б)Б, прапрацоўка якога ў ячэйцы зацягнулася да часу сканчэньня перавыбараў саветаў. Пісьмо ЦК УсеКП(б) аб працоўнай дысцыпліне ў канцы сакавіка яшчэ ня было абмеркавана. Пытаньні новых норм і расцэнак на ячэйцы абмяркоўваліся з вялікім спазьненьнем тады, як яны амаль былі ўжо аформлены на РКК.

*2. Слабае выкананьне дырэктыў райкому і вышэйшых парторганізацый.* Адсюль тыя недахопы, што адзначаліся год таму назад, засталіся і да сёнешняга дню; яны ня зрушаны з месца, а ў некаторых выпадках наглядаецца нават пагаршэньне. Прыкладам для гэтага можа служыць кіраўніцтва камсамольскай ячэйкай. Як і раней, так і цяпер справа тут стаіць кепска. Трэба проста сказаць, што парт'ячэйка ня ведае, што робіцца ў камсамольскай ячэйцы. Усё кіраўніцтва заключаецца ў тым, што яна заслухоўвае адзін раз у год справаздачу камсамольскай ячэйкі і толькі. Работа з парторганізатарамі, важная, асабліва ва ўмовах фабрыкі, калі амаль кожны дзень бывалі навіны, зьвязаныя з работай і організацыяй фабрыкі, была пастаўлена кепска; нарады ня склікаліся, парторґанізацыі ні аб чым не інформаваліся, у выніку чаго яны не маглі даваць адказаў на пытаньні ні рабочым, ні членам партыі, якія таксама, ня ведалі аб усіх тых мерапрыемствах, што праводзіліся на фабрыцы. Аб іх яны ўзнавалі позна.

3. Часта на настроі рабочых на фабрыцы не зьвяртаюць належнай увагі і несваячасова на іх рэагуюць. Яно і зразумела. Раз парторганізатарамі, якія зьяўляюцца зьвяном, што зьвязвае бюро ячэйкі з рабочымі, не вялася работа, апошнія не інформавалі бюро аб тых настроях, што былі па цэхах. Таму магло здарыцца такое зьявішча, калі перавыбары фабкому былі касіраваны (другі раз перавыбіралі). Часта,—калі нават вядома аб настроі з прычыны невыстарчальнай яскравасьці ў організацыі і пастаноўцы работы, з прычыны таго, што некаторыя члены партыі пасыўна адносяцца да работы ячэйкі, да абароны лініі партыі,—пропозыцыі ячэйкі правальваюцца. Узорам у гэтай справе можа служыць перазаключэньне колектыўнай умовы. Пастанова ячэйкі і іншых органаў адносна непавышэньня зарплаты была правалена на сабраньні профактыву. Гэта здарылася, галоўным чынам, таму, што, папершае, члены партыі па цэхах не праводзілі належнай работы, падругое, слаба прымалі ўдзел на сходзе самаго актыву. На гэтым сабраньні члены партыі з дэлегацкага інстытуту ў большасьці сваёй не зьявіліся, за выключэньнем некаторых. З боку бюро ячэйкі ня былі прыняты меры для таго, каб забясьпечыць поўную яўку ўсіх членаў партыі, якім належала быць на гэтым сабраньні.

*4. Есьць моманты хвасьцізму і, як я ўжо казаў вышэй, моманты парушэньня працоўнай дысцыпліны. Члены партыі ня служаць прыкладам на вытворчасьці.* Былі факты, калі члены партыі зьяўляліся канаводамі пры апратэставаньні пастаноў трацейскага суду аб расцэнках праз колектыўная заявы. „Пастанова Саўнаркому аб узмацненьні

працоўнай дысцыпліны няправільная". „Чаму так цяжка працаваць на соцыялістычным прадпрыёмстве?" Такія гутаркі выходзяць з вуснаў членаў партыі. Пры абмеркаваньні пытаньня аб уцягненьні ў партыю рабочых, на сабраньні беспартыйнага актыву былі такія заявы беспартыйных рабочых-актывістых:

„Часта члены партыі скажаюць лінію партыі, не зьяўляюцца прыкладнымі на вытворчасьці, гэта адпіхвае ад уступленьня ў партыю".

„Часамі партыец робіць скурныя вывады, няпраўду гаворыць, гэта адпіхвае ад партыі і г. д.". Гэтыя заявы ў значнай сваёй частцы зьяўляюцца правільнымі.

5. Пытаньні правага і „левага" ухілаў у партыі сярод значнай часткі членаў ячэйкі няўсвоены. Адсюль часта выяўляюцца правыя настрої: ці не занадта мы індустрыялізуемся, ці не занадта мы нацягнулі струны і г. д. Ухілы і хістаньні ад правільнай лініі партыі не атрымліваюць належнага адпору з боку ячэйкі. Цярплівыя прымірэнцкія адносіны маюць месца ня толькі да гэтых правых настрояў і ня толькі да троцкісцкіх элемэнтаў на фабрыцы, але яны ёсьць у адносінах усякіх антыпартыйных гутарак: шовінізму, пытаньняў вытворчасьці, політыкі зарплаты і да т. п. Некаторыя члены партыі ня выканалі ў свой час дырэктывы АКК аб тым, каб члены партыі парвалі ўсякую сувязь з выключанымі з партыі троцкістымі, выкрыўшы іх сярод рабочых. Вельмі часта ячэйка „якшалася" з выключанымі актыўнымі троцкістымі, дазваляючы ім выступаць на сваіх сабраньнях, гутарачы з імі і г. д.

Парт'ячэйка не даацаніла шкоднасьці тых настрояў, якія ўносіліся троцкісцкімі элемэнтамі, былымі бундаўцамі, меншавікамі, якія ёсьць на фабрыцы і якія часамі маглі выклікаць (і выклікаюць) спачуваньне некаторых адсталых груп рабочых. Не бяз іх уплыву пытаньне аб колектыўнай умове (аб павышэньні номіналу), высунутае ячэйкай на профактыве, правалілася.

Вось адно выступленьне былога меншавіка на сабраньні рабочых: „Мы кружымся і кружымся, але рэальнага нічога няма. Гэта з таго часу, калі зьмянілася кіраўніцтва дзяржавай. (Відавочна кіраўніцтва дакастрычнікаўскае—Керанскага. *З. Ч.*). Зарплата зьнізілася, чырвонец падае і г. д." Гэта выступленьне не атрымала ніякага адпору на сабраньні, а члены партыі кажуць, гэты чалавек, моў, хворы, з ім ніводзін рабочы ня лічыцца. Ніякага аўтарытэту ён ня мае.

Ці так гэта? Праўда, што гэтыя элемэнты ў большасьці не карыстаюцца аўтарытэтам сярод рабочых. Але ў той час, калі на фабрыцы ёсьць рад труднасьцяй, калі на фабрыку ўліўся новы сыры кадр рабочых (былыя саматужнікі і местачковы элемэнт) ці-ж ня могуць яны выклікаць спачуваньне найбольш адсталых груп? Вядома, могуць, і выклікалі, асабліва ў пытаньнях нормы і расцэнак. Гэтыя людзі, бязумоўна, выкарыстоўвалі труднасьці на фабрыцы і ўносілі адмоўнае ў работу.

* * *

Вось агульная характарыстыка работы ячэйкі. Мною тут высунуты ў большасьці тыя хваравітыя зьявішчы і недахопы, якія ёсьць у ячэйцы. Трэба, каб ячэйка, асабліва яе актыў, усвоіла і ўясніла сабе ўсё гэта і тады будзе лягчэй справіцца з недахопамі. Склад ячэйкі (калі меркаваць па партстажу) такі, што ёсьць ад каго запатрабаваць.

Бюро райкому ўсе гэтыя патрабаваньні прад'явіла ячэйцы. Справа ячэйкі ўзяцца за работу, павёўшы яе па правільнаму партыйнаму шляху.

---



# ЗЬМЕСТ

*Стар*

**Передавая** Да вынікаў аб'яднанага пленуму ЦК і ЦКК УсеКП(б) і XVI парткан- фэрэнцыі . . . . . . . . . 3

**Фэйгельсон.** Дзесяць год Камуністычнага Інтэрнацыяналу . . . 7

**М. Канаплін.** Міжнародны сацыял-апартунізм на рабоце . . . . . 15

**Р. Выдра.** Да вынікаў другой марксыцка-ленінскай канфэрэнцыі . . 29 ✓

**Ал. Некрашэвіч.** Чарговыя задачы прапаганды . . . . . . 35

**П. Пасюкевіч.** Як выконваюцца прапановы рабочых . . . . 42

## На мясцох

**Конюхаў.** Аб чыстцы, вярбоўцы рабочых і росьце арганізацыі . . . 48

**Д. Алееўскі.** Папярэднія вынікі падрыхтоўкі да чысткі КП(б)Б . . . 56

**Я. Раманчук.** Камсамол і задачы партыйнага кіраўніцтва . . . 59

**З. Чухман.** Стан і работа кравецкай фабрыкі „Камінтэрн" . . . 67

ЦАНА 35 кап.

**Кожная акруговая і раённая арганізацыя КПБ, кожная ячэйка, кожны камуніст і камсамолец павінны выпісваць і чытаць „Бальшавік Беларусі“**

# АДЧЫНЕНА ПАДПІСКА на 1929 год

НА ШТОМЕСЯЧНУЮ ЧАСОПІСЬ

# „БАЛЬШАВІК БЕЛАРУСІ“

**Орган ЦК КП(б)Б**

## У ЧАСОПІСІ НАСТУПНЫЯ АДДЗЕЛЫ:

I. Кіруючыя артыкулы па асноўных пытаньнях партыйнае работы. Артыкулы аб гаспадарчым і культурным будаўніцтве. Абмен вопытам практыкі партыйнае работы. Артыкулы на міжнародныя тэмы.
II. Наша трыбуна.
III. Пытаньні партыйнае работы на мясцох, аб Чырвонай арміі і г. д.
IV. Гісторыя партыі.
V. У ЦК КП(б)Б. У ЦКК КП(б)Б. У ЦК ЛКСМБ.
VI. Крытыка і бібліяграфія.

## УМОВЫ ПАДПІСКІ:

| | | | |
|---|---|---|---|
| **1 мес.** | **35 к.** | **ДАДАТКАМ ДА ГАЗЭТЫ: „Зьвязда“, „Полесск. Правда“, „Заря Запада“, „Камуніст“ —** | |
| **3 мес.** | **1 р. 05 к.** | **1 мес.** | **25 к.** |
| **6 мес.** | **2 р. 10 к.** | **1 год** | **3 р. —** |
| **9 мес.** | **3 р. 15 к.** | | |
| **1 год** | **4 р. 20 к.** | | |

**ПАДПІСКА ПРЫМАЕЦЦА: ва ўсіх паштова-тэлеграфных канторах і аддзяленьнях, усімі аддзяленьнямі Белдзяржвыдавецтва, аддзяленьнем „Известий“ і „Правды“ і яго агентамі, спажывецкімі крамамі Белкаапсаюзу, кантрагенцтвам друку і рэдакцыямі газэт „Зьвязда“, „Полесская Правда“, „Заря Запада“ і „Камуніст“.**

*Адрас рэдакцыі: Менск, Савецкая, 45, ЦК КП(б)Б.*